Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 7 (4756) 14 лютага 2014 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 11 лютага разам з іншымі беларускімі балельшчыкамі ў Сочы павіншаваў біятланістку Дар'ю Домрачаву з бліскучай перамогай у гонцы праследавання на Алімпійскіх гульнях. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што такія спартыўныя перамогі часам лепш за ўсякую дыпламатыю садзейнічаюць фарміраванню іміджу краіны і росту яе пазнавальнасці ў свеце.

✔ Памятны знак на месцы пачатку аперацыі «Баграціён» па вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з'явіцца сёлета ў Гомельскай вобласці. Паводле міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, ён будзе ўсталяваны ў Светлагорскім раёне — менавіта там пачыналася адна з самых знакамітых аперацый Вялікай Айчыннай вайны.

✔ Маладзёжная міжпарламенцкая асамблея краін-удзельніц СНД аб'явіла міжнародны конкурс на стварэнне сваёй сімволікі. Заяўкі накіроўваюцца ў сакратарыят Савета Міжпарламенцкай асамблеі Садружнасці да 1 красавіка 2014 года.

✔ Канцэрт «Зоркі XXI стагоддзя. Падарожжа вакол свету» з удзелам беларускага піяніста Расціслава Крымера адбудзецца 16 лютага ў Арганнай зале горада Сочы. Вядомы музыкант стане адзіным музычным прадстаўніком Беларусі на Алімпіядзе-2014.

✔ Учора ў Мінску пачаўся Трэці міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова, які прадоўжыцца да 16 лютага. Фэст сабраў літаратараў з Беларусі, Ісландыі, Польшчы, Украіны, Расіі, Літвы.

✔ Заўтра ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі будзе працаваць выстаўка, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння народнай артысткі СССР Ларысы Александроўскай. Экспазіцыя створана сумесна з Дзяржаўным музеем тэатральнай і музычнай культуры. У гонар легендарнай спявачкі ў гэты вечар будзе дадзена знакамітая опера «Кармэн».

✔ Да Чэмпіянату свету па хакеі, што мае адбыцца ў беларускай сталіцы, новаўвядзенні чакаюць наведвальнікаў мінскага метро. Паводле начальніка Мінскага метрапалітэна Расціслава Юрэні, ужо ў красавіку назвы станцый у метро будуць аб'яўляць на беларускай і англійскай мовах. Усе абвесткі ў вагонах мяркуюць дубліраваць яшчэ і па-англійску.

✔ Тэлеканал АНТ аб'яўляе пачатак правядзення адбораў удзельнікаў і ўдзельніц конкурсаў прыгажосці. Нацыянальны конкурс «Міс Беларусь» — унікальны праект, які даўно стаў візітнай карткай не толькі тэлеканала, а і краіны ўвогуле. Сёлета мерапрыемства атрымаецца яшчэ больш цікавым: за карону будуць змагацца дзяўчаты і замужнія прыгажуні, а конкурс «Містар Беларусь» пакажа, на што здольныя прадстаўнікі моцнай палавіны.

**Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА**

# Лінія Кашкурэвіча


*Арлен Кашкурэвіч «Танец з мячамі».*

**Яго называюць класікам еўрапейскага графічнага мастацтва. Ілюстрацыямі гэтага мастака аздоблены сотні кніг беларускіх і замежных аўтараў. Арлен Кашкурэвіч — народны мастак Беларусі, выстаўка твораў якога адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі.**

Арлен Міхайлавіч вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (сёння — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Ужо ў першыя гады навучання становіцца на самастойны шлях мастака: публікуе ў розных выданнях малюнкі і ілюстрацыі да кніг. Як выдатны майстар графікі добра зарэкамендаваў сябе ў дыпломнай рабоце — серыі ілюстрацый да рамана ісландскага пісьменніка Хальдаура Лакснеса «Атамная станцыя» (1959). Малавядомы факт: у юнацтве творца марыў стаць акрабатам. Нават у цырку працаваў. Але ў рэшце рэшт мастацтва перамагло.

Творчая біяграфія Арлена Кашкурэвіча ахоплівае цэлую эпоху. Пачатак шляху мастака прыпадае на 1960-я гады, калі на рэспубліканскіх выстаўках з'явіліся творы новага пакалення мастакоў-графікаў: Генадзя Паплаўскага, Аляксандры Паслядовіч, Людвіга Асецкага, Алены Лось і інш. Разам са сваімі паплечнікамі А. Кашкурэвіч браў актыўны ўдзел у засваенні эстэтычных ідэалаў, новых тэм і вобразаў, мастацкіх сродкаў і формаў. Немалаважным быў зварот мастака і да эстампа. На стыль творцы найбольшы ўплыў аказалі італьянскі неарэаліст Рэната Гутуза, нямецкі экспрэсіяніст Кэце Кольвіц і інш.

Істотнае месца ў творчасці А. Кашкурэвіча адведзена кніжнай графіцы. Шмат гадоў майстар займаўся мастацкім афармленнем кнігі, плённа працаваў у галіне экслібрыса.

Яго творы — не проста ілюстрацыі да тэксту, а глыбіннае пранікненне ў сутнасць літаратурнага твора, раскрыццё яго філасофска-этычнага зместу. Ён аздобіў каля сотні кніг. І, заўсёды лічыў прыніжэннем вызначэнне «ілюстратар». Мастак. Суаўтар кнігі.

Заканчэнне чытайце на стар. 16 ▶

**Віктар ПАЛЕСКІ**

## Эдэльвейсы для Дар'і Домрачавай

*На снежных трасах у падхмар'і*
*Мароз прыціх і шмат слаты,*
*Ды першы ў Домрачавай Дар'і*
*Медаль, як трэба, — залаты!*

*І мы схіляемся ў паклоне*
*На выклік грацый і красы,*
*Хоць і ў жаночым біятлоне*
*Цяпер не лепшыя часы.*

*Патрэбна сіла, воля духу,*
*Ну і, канечне, вострый зрок.*
*Чакалі ў Сочы завіруху,*
*Ды дзень іжмыцца, як знарок.*

*Мы Дар'і пажадалі ўдачы,*
*Бо лыжы труцца да жарствы:*
*Вось пройдзены этап гарачы,*
*Рубеж узяты агнявы.*

*Хоць плач ад шчасця, хоць засмейся:*
*Суровы горны спорт, але*
*Высока ў Сочы эдэльвейсы*
*Цвітуць для Дар'і на скале.*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Быць або звацца?

На справаздачным пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі прынятая пастанова аб увядзенні выпрабавальнага тэрміну (мінімум год) для прэтэндэнтаў на ўступленне ў Саюз і адпаведнага статусу кандыдата. Нягледзячы на тое, што «за» прагаласавала большасць членаў прэзідыума, пытанне выклікала розгалас. Пісьменніцкая грамадскасць актыўна абмяркоўвае новаўвядзенне, вылучаючы яго высілкі і перавагі.



**Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ:**

— Даўно ёсць людзі, якіх мы паміж сабой называем кандыдатамі на ўступленне ў Саюз. Назіраем за іх творчым ростам, сочым за публікацыямі і выданнямі, але без усялякага афармлення. Лічу, што гэта лагічны крок: зрабіць звыклую практыку афіцыйнай, а тэрмін — юрыдычным. Праўда, я супраць таго, каб выдаваць нейкія пасведчанні.

Іншы раз з мэтай стаць членамі пісьменніцкай арганізацыі нас атакуюць занадта напорыстыя людзі. Вельмі дарэчы мець магчымасць ім сказаць: «Мы не адмаўляем вам, але пакуль што ўстрымліваемся. Будзем глядзець». Адмовіць адразу — значыць зрабіць чалавеку балюча. Тым часам няхай ён мае тэрмін для выпрабавання свайго творчага сумлення, сур'ёзнасці свайго намеру.



**Рагнед Малахоўскі, паэт, вядучы спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення СПБ**:

— Дадатковая афіцыйная адзнака — залішняя бюракратыя. За публікацыямі «кандыдата» можна назіраць і без яго адпаведнага статусу. «Кандыдат у пісьменнікі» — крыху смешна... А з іншага боку, той, хто не адразу прыняты ў Саюз, усё ж мае надзею.



**Анатоль Крэйдзіч, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ:**

— Я за тое, каб быў статус кандыдата! Але кандыдатам павінен стаць толькі той, хто павінен быць у Саюзе. Проста пакуль яму чагосьці фармальнага не хапае: прыкладам, кніга ёсць, але нестае публікацый у перыядычным друку. Такая практыка на карысць абодвум бакам. Афіцыйнаму кандыдату — гонар, што ён нечага дасягнуў і рыхтуецца да большага. Мы таксама рупімся дзеля яго, ставімся з большай цікавасцю. Гэта патрэбна тым больш, калі справа датычыць творчай моладзі. Ёсць у нас таленавітая дзяўчына Алена Дзебіш. Яна ўжо ў 16-17 год магла быць членам СПБ: мела масу прэмій і ганаровых адзнак. Толькі не было асабіста выдадзенай кнігі. Пазалетась выдала кнігу і сёлета была прынятая ў Саюз. Калі б перад гэтым А. Дзебіш мела афіцыйныя стасункі з арганізацыяй, было б лягчэй падтрымліваць яе, каб яна адчувала ўвагу і клопат, еднасць з творчай грамадскасцю.



**Алесь Марціновіч, публіцыст, пісьменнік, рэдактар аддзела крытыкі часопіса «Полымя»:**

— Калі чалавек хоча ўступіць у Саюз пісьменнікаў, то за выпрабавальны тэрмін ён можа прынцыпова і пільна папрацаваць над якасцю сваіх твораў — так бы мовіць, падцягнуцца да належнага ўзроўню. Пэўны час патрэбны і на тое, каб упэўніцца, што гэты чалавек не выпадковы ў літаратуры — упэўніцца і яму, і членам прэзідыума СПБ.

**Лея ХАШЫМБА**

# Паштоўка збліжае народы і краіны

У першы дзень XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылася ўрачыстая прэзентацыя філакартычнага скарбу Уладзіміра Ліхадзедава, лаўрэата Прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне».



Фота Кастуся Дробава

*Калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў знаёміць з экспазіцыяй Першага намесніка Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілію Ананіч.*

У якасці сапраўднага «брэнда» сёлетняй выстаўкі калекцыя паштовак не толькі заняла найбольшую плошчу — амаль увесь другі паверх, — але і прыцягнула найбольшую ўвагу з боку дзяржаўных асоб, ганаровых гасцей, грамадскасці і прэсы.

— Гэта ўнікальны праект для калекцынераў, для культуры ў цэлым, а магчыма, і для ўсяго свету, — адзначыў Алесь Карлюкевіч, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда», аднаго з арганізатараў экспазіцыі. — Упершыню на кніжнай выстаўцы прэзентуецца калекцыя старых паштовак, датаваных ад канца XIX стагоддзя да 1930-х гадоў, — вывы жыцця Беларусі, сабраныя літаральна па ўсім свеце. Зразумела, перш за ўсё гэта паштоўкі, звязаныя з роднымі мясцінамі У. Ліхадзедава — Полацкам і Полаччынай.

Павел Якубовіч, галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня», падкрэсліў, што менавіта ў газеце У. Ліхадзедаў пачаў публікаваць свае набыткі і выішкі пры непасрэдным удзеле журналісткі і пісьменніцы Людмілы Рублеўскай. Публікацыі прыцягнулі ўвагу мноства чытачоў і спецыялістаў-гісторыкаў. «Калі ў народа ёсць выбітныя творцы, інтэлектуальная эліта, — тады гэты народ сапраўды старажытны і годны», — упэўнены П. Якубовіч.

Філакартычная праца У. Ліхадзедава — прыклад таго, як прыватная ініцыятыва набывае дзяржаўную падтрымку і становіцца стымулам міжкультурнага і міжнацыянальнага ўзаемадзеяння. Першы крок ад прыватнага да дзяржаўнага — той факт, што ў межах праекта арганізаваны ўжо шэраг выставак. У Мар'інай Горцы ён паспрыяў стварэнню школьнага краязнаўчага музея. А на XXI ММКВК стэнды калекцыі з'явіліся адпраўным пунктам для вялікай колькасці падзей: навукова-практычных канферэнцый, прэзентацый, экскурсій.

Чаму прыклад, пра які ідзе гаворка, можна лічыць вызначальным? Папершае, ён натуральна гарманічна (не «ў лоб») выхоўвае Асобу, падштурхоўвае да разважання: што мы ведаем пра Беларусь? Такое пытанне задаў сабе і першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта — Выканаўчы сакратар СНД Уладзімір Гаркун. Адказаў на яго так: «Калі вы не былі ў Полацку, не бачылі гэтай славутасці нашай краіны, для вас няма карысці і ад сузірання еўрапейскіх славутасцей. Вялікі дзякуй У. Ліхадзедаву: ён робіць сваю справу для кожнага з нас».

«На паштоўках — мінулае шматлікіх краін. Нас, беларусаў, яны падштурхоўваюць дэклараваць: "Мы зберагаем гісторыю з мірам і дабром — і не толькі праз гэтую выстаўку. Мы спрычыненыя і адказныя за памяць і за будучыню сваёй краіны і ўсяго свету". З любоўю — з Беларусі!» — вітала адкрыццё экспазіцыі Лілія Ананіч, Першы намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь. «Дзякуючы калекцыі, — падкрэсліла яна, — ужо выдадзена 14 унікальных кніг: кожнаму чытачу, які іх набудзе, у кожны дом яны данясуць гісторыю, адноўленую праз творчае ўспрыманне яе сведак».

Значная частка калекцыі — вывы Беларусі і яе жыхароў у час Першай сусветнай вайны — прыцягнула ўвагу дыпламатаў, прадстаўнікоў краін, найбольш актыўна задзейнічаных у вайне. Дамінік Газюі, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь: «Усе фота, якія мы тут бачым, кранаюць да глыбіні душы. Абодва мае дзяды загінулі на гэтай вайне. Адзначэнне стагоддзя з яе пачатку хвалюе і збліжае ўсіх нас. У Францыі згадваем пра яго ў шчыльных стасунках з нашымі нямецкімі сябрамі і хочам, каб падобная катастрофа не спраўдзілася нідзе і ніколі».

Напрыканцы сустрэчы, якая стала пралогам працы глабальнага стэнда «У пошуку страчанага», У. Ліхадзедаў расказаў, як распачынаўся праект дзесяць год таму, як перасягаў фармат калекцыі паштовак і станавіўся ўніверсальным: было праведзена каля 50 выставак па свеце, уключаючы такія знакавыя пляцоўкі, як Бібліятэка Кангрэса ў ЗША і Франкфурцкі кніжны кірмаш.

Уладзімір Ліхадзедаў пракаментіраваў некаторыя часткі вялікай экспазіцыі. Увагу прыцягвае збор паштовак з вывамі праваслаўных храмаў Польшчы і Беларусі, ажыццёўлены пры ўдзеле польскага філакартыста, віцэ-мэра Беластока Аляксандра Сосны (сустрэча з ім таксама адбылася ў межах прэзентацыі праекта «У пошуках страчанага»). Да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — стэнд з фотаздымкамі Мінска канца XIX стагоддзя, а таксама разбуранага пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. У цэнтры выстаўкі размясцілася друкарская машына канца XIX стагоддзя, з дапамогай якой наведвальнікам дэманстравалася тэхніка афорту. Частку экспазіцыі складаюць рэчы паручніка Конанава, артылерыста Гродзенскай крэпасці, якая прыняла на сябе моцны ўдар немцаў у 1914 годзе. Рэчы ўражваюць, бо сведчаць пра высокі ўзровень ваеннай падрыхтоўкі і адукацыі афіцэра. Гэтую калекцыю Уладзімір Ліхадзедаў знайшоў у Латвіі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Моладзь ідзе

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» і Саюз пісьменнікаў Беларусі падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу правялі сумесную імпрэзу «Мы — маладыя».

Падчас імпрэзы выступалі збольшага паэты, чые кнігі — дэбютныя і не толькі — выйшлі ў серыі «Мінскія маладыя галасы», заснаванай СПБ. Прычым амаль усе яны даволі вядомыя. Ганна Чумакова праспявала песні на свае словы; паэтка мае кнігу «Мой анёл прысніў мяне». Самая маладая аўтарка ў СПБ, лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій Людміла Клачко піша па-руску. Яна Явіч стала адным з першых «маладых галасоў», і на імпрэзе яна чытала вершы з дэбютнай кнігі «Сувязь жыццяў». Адам Шостак выдаў кнігу «4.33» — у серыі «Маладая паэзія Беларусі». Назву зборніку даў твор амерыканскага кампазітара Джона Кэйджа — «4 хвіліны 33 секунды маўчання».

Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава распавяла пра літаратурны альманах «Мост дружбы» Выдавецкага дома «Звязда», выпушчаны летась. Пра яго мы пісалі раней на старонках «ЛіМа». Нагадаем, што ў альманаху змешчана проза маладых аўтараў Беларусі і Расіі на дзвюх мовах. Аўтары — пераможцы аднайменнага з альманахам конкурсу.

Маргарыта Латышкевіч, яшчэ адзін малады аўтар, упэўнена: «Фантазія чалавека мае неверагодную сілу, таму, калі ласка, чытайце фантастыку, а ўрэшце — усё, што толькі захочацца. Але памятайце, што фантастычная кніга — дзверы ў іншы свет. І сярод мільярдаў гэтых светаў кожны з нас можа адшукаць свой». Да слова, Святлана Дзянісава праанансавала чацвёрты нумар часопіса «Маладосць», дзе будзе змешчана фантастычнае апавяданне Маргарыты «Радыёмаўчанне».

Алёна Беланожка, празаік, кінадраматург, тэатральны драматург, рэжысёр і многа яшчэ хто, вырашыла «не травіць слухачоў прозай» і таксама пачытала вершы, якія можна пазнаць сярод тысячы іншых. Не менш цікавай за вершы была своеасаблівая прадмова да верша «На магіле Максіма Багдановіча».

У імпрэзу ўплялася яшчэ адна тэма — конкурс «БрамаМар». Яго прадстаўніком стала Аліса Мініна, адна з пераможцаў літаратурнага студэнцкага конкурсу.

Самым запамінальным і ёмістым выступленнем на імпрэзе стаўся твор Віктара Лупасіна, назва якога — «Верш з закрытым ротам». На жаль, працытаваць яго не магу па тэхнічных прычынах, але, калі будзе магчымасць паслухаць верш у аўтарскім выкананні, не праміньце!

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Сугучча!

Выдавецкі дом «Звязда» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ажыццявіў унікальны праект, прысвечаны літаратурам краін-удзельніц СНД, дзе побач — сугучныя па змесце беларускія творы.

Серыя прэзентуе лепшае ў сучаснай славеснасці, вылучае прыярытэты беларускай літаратуры на фоне адметнай сутнасці іншых літаратур, а галоўнае — сцвярджае духоўную повязь паміж рознымі, часам вельмі аддаленымі краінамі.

Гэтыя кніжкі па выхадзе ў свет на працягу 2013 года мы мелі магчымасць чытаць і гартаць па адной. Але зусім іншае — кнігазбор: сапраўднае Сугучча! Год таму на кніжнай выстаўцы пісьменнікі і выдаўцы яшчэ толькі дамовіліся наконт сумеснай працы, а на сёлетняй ММКВК — яе вынік прадставілі стваральнікі і ўдзельнікі праекта.

Алесь Бадак, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», укладальнік серыі: «За год мы выдалі 11 кніжак. Першай была кніга «Беларусь — Расія». У серыі прадстаўлена больш як 250 пісьменнікаў, некалькі тысяч твораў паэзіі і прозы. А колькі сэрцаў яны напоўняць!.. Напісаць, выдаць і нават купіць кнігу — яшчэ далёка не ўся справа. Галоўнае, каб яна яднала сэрцы чытачоў з розных краін. Я палюбіў пісьменнікаў, пра якіх ніколі не чуў».

Не мог застацца ўбаку ад знакавай прэзентацыі і Мікалай Чаргінец, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:

— Дванаццаць год я аддаў працы ў парламенце і ўдзельнічаў у стварэнні СНД. Яшчэ тады хацеў, каб нацыянальныя літаратуры жылі ў супольнасці, а пісьменнікі ведалі, што іх праца вельмі патрэбная як падмурак сяброўства між народамі».



*Фота Кастуся Дробава*

*Чынгіз Аліаглу (злева) і ўкладальнік Алесь Бадак прэзентуюць серыю «Сугучча сэрцаў».*

Чынгіз Аліаглу з Азербайджана, Эдвард Мілітанян, старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі, выказалі сардэчную падзяку ініцыятару серыі «Сугучча сэрцаў» Ліліі Ананіч, Выдавецкаму дому «Звязда» ў асобах Алеся Карлюкевіча, Алеся Бадака і Алы Корбут, беларускім перакладчыкам. «Праект «Сугучча сэрцаў» — буйная падзея ў жыцці не толькі Беларусі, але і іншых краін Садружнасці. Я думаю, што серыя будзе «працаваць», выконваць сваю ролю ці не вечна, бо пасля яе з'явяцца новыя адпаведныя выданні», — упэўнены Чынгіз Аліаглу.

Узяў слова і Навум Гальпяровіч, дырэктар радыё «Беларусь», старшыня грамадскага аб'яднання «Беларусь — Арменія». «Каб зразумець той ці іншы народ як сутнасць, трэба спасцігнуць яго літаратуру, — адзначыў творца. — Таму аўтары з розных краін не павінны існаваць ізалявана. Толькі тады размова можа ісці пра сусветную літаратуру і пра людскую супольнасць».

**Лея ХАШЫМБА**

## Віншуем

вядучага майстра сцэны, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Барыса Барысёнка, які ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны за шматгадовую плённую працу, узорнае выкананне службовых абавязкаў і высокае прафесійнае майстэрства, значны асабісты ўнёсак і дасягненні ў галіне мастацтва і культуры.

**Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача**

## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**18 лютага** — на літаратурна-музычнае свята «Для тых, хто любіць». Мерапрыемства адбудзецца ў сталічнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 17-й гадзіне.

**19 лютага** — на літаратурнае свята, прысвечанае Дню абаронцаў Айчыны, якое будзе ладзіцца ў мінскай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.

**20 лютага** — на літаратурную сустрэчу, прысвечаную памяці пісьменніка Анатоля Майсеева (пройдзе ў бібліятэцы № 5). Пачатак а 12-й гадзіне.

# Сімвал сяброўства

Фонд беларускіх бібліятэк папоўніўся ўнікальным факсімільным выданнем А. С. Пушкіна «Болдзінскія рукапісы 1830 года», якія былі створаны паэтам падчас неверагоднага натхнення і творчага ўзлёту. Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота перадаў у дар кіраўнікам кніжных скарбніц краіны збор твораў класіка ў трох тамах. Цырымонія ўручэння, закліканая ўмацаваць сяброўскія сувязі народаў, адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

«Народ нам издревле родной…», — пісаў А. С. Пушкін пра беларусаў. Роднасць пацвярджаецца багатай гісторыяй стасункаў у галіне культуры, навукі і адукацыі, а падтрымка добрых адносін — адзін з прыярытэтаў сучаснай дзяржаўнай палітыкі.

Паводле дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы, такога кшталту падзеі ў культурным жыцці Беларусі і Расіі павінны стаць з'явай звычайнай: галоўнае, каб узнікалі ідэі, запатрабаваныя ў грамадстве.

Рыгор Рапота падкрэсліў, што важнасць культуры ў жыцці дзяржавы нельга недаацэньваць, а людзі павінны арыентавацца не толькі на матэрыяльны дабрабыт. «Культура — не толькі ідэйная, але і эканамічная катэгорыя. У рэгіёнах, дзе высока ацэньваюцца пытанні культуры, людзям цікавей жыць, адтуль моладзь не з'язджае», — адзначыў дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы.



*Фота Кастуся Дробава*

*Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі дорыць Дзяржаўнаму сакратару Саюзнай дзяржавы Рыгору Рапоту факсімільнае выданне першага беларускага «Буквара».*

Паводле міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, культурная прастора Саюзнай дзяржавы дынамічна развіваецца дзякуючы абмену нацыянальнымі каштоўнасцямі і дасягненнямі. Перадача ў дар факсімільнага зборніка, які быў выдадзены супольнымі намаганнямі міністэрстваў культуры Беларусі і Расіі, — яркае таму пацвярджэнне.

У знак павагі і прызнання Барыс Святлоў падарыў Рыгору Рапоту з нагоды яго 70-гадовага юбілею факсімільнае выданне Полацкага евангелля другой паловы XII стагоддзя.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі канстатаваў, што цяпер у чытачоў ёсць магчымасць дакрануцца да вытокаў жыцця і творчасці А. С. Пушкіна, зразумець, пра што ён думаў і як ствараў свае шэдэўры.

У болдзінскіх рукапісах упершыню ў поўным аб'ёме адлюстраваны пушкінскія аўтографы, якія аднаўляюць карціну працоўных дзён паэта на працягу трох восеньскіх месяцаў 1830 года. Сярод твораў — апошнія главы «Яўгенія Анегіна», «Маленькія трагедыі», накіды крытычных і палемічных артыкулаў, лірычныя шэдэўры, ў тым ліку «Бесы», «Элегія», «Дарожныя скаргі», «Развітанне» ды іншыя. У выданне ўключана таксама 17 пушкінскіх лістоў, адпраўленых з Болдзіна, а на палях рукапісаў сустракаецца шмат яго малюнкаў і пазнак.

Урачыстае мерапрыемства адбылося ў Нацыянальнай бібліятэцы невыпадкова, бо яна, на думку Рыгора Рапоты, — цэнтр літаратурнага жыцця беларускай сталіцы.

**Марыя ВОЙЦІК**

## *Імпрэзы*

## «Паслаў мне лёс блакітную раку»

Так называлася імпрэза, дзе жыхары Касцюкоўшчыны святкавалі 100-гадовы юбілей народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.

На радзіму славутага дзеда і дзядзькі завіталі ўнук А. Куляшова Уладзімір Бербераў і пляменнік Віталь Маслоўскі, якія падзяліліся з гледачамі ўспамінамі пра цікавыя моманты з жыцця паэта.

З прывітальным словам да прысутных звярнуліся старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, дацэнт кафедры агульнага англійскага і славянскага мовазнаўства Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова Яраслаў Клімуць ды іншыя ганаровыя госці. Выступленні чаргаваліся з паэтычна-музычнымі нумарамі. Члены народнага аматарскага аб'яднання «Літаратурная гасцёўня «Крынічка» чыталі вершы юбіляра.

Аркадзь Куляшоў часта прыязджаў на Магілёўшчыну па асабістых і творчых справах, сустракаўся з мясцовымі творцамі. Успаміны пра гэтыя сустрэчы падзяліўся член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Леўчанка.

Падчас падрыхтоўкі да юбілею паэта сярод вучняў школ раёна быў аб'яўлены конкурс творчых работ «Слаўны сын зямлі беларускай» на лепшае сачыненне і лепшы верш, прысвечаныя Аркадзю Куляшову, удзельнікі якога паказалі добрае веданне творчасці народнага паэта.

**Наталля ДРОБЫШАВА**

# Агульная «Светлая даль»

Беларуска-таджыкскім літаратурным сувязям прысвечаны том «Светлая даль» з серыі «Сугучча сэрцаў» Выдавецкага дома «Звязда», уганараваны Дыпломам пераможцы ў намінацыі «Садружнасць» на 53-м Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі».

Урачыстая прэзентацыя «таджыкскага тома» адбылася ў Доме дружбы з удзелам пісьменнікаў, дыпламатаў, выдаўцоў.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каімдодаў вызначыў прынцыповы сэнс падзеі. Беларускі бок ініцыяваў выданне інтэрнацыянальнай шматтомнай літаратурнай серыі менавіта ў год свайго старшынства ў СНД, спраўдзіўшы адно з найбольш важкіх прызначэнняў гэтай місіі — інтэграцыйнае. Унікальная кніжная серыя грунтуе фундамент узнаўлення даўніх сяброўскіх літаратурных сувязей, закладзеных у мінулым стагоддзі на шматнацыянальнай савецкай культурнай прасторы.

Па словах першага намесніка Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч, падобная выдавецкая ініцыятыва беларускага боку — цалкам заканамерная з'ява. «У нашага народа на генетычным узроўні — адкрытасць свету, жаданне сяброўства». Лілія Станіславаўна заўважыла, што перад намі не проста пачатак адраджэння «старой» традыцыі, але духоўны імпульс будучыні. «Упэўнена, такія праекты будуць ствараццца ў розных фарматах, але з агульным пасылам «сугучча сэрцаў», — падкрэсліла Л. Ананіч.

Першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта, выканаўчы сакратар СНД Уладзімір Гаркун дадаў: «У СНД шмат прыярытэтаў. Безумоўна, на першым месцы — эканамічная праблематыка, пытанні бяспекі… Але і кошт слова, да месца і належным чынам выказанага, надзвычай вялікі таксама. Гэта тое, што нас яднае на самым глыбокім узроўні».

Нягледзячы на вялікую колькасць ганаровых гасцей, падкрэслена ўрачыстую афіцыйную цырымонію прэзентацыі, вечар у Доме дружбы быў шчырым і цёплым. Утульна-святочнай атмасферы спрыялі вершы на дзвюх мовах — беларускай і таджыкскай, у тым ліку ў выкананні дзяцей, а таксама прачулыя словы дарослых. «Беларусь, Мінск сталі для мяне другой радзімай, — прызнаўся таджыкскі публіцыст, перакладчык, драматург, аўтар гістарычных раманаў Ато Хамдам, чыя кніга апавесцей на беларускай мове «Жыццё не спыняецца» таксама прэзентавалася на вечары. — Прыязджаю сюды не дзеля адпачынку, а дзеля сустрэч з маімі сябрамі-пісьменнікамі, дзеля таго, каб глыбей зразумець жыццё беларускага народа».

У чым сугучныя сэрцы беларускіх і таджыкскіх пісьменнікаў? Перадусім — у любові да жыцця, да маці, да Айчыны, ва ўсведамленні адказнасці за свае справы на гэтым свеце.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Дзмітрыю Леанідавічу Пятровічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.



Мікіта НАЙДЗЁНАЎ

## Марока

*Чарнявае дзяўчо з Марока*
*Збірае рыжыя, як ты.*
*І нават ад начнога змроку*
*Гараць ад оранджаў сады!*

*І старажытныя багіні*
*На ліру памянялі цытру.*
*Давай бульбяны край пакінем,*
*Калі нам свеціць рыжы цытрус.*

*Le pomme de terre і апельсіны,*
*Па сутнасці, звычайны яблык.*
*А варыянт заўжды адзіны,*
*Калі ў радок кладуцца ямбы.*

## Дысанансы

*За гэты год*
*Сусветны флуд.*
*Твой хіт-парад*
*Ідзе наперад.*
*Калі б я мог,*
*Я б проста бег*
*За доўгі Буг,*
*На светлы бераг.*

*Хто мае сэнс,*
*Той проста «sucks».*
*Бакалы рокс*
*Налі да краю.*

*І на мяне*
*Ўсе прамяні.*
*Я ўсё змяню,*
*Калі зайграю.*

## Джаз-мадэрн

*Ты босая, і лёгкая,*
*І нейкая далёкая,*
*Глядзіш не «на», а «паўз»*
*У рэдкім рытме паўз.*

*Ў паветры нешта лётае,*
*А ты такая лёгкая,*
*Што прыпыняеш час,*
*Як танчыш гэты джаз,*

*Свой джаз-мадэрн паўторна,*
*Ў чацверы і аўторкі.*
*А побач людзі лётаюць,*
*Як на фуршэце лёкаі.*

*А ў вачах і музыка,*
*А ў вачах і рызыка,*
*А гузакі як гузікі.*
*Тут не патрэбна фізіка.*

*А дома ў інтэрнаце*
*На цёртым ламінаце,*
*Як на вялікай сцэне,*
*Ты зноў у джаз-мадэрне.*

## Лішнія

*Як бы там ні было, а ўсе лішнія.*
*Нават самыя блізкія — лішнія.*
*І свае, і чужыя, і іншыя.*
*Усе лішнія.*

*Што належыць дваім (ці належала),*
*Што баліць дваім, як рана свежая,*
*І крывёй, а не сокам ад вішні —*
*Усе лішнія.*

*А хто з бутэлькі джына*
*З нас выпусціў у паветра?*
*Ты кажаш, я да Джыма*
*Падобны, што з партрэта.*

*А вочы твае будуць*
*Сачыць за мной паўсюдна.*
*Збіраю незабудкі,*
*Але дарыць не буду.*

*Якія ўспаміны*
*Рассыпаны між намі.*
*Працей на полі мінным,*
*Лягчэй падчас цунамі.*

*Нават мы цяпер самі лішнія,*
*Бо зусім не такія, а іншыя.*
*Я не ведаю, як гэта выйшла.*
*Хто нарок незнарок, які Вішну,*

*Што паэзія робіцца прозаю,*
*Што мы сталі раптоўна цвярозыя*
*Ці зусім не п'янелі з табою?*
*Толькі ж, кажуць, абое рабое.*

## Калі згубіш ключы…

*Збітыя калені —*
*Як сінонім танцаў.*
*Наша пакаленне*
*Не чытала стансаў.*

*Вуліцай забытай*
*Прыпыні трамваі.*
*Пакідай адбіткак*
*Тым, хто не трымае.*

*Рэкі маюць вусці*
*Ды свае вытокі.*
*Хочаш вусны ў вусны?*
*Робіш рукі ў бокі.*

*Мы з табой такія*
*Смелыя нібыта.*
*Тым, хто не пакіне,*
*Пакідай адбіткак.*



*Фота Кастуся Дробава*



Галіна НІЧЫПАРОВІЧ

## Нябёсы малю...

*Калі акалічнасці*
*Кволых надзей*
*Зляталюць,*
*Нібыта*
*Пажоўклы лісток,*
*Нябёсы малю:*
*Ты мяне*
*Зразумей,*
*Адчуй*
*Стан душы*
*І зрабі*
*Першы крок.*
*Калі ж*
*На заснежанай*
*Сцежцы сляды*
*Кіруюць*
*Ў завейную*
*Цемені стынь,*
*Мяне адшукай,*
*Заслані ад бяды.*
*Нябёсы малю:*
*Ты мяне*
*Не пакінь.*

## Хай не кране расчараванне

*Змахну самоту,*
*Каб аднойчы,*
*Прызначыў*
*Вечар нам спатканне.*
*Парой*
*Мне сняцца твае вочы,*
*Бо зацягнулася чаканне.*
*Калі ж ты побач,*
*Мне здаецца,*
*Што сэрца*
*Захлынуцца можа*
*Самотай,*
*Як тут мне сагрэцца,*
*А першай*
*Крок зрабіць*
*Нягожа.*
*Зляталюць дні,*
*Сплываюць ночы —*
*Хай не кране*
*Расчараванне.*
*Я так жадаю,*
*Каб аднойчы*
*Прызначыў вечар нам*
*Спатканне.*

## Чароўныя хвалі

*Зачаруй, завіруй*
*Бег нястрымны гадоў,*
*Дай спазнаць*
*Асалоду жыцця.*
*Няхай дождж на зямлі*
*Не замые слядоў,*
*А душа*
*Не спазнае ныцця.*

*Закружы, беражы*
*Мар пяшчотных матыў.*
*Часам я*
*Не магу зразумець,*
*Ну чаму гэты дзень*
*Заклапочаны быў,*
*А душа*
*Так і прагла ўзляцець?*

*Заслані, барані*
*Ад нягод і пакут,*
*Няхай боль*
*Сэрца мне не кране,*
*Каб пад схове́шчам зор*
*Мой наднёманскі кут*
*Саграваў*
*Сваёй ласкай мяне.*



Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

# Вузельчыкі на ніцы часу

* * *

*А я хаджу ўсё, шукаю*
*Па над рачулкай сляды*
*Нашага юнага мая...*
*І праз чаромхавы дым*
*Бачу, як я, маладая,*
*Побач з табой, маладым,*
*Вузкаю крочу сцяжынкай*
*На аксамітавы луг,*
*Дзе ля знаёмай вярбінкі*
*Хораша так нам удвух...*

*Час затуманіў былое,*
*Толькі шукаю ізноў*
*Шчасце сваё маладое*
*Ў мроі падманлівых сноў...*

* * *

*Раным-рана па травіцы,*
*Толькі сонца ўстане, —*
*Паспяшаю наталіцца*
*Свежасцю світання.*

*У вясёлкавасці роснай*
*Ножанькі памыю —*
*Сілы нададуць дзівоснай*
*Кропелькі малыя.*

*Лёгкі маладзенькі ветрык*
*Ласкава абвее...*
*П'ю нагбом*
*паветра гэта —*
*Нібы маладзею.*

*Летні ранак прывітаю,*
*Чысціню нябёсаў.*
*Папрашу зямельцы, краю,*
*Ўсім нам —*
*ласкі Боскай.*

* * *

*Гэтак хуценька*
*ноч уцякала*
*ўсё далей*
*ад світання,*
*што алмазы*
*ўсе пагубляла*
*з плацця бальнага.*
*Ўранні*
*іх знайшло*
*й падабрала сонца*
*сваім цёплым*
*праменнем,*
*каб на захадзе*
*сыпнуць блісконца*
*зноў*
*на ночы адзенне...*

* * *

*Абуджальна адкрыю акно,*
*Асалода агорне —*
*Нараджаецца летні дзянёк,*
*Новы і непаўторны...*

*Промні першыя на зямлю*
*Адпраўляе ўжо сонца.*
*Як жа я гэты час люблю!*
*Як удзячна бясконца*
*Сілам Вышнім за новы дзень,*

*Які зноў прычакала.*
*Вунь як іскры смяюцца ў вадзе —*
*Як сонейка зайграла,*

*Твар абмыўшы халоднай расой,*
*Усміхаецца ветла.*
*І я веру,*
*што дзень новы мой*
*Будзе плённым і светлым!*

* * *

*Маладзіком падаўся ветах зноў*
*На веснавой (не восеньскай!)*
*прасторы —*
*Пасля прытушана-забытых сноў*
*Так молада сягоння сэрца зорыць!*

*То нечакана тайна-сінь вачэй*
*Пяшчотаю пралесак адарыла,*
*Пачуццяў уваскрошаных ручэй*
*Бы ажывіў знядужаныя крылы.*

*І стала светла-лёгка на душы,*
*Праменьчык юны*
*праз гадоў туманы*
*Надзею дзён былых*
*вярнуць спяшыць…*
*І сэрцу верыць хочацца падману.*



Юлія ЗАРЭЦКАЯ

# Калі не маўчыцца...

## *Пра сёння, учора і заўтра*

***

У дзённіках Уладзіміра Гніламёдава, што друкаваліся ў часопісе «Полымя», прачытала ўспамін Міколы Ткачова пра Максіма Танка: «...Браў мяне адказным сакратаром у «Полымя». Я быў тады малады, кволы, — гэта ў 49-м было. «Ну, нічога, — кажа, — калі не справішся, дык тады я буду вінаваты. Уся адказнасць, — кажа, — на мне...» І адразу прыгадала, як неяк чула ад адной вядомай пісьменніцы сталага веку, што яе настаўнікамі былі славутыя творцы Вялюгін і Брыль, Куляшоў і Лужанін, Панчанка і Стральцоў, што яны дапамагалі ёй у літаратурнай творчасці, апекаваліся над маладой паэтэсай... І так карцела папытацца (паверце, на тое ёсць падставы): «А каго ж падтрымалі потым вы? Каму дапамаглі?..» Хацелася б памыліцца, але пералік быў бы, мякка кажучы, вельмі кароткім...

***

Еду ў трамваі, пазіраю ў акно. Гандлёва-забаўляльны цэнтр. Сярод назваў кідаецца ў вочы адна — «Шаляпін». Пераводжу позірк уніз, каб убачыць, што за ўстанова ўзяла сабе ў назву такое гучнае імя — і вачам не веру: «караоке-клуб». Бедны Шаляпін!..

***

Малады таленавіты хлопец з горада К., які спрабаваў свае сілы ў літаратуры, завочна вучыўся на журфаку і які, на жаль, трагічна загінуў некалькі гадоў таму, расказваў у «Вожыку», як напісаў байку пра мядзведзя і яе надрукавалі ў раённай газеце. Літаральна праз пару дзён яго выклікаў да сябе сам старшыня райвыканкама, і адбыўся прыкладна такі дыялог:

— Ты, Жэня, кажуць, байкі пішаш?

— Пішу, Іван Іванавіч.

— Крылоў, значыцца?

— Ну, як быццам.

Паўза. Пасля старшыня рэзка нахіляецца ўперад і нечакана выпальвае:

— Дык, можа, мядзведзь — гэта я?

— Ну што вы, Іван Іванавіч, — бянтэжыцца юны літаратар. — Гэта вобраз збіральны. У байцы заўсёды выкрываюцца тыя заганы і недахопы, што існуюць у грамадстве.

Яшчэ адна паўза і — вердыкт:

— Дык вось, Крылоў, у наступны раз, калі будзеш пісаць байку, напішаш, як канкрэтна завуць мядзведзя, дзе ён працуе і што парушыў. Зразумела?

— Зразумела…

Але наступнага разу не адбылося, бо рэдактар газеты, даведаўшыся пра гэтую гутарку, схапілася за галаву і прастагнала: «Больш ніякіх баек! Мне яшчэ да пенсіі трэба дапрацаваць!»

Затое водгукі працягваліся. Калі праз некаторы час байкапісец, а па сумяшчальніцтве супрацоўнік гэтай раёнкі, патэлефанаваў у адзін з аддзелаў райвыканкама, загадчык насцярожана запытаўся:

— Гэта ты пра мяне байку напісаў?

— Ну што вы, Пётр Пятровіч, — зноў збянтэжыўся юны літаратар. — Мядзведзь — вобраз алегарычны. У байцы часта персанажамі з'яўляюцца жывёлы або расліны, а часам — і чалавек.

— Ну, не ведаю, — уздыхае той. — Але ж мне сын, калі тую байку ў раёнцы прачытаў, адразу патэлефанаваў: «Бацька, пра цябе ў газеце напісалі!»

Каментарый адзін: колькі ўжо высмеяна ў байках, што пішуцца са старажытных часоў, ваўкоў, авечак, свіней, жалудоў, лісіц, паноў, сабак, пастухоў, бараноў, іванових і пятровых, а і сёння, калі як быццам сатыра неактуальная, калі баечная «мараль» — гэта не праверка дзяржкантролю, чыноўнік (пры ўсёй сваёй закасцянеласці), нават калі не разумее эзопаву мову, адразу адчувае небяспеку і — баіцца яе!

***

Ішла восенню па вясковай вуліцы і заўважыла на агародзе сланечнікі. «Галовы» выспелі, пацяжэлі, апусціліся, і руплівая гаспадыня завязала на іх квяцістыя хустачкі, каб не апустошылі птушкі. Сланечнікі стаялі, нібы кабеты, сабраўшыся каля студні, ды пра нешта паміж сабой перамаўляліся...

***

Адзін невялікі начальнік мясцовага маштабу тэлефануе другому, які як быццам напрамую яму не падначальваецца, ды аддае загад. Той не пагаджаецца, і яны, што называецца, бяруцца ў рожкі. Абодва — людзі немаладога веку, таму карыстацца мабільнікамі не надта прывычныя, і той, які аддаў загад, ціскае са злосці на кнопку і, думаючы, што адключыў тэлефон, дае волю словам:

— Ах ты, б… барадатая!

Праз некалькі дзён начальнікі сустракаюцца, і той, каторы барадаты, напрыканцы размовы, нібы між іншым, заўважае:

— А ты, б… лысая, навучыся тэлефонам карыстацца!..

***

Размаўляючы са мной, немаладая жанчына, маці майго знаёмага, сказала: «Была і ў нас карова, ды здохла». Мабыць, я залішне катэгарычная, але далей гаварыць з гэтай кабетай мне не хацелася. Жанчына яна, мяркуючы па ўсім, простая, вясковая, але чаму так груба пра карову? Для сапраўднага вяскоўца карова — гэта... карова. Карміцелька, сімвал моцнай гаспадаркі, дабрабыту і шмат іншага. Каровы можа не стаць, яна можа прапасці, злегчы, дайсці, але ніяк не здохнуць. Прынамсі, так было ў нашай гаспадарцы...

***

Чытаю радкі аднаго графаманскага твора: «Справа ў тым, што...» — і ўспамінаю Мінавіча. Рыгора Мінавіча Яўсеева, таленавітага пісьменніка, далікатнага, мудрага, светлага чалавека, з якім я пачынала сваю працу ў «Вожыку» і якому абавязана падтрымкаю і бацькоўскаю ўвагаю. Калі аднойчы ён прачытаў такія радкі ў маім фельетоне, то зазначыў: «Юля, яшчэ раз такое прачытаю — заб'ю!» Гэтыя напаўсур'ёзныя-напаўжартоўныя словы я запамятала на ўсё жыццё і ніколі больш гэтым выразам не карысталася...

З той жа, як кажуць, оперы і выраз «цікавая рэч». "Цікавая рэч: хоць падзеі адбываліся даўно..." Хіба ў беларускай мове няма слоў, каб абудзіць цікавасць да падзей? Бо рэч, як ні круці, найперш атаясамліваецца з прадметам, а не нейкай з'явай.

***

У салоне аўто многія вадзіцелі трымаюць розныя рэчы, прыемныя іх вачам, сэрцу ці розуму: цацкі, забаўкі, араматызатары, маленькія абразы, ружанцы, пацеркі... Словам, хто на што здатны. Кожную раніцу я праходжу міма аднаго аўто — прэстыжнай замежнай маркі, ці не новага, адпаліраванага на глянец — ні плямкі, ні парушынкі. Ведаеце, што вісіць у салоне на люстэрку для вадзіцеля? Драўляны, прыгожа выразаны, някідкі з выгляду... долар. Вось такі: $. Амулет, абярэг, ідал... Што ж, затое чэсна...

***

Сёння «за грошы» робіцца многае. За свой кошт дзе заўгодна можна выдаць кнігу (ды хоць збор твораў!), арганізаваць персанальную мастацкую выстаўку, выпусціць музычны дыск... Але паколькі ўсё гэта «за грошы», дык і каштоўнасці не мае. Грошы не даюць каштоўнасці. Інакш кажучы, наяўнасць грошай не забяспечвае наяўнасць каштоўнасці. Хутчэй, наадварот: каштоўнасць забяспечвае грошы. І то не заўсёды і не адразу. На шчасце...

Увогуле, усё, што можна купіць, у рэшце рэшт не вельмі каштоўная рэч, бо мае цану, няхай сабе і самую неверагодную. Сапраўдная каштоўнасць — гэта тое, што нельга купіць. І таму яно мае сапраўдную цану...

***

Дзеці — прастадушныя, наіўныя істоты. Але і падмануць іх вельмі цяжка. Яны шмат што адчуваюць інтуітыўна, не ведаючы пэўных абставін, прычын, нюансаў...

Маленькія суседкі, сястрычкі К. і Э. (ходзяць у другі і пяты клас), сядзяць у мяне на кухні, я частую іх цукеркамі. Мы п'ём чай, размаўляем пра школу, сабак, мульцікі, і раптам К. пранізвае мяне прамым і цвёрдым, як метал, пытаннем: «Чаму мама не любіць бабулю?» (Бабуля — гэта свякроўка.) Я, ведаючы пра няпростыя стасункі іх маці з «бабуляй», пачынаю хітраваць: «Хто табе такое сказаў? Вось мама сёння хадзіла да бабулі...» «Так, мы хадзілі да бабулі! — хвалюецца малодшая сястрычка Э. — Мама любіць яе!» «Не, не любіць! — упарта настойвае на сваім К. Адчуваецца, што дзяўчынка невыпадкова задала такое пытанне і, відаць, не раз задумвалася пра ўзаемаадносіны паміж роднымі ёй людзьмі, якіх яна любіць. — Памятаеш, бабуля падарыла нам крэсла? Мама дала ім пакарыстацца цёці Наташы. А калі тая захацела вярнуць крэсла назад, мама сказала, што яна можа пакінуць яго сабе!..» К. пераможна замаўкае, Э. ціха сядзіць і вочы не бліснучы...

Ну што тое крэсла? Драбяза, як быццам, дэталь, але і дзіця заўважае, што маці нават рэчы ад нелюбімай свякроўкі не хоча трымаць у кватэры. Значыць, сам напамінак пра яе непрыемны. Якая ж тут «любоў»? Нават прастадушнае, наіўнае дзіця не падманеш...

***

Адзін прэтэндэнт у члены Саюза пісьменнікаў папрасіў пачытаць яго аўтабіяграфію: можа, памылка якая выпадкова трапіла? Пачытала і жахнулася: і граматычныя, і арфаграфічныя, і... усялякія магчымыя памылкі! Выправіла. І задумалася: што ж я раблю? Ён жа паправіць іх пасля мяне і пойдзе ў СП. І яго, магчыма, прымуць. Але ў тым маёй віны не будзе. Ці ўсё ж будзе?..

***

Заўважыла: раней малодшыя дзеці «даношвалі» за старэйшымі адзенне, абутак, цацкі... А сёння дзеці, унукі гэтак жа даюць «даношваць» сваім бацькам, бабулям ды дзядулям... мабільныя тэлефоны. Сувязь пакаленняў?..

***

Мастак К., майстар беларускай карыкатуры, які тонка адчувае мастацтва ўвогуле, прыпамінаючы аднаго разу ў размове сваё маленства, намаляваў карціну. Але не пэндзлем ці алоўкам, а словамі. «Памятаю, так смачна еў кавун, аж семкі ў вушах апынуліся!..» Убачылі? Маленькі гарэзлівы хлопчык, вялікі кавалак чырвонага сакавітага кавуна, «рожкі» якога даходзяць малому да вушэй і адкуль вылузгваюцца чорныя блішчастыя семачкі, аж у вушы. Нельга не ўсміхнуцца, так?..

***

У дадатак да караоке-бара «Шаляпін». Еду ў метро, чытаю аб'явы. Як, вы думаеце, называецца сайт, які гандлюе курсавымі, дыпломнымі работамі і іншай «навуковай дакументацыяй»? Ніколі не здагадаецеся: Lomonosow! Як тут зноў не ўсклікнуць: бедны Ламаносаў!..

***

Размаўляла па тэлефоне з пісьменнікам М., надзвычай добразычлівым і сціплым чалавекам, і той прыгадаў з сумнай нагоды такі выпадак.

Ішоў па лесвіцы былога Дома друку (некалі там «жыў» і «Вожык») і спаткаў галоўнага рэдактара аднаго часопіса, у якім быў раней частым госцем і шмат друкаваўся.

— Ой, Уладзімір Іванавіч, — здзіўлена прамовіла тая, — я, відаць, сто гадоў вас не бачыла! Думала, што вы ўжо даўно памерлі...

Пісьменнік М. горка прамаўчаў. Праўда, у тым часопісе друкавацца перастаў.

***

Глядзела на дрэвы ў лесе і думала: чаму адно дрэва расце роўнае, гонкае, а другое — крывое, невысокае? Чаму адно дрэва пачынае расці добра, а потым раз — і скрывіцца, пахіліцца?.. Нібы нечае жыццё чалавечае: цякло спакойна, бесклапотна, ды здарылася нешта — і пайшло наўскасяк. І нічога ўжо не зробіш, не паправіш, не перапішаш...

Але на роўнае дрэва глядзець, між тым, нецікава: ну, гонкае, ну, прыгожае. А вось на пакручастым позірк мімволі затрымліваецца, выгляд яго застаецца ў памяці, бо ёсць у гэтым нейкая неразгаданая таямніца, свая гісторыя жыцця...



Фота Кастуся Дробава

# Паэт з «грыпсамі»

Валянцін Таўлай нарадзіўся на два гады пазней за Максіма Танка і на два дні пазней за Аркадзя Куляшова. І выпала яму ўдвая карацейшае жыццё, чым гэтым прызнаным класікам. На фоне памяркоўнай Беларусі радзіма В. Таўлая — Слонімшчына, вёскі Рудаўка, Вялікая Кракотка — уяўляецца асяродкам бурлівага палітычнага змагання. У Вялікай Кракотцы сяляне ладзяць беларускую бібліятэку на тысячу кніг, у хаце Таўлая арганізавана беларуская школка, бацька Валянціна — сябар БСГ. Калі яго арыштоўваюць, сяляне спрабуюць адстаяць аднавяскоўца і затрымліваюць замест яго ўрадніка.



У чатырнаццаць гадоў В. Таўлай далучаецца да падпольнай камсамольскай арганізацыі, яшчэ раней пачынае пісаць вершы. Сем гадоў ён праводзіць за кратамі ў астрогах Заходняй Беларусі — але артыкул М. Арочкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» пакідае ўражанне, што сваімі зняволеннямі смелы хлопец быў абавязаны не толькі катам-панам, але і братам-камуністам. Зрэшты, у астрогах Гродна і Ліды, напэўна, было не горш, чым у бальшавіцкіх турмах і лагерах, куды трапілі многія сябры КПЗБ.

У час Вялікай Айчыннай вайны В. Таўлай зноў займаецца падпольнай дзейнасцю. На самым загадкавым фотаздымку ён усміхаецца побач з удзельнікамі ІІ Усебеларускага кангрэса. «Былы заходнебеларускі вязень С. Хмара, былы віленскі гімназіст Х. Ільяшэвіч да былы навагрудскі гімназіст А. Анішчык выдатна ведалі, да якой партыі належаў В. Таўлай, і, мусіць, здагадваліся, што ён не памяняў сваіх поглядаў. І «калабаранты» не выдалі яго мінскай СД?» — каменціруе здымак гісторык А. Сідарэвіч. А вынікам наведання небяспечнага мерапрыемства сталі сатырычныя вершы пра ванек-устанек, гандляроў і «свінксаў».

На першы погляд вершы В. Таўлая больш стрыманыя і лаканічныя, чым «бурапенная» паэзія 20-х гадоў. Ёсць у яго і «чырвоны жар», і «сэрца клок», і «бой з насіллем паганым», але для камуніста-падпольшчыка ворагі, смерць і кроў былі значна больш рэальнымі, чым для натхнёных хлопцаў з БССР. Рэвалюцыйнай сімволікі ў вершах В. Таўлая спачатку было багата — кніга М. Арочкі, прысвечаная паэту, распавядае не столькі пра мастацкую адметнасць твораў, колькі пра доўгую аўтарскую перапрацоўку тэкстаў, у выніку якой атрымалася дабротная, у меру ўзважаная бунтарская паэзія. Многія трапныя вобразы ўзніклі цягам шматгадовага перадумвання вершаў. Магчымасць самарэдагавання з'явілася толькі пасля вайны, але ведамасць В. Таўлаю, натуральна, прынеслі першапачатковыя, нявыпраўленыя творы, якімі «захапляліся і наборшчыкі, і мінёры».

Паэзія змагання заўсёды мае сваю зададзенасць: героі і чытачы дзеляцца на сваіх, чужых і няпэўных, заклікі ды пагрозы чаргуюцца з енкамі і праклёнамі, параза і смерць не палохаюць, бо «Слава сябрам-будаўнічым, што леглі / шэрымі цэгламі ў велічны гмах». Бацькі чакаюць, дзяўчына застаецца недзе ў жытным, сябры падтрымліваюць у барацьбе.

«Стыль да болю знаёмы» — так ацэньваў В. Таўлай чужую лістоўку, якая магла б быць напісаная і яго рукой, і ў 1946 годзе гэтыя словы гучалі зусім без іроніі. Зрэшты, самазахапленне не было ўласціва паэту ані ў мастацтве, ані ў жыцці. А побач з творамі, якія павінны ўздымаць на барацьбу свабодных і падтрымліваць дух зняволеных, у В. Таўлая ёсць вершы пра жыта і жаўрукоў, пра дзяцей і лета, дзе чуюцца не гучныя патэтычныя акорды, а замілаванасць і дабрыня. Многія творы, у якіх герой трапляе за краты, адзначаны яркім псіхалагізмам, а рэалістычныя вершы, як зазначае і М. Арочка, выдатна знаёмяць чытача з побытам польскіх астрогаў. Паэт не спяшаўся ў кожнай страфе згадваць кампартыю і яе кіраўнікоў, таму яго творы ў пэўны момант набываюць універсальны сэнс і пачынаюць успрымацца як гімн свабодзе і адвечнаму змаганню за беларускую долю, у якім удзельнічаюць і вершы, і вечар, і аржаныя сухары.

*Шумяць бары...*
*Разносіць вецер песню,*
*А ў ёй пяе, што хутка ўжо вясна,*
*Што хутка на рацэ*
*лядок зімовы трэсне,*
*Прачнецца да жыцця і працы*
*старана.*

В. Таўлай сышоў з жыцця ў трыццаць тры гады — узрост, калі сённяшні паэт без пытанняў лічыцца «маладым». Для многіх тагачасных аўтараў пытанне было ў тым, ці атрымаецца ў мірны час знайсці новыя тэмы, новы стыль (як гэта здолеў М. Танк) — альбо давядзецца да скону дзён перабіраць матывы барацьбы і абуджаць памяць пра вайну. Ісці наперад ці аглядацца назад? Гэта пытанне актуальнае для кожнага аўтара, які мінае пару маладосці, і сумна, што беларускія пісьменнікі найчасцей абіраюць другі варыянт. В. Таўлай меў дакладныя літаратурныя планы: пачаў вывучаць творчасць Янкі Купалы, збіраўся напісаць аповесць, прысвечаную дзяцінству паэта.

Цікава, як ставіўся сам Купала да хлопца, які напярэдадні 1931 г. замаўляў у яго для рэдакцыі «гнеўную водпаведзь заходнебеларускім пісакам», а праз некалькі гадоў у вясновай, слотнай Лідзе настойліва прапаноўваў звышактуальныя галёшы — «падарунак ад рабочых»? Сустрэчным прэзентам для маладога аўтара стала кніга «Над ракой Арэсай»…

Паэт, які пачаў пісаць у чатырнаццаць гадоў, так і не пабачыў сваю першую кнігу, дбайна падрыхтаваную да друку. Адным з тых, хто настойліва падкрэсліваў вартасць яго творчасці, быў А. Куляшоў.

Як згадваў Я. Брыль, паэт нават пасля вайны заўсёды насіў з сабой вялізны чамадан, напакаваны «грыпсамі» — кавалачкамі паперы, на якіх дробнымі літарамі напісаны асобныя радкі новых твораў. І Валянцін Таўлай бачыцца не столькі аўтарам рэвалюцыйных паэм, для якога загадзя падрыхтаваны вобраз мужнага, палымянага паэта-змагара, а крыху насцярожаным, самакрытычным чарнявым разведчыкам, у чамадане якога так і ляжыць нейкі важны, звыштэрміновы, нікім не расшыфраваны тэкст.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Шпацыр па рэліктавым лесе

**Зборнік артыкулаў Сяргея Кавалёва «Пачвара ў рэліктавым лесе» пабачыў свет на пачатку гэтага лета. З першых старонак відаць, што кніга атрымалася цікавай і разнастайнай: у змесце сустракаюцца імёны А. Лойкі і С. Даніленкі, І. Чыгрынава і Н. Артымовіч…**

У адрозненне ад зборнікаў «Як пакахаць ружу» і «Партрэт шкла», якія складаліся выключна з літаратурна-крытычных артыкулаў, новая кніга ўтрымлівае раздзел «Тэатр», дзе С. Кавалёў распавядае пра сучасныя пастаноўкі і свае стасункі з калегамі, апісвае адметныя выпадкі з тэатральнага жыцця і згадвае, як чытаў першыя рэцэнзіі на ўласныя п'есы. У літаратурнай частцы С. Кавалёў піша пераважна ад імя безасабовага Крытыка, Чытача, Назіральніка, прыватны досвед якога з'яўляецца неістотным — нават уласныя творы даводзіцца пералічваць у шэрагу іншых, ад трэцяй асобы. У артыкулах, прысвечаных тэатру, аўтар дзеліцца больш асабістымі ўражаннямі, што робіць кнігу займальнай і дазваляе чытачу бліжэй пазнаёміцца з вядомым літаратарам.

Так, менавіта ў раздзеле «Тэатр» С. Кавалёў, здаецца, упершыню адказвае на сакраментальнае пытанне, чаму кінуў стала займацца крытыкай: «Па-першае, пісьменнікі, чые творы мне падабаліся, неўзабаве сталі маімі сябрамі і пісаць пра іх новыя творы аб'ектыўна стала вельмі цяжка. Па-другое, пісьменнікі, творы якіх я пакрытыкаваў, не сталі ад гэтага пісаць лепш… Па-трэцяе, у сваім светапоглядзе я так і не змог прымірыць працу крытыка з евангельскім імператывам «Не судзіце, да не судзімы будзеце!» Ну і, вядома, мяне вабіла мастацкая творчасць, магчымасць хадзіць уласнымі сцежкамі і рабіць уласныя памылкі».

Пры гэтым літаратурна-крытычныя тэксты, якія складаюць большую частку новай кнігі (раздзелы «Сёння» і «Учора») відавочна не саступаюць па ўзроўні артыкулам з першых двух зборнікаў, таму «Пачвара ў рэліктавым лесе» вартая ўвагі ўсіх, хто сур'ёзна разважае пра нашу літаратуру.

Тэксты С. Кавалёва розныя паводле жанру і стылю: успаміны, інтэрв'ю, рэцэнзіі, праблемныя артыкулы, навуковыя даследаванні. Рэцэнзіі аўтара — не імпрэсіі альбо эсэ, а ўважлівы аналіз, прычым С. Кавалёў заўсёды разглядае кнігі ў шырокім кантэксце і звяртае ўвагу не толькі на іх асаблівасці, але і на агульную сітуацыю ў беларускай літаратуры (крытыцы, літаратуразнаўстве). Так, С. Кавалёў разважае пра «катастрафічны недахоп спажыўцоў нацыянальнай культуры, якіх бракуе на ўсіх яе вытворцаў», пра «мадэрнізацыю» класічных твораў, пра эстэтычнае асваенне гарадской і еўрапейскай прасторы ў нашай прозе, пра праблему мізэрных накладаў несталічных навуковых выданняў, якія маглі б быць карыснымі для многіх даследчыкаў.

Самымі важнымі ў кнізе падаюцца аглядныя і праблемныя артыкулы, дзе аўтар разважае пра змены ў беларускай літаратуры і вакол яе: пра пісьменнікаў і чытачоў, пра мову беларускіх выданняў і іх наклад, пра стаўленне да нашай літаратуры ў свеце і яе перспектывы. У артыкуле «Сучасная беларуская драматургія з перспектывы «тэорыі поля» даследчык выкарыстоўвае метадалогію сацыёлага і культуролага П'ера Бурдзьё, каб сістэмна і паслядоўна ахарактарызаваць стан нашай драматургіі, выявіць яе адметнасці і праблемы. У працы тэмы С. Кавалёў звяртаецца да драматургіі пакалення «Бум-Бам-Літ», а таксама аналізуе спектаклі па творах Янкі Купалы і Якуба Коласа, пастаўленыя на сцэне ў апошнія гады. Значная ўвага надаецца праблеме моўнага выбару сучасных беларускіх драматургаў (тут згадваецца «Анталогія сучаснай беларускай драматургіі», якая выйшла ў 2011 годзе ў Польшчы і ўключае толькі п'есы рускамоўных аўтараў), а гістарычная тэматыка разглядаецца як «згубны шлях для беларускай драматургіі і нацыянальнага тэатра».




*Пачвара ў рэліктавым лесе. Літаратура. Тэатр. Крытыка / Сяргей Кавалёў. — Мінск: Галіяфы, 2013. — 234 с.*

Да лепшых артыкулаў зборніка можна аднесці «палемічныя нататкі» «Пачвара ў рэліктавым лесе», прысвечаныя агульнай сітуацыі ў беларускай літаратуры пачатку 90-х гадоў і (не-)магчымасці з'яўлення ў ёй масавай літаратуры. Маскульт С. Кавалёў параўноўвае з пачварай, а пра беларускую літаратуру піша як пра «некрануты шматлікімі культурнымі модамі і хваробамі XX стагоддзя запаведнік, гэтакі рэліктавы лес, гожы і нават велічны, але застыўшы, спынены у сваім эвалюцыйным развіцці, а таму — безабаронны і нежыццястойкі». Артыкул быў упершыню надрукаваны ў 1991 годзе, але шмат у чым сітуацыя не змянілася дагэтуль: «Сёння, калі чалавек чытае ці спрабуе чытаць на беларускай мове, усведамляе сваю нацыянальную прыналежнасць, — значыцца, ён узняўся на дастаткова высокі ўзровень, прайшоў своеасаблівую культурную эвалюцыю. Наўрад ці ён адчувае патрэбу чытаць на роднай, для яго асабіста як бы вернутай з нябыту мове руюжовыя бульварныя раманы і чорныя касмічныя трылеры…»

Выдатнае ўражанне ад зборніка ў значнай ступені вызначаецца стылем С. Кавалёва. Ён разважае лагічна і паслядоўна, не злоўжывае тэрмінамі і часам звяртаецца да метафар, каб больш выразна выявіць сутнасць пэўнай з'явы альбо працэсу. Аўтар не абсалютызуе ўласны погляд і нават тады, калі даводзіцца канстатаваць вельмі сумныя рэчы, піша спакойна і ўраўнаважана, без лішніх эмоцый. Факты і лічбы пераконваюць не горш за істэрыку ці абурэнне. С. Кавалёву ўласцівае сістэмнае мысленне, здольнасць паглядзець на асобны літаратурны факт «зверху», выявіць заканамернасць і ясна сфармуляваць праблему. Калі б даследчык трымаў у полі зроку не толькі сучасную драматургію, але і ўсю беларускую літаратуру, наша крытыка была б на сёння куды больш прадстаўнічай.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# З кагорты лімаўцаў

**Аляксандр Капусцін працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» з 1973 па 1980 год. Спачатку быў адказным сакратаром, потым намеснікам галоўнага рэдактара. А прыйшоў сюды ў 49 гадоў, ужо з багатым жыццёвым досведам. Сталенне А. Капусціна паскорыла Вялікая Айчынная вайна. Барацьбу з фашыстамі ён пачаў у чэрвені 1942 года: васямнаццацігадовым юнаком арганізаваў у роднай вёсцы Старая Рудня Жлобінскага раёна маладзёжную падпольную групу.**

Дарэчы, пра «ўваходзіны ў вайну» ён распавёў у апавяданні «Бомба», напісаным ад першай асобы. Больш за тое, героя-апавядальніка завуць Алесь, таму не даводзіцца сумнявацца ў пэўнай дакументальнасці асновы. Падзеі адбываюцца ліпеньскім ранкам сорак першага года, калі нечакана з'явіліся ў небе фашысцкія самалёты, якія «неспадзявана… развярнуліся над вёскай, узялі кірунак на чыгунку, па якой у бок Жлобіна ішоў цягнік. Выстраіліся ланцугом, і з іх пасыпаліся бомбы».

І ўбачыў гэта юнак, нядаўні школьнік. «Ніколі ў жыцці не даводзілася мне адчуваць такога жаху, як тады: падалося, што бомбы ляцяць якраз на нашу хату. Гэта ж сыплецца мая смерць!.. Не памятаючы сябе, я кінуўся за плот, стаў шыцца ў лоўж з калючага галля сухой грушы, якую мы з сястрой спілавалі надоечы, шыўся, быццам мог там уратавацца».

Са здранцвення Алеся вывеў сябрук Сяргей Аскерка: «Вылазь ужо са свайго бомбасховішча…» Хлопцы накіраваліся туды, да пшанічнага палетка, дзе падалі бомбы, не пацэліўшы ў цягнік. Нечакана яны ўбачылі адну з іх, якая не разарвалася:

— Мо яна незараджаная? — сказаў я ў роздуме.

— Выдумляй… Што яна табе — стрэльба дзядзькі Сідара, з якой ён калгасны сад вартаваў?

— Ды ты паслухай… Нямецкія рабочыя, што з антыфашыстаў, замест толу ў бомбы сыплюць пілавінне. Зразумеў? І яшчэ запіскі розныя туды кладуць».

Цікаўнасць узяла верх над небяспекай, і Сяргей асмеліўся разабраць бомбу. Хіба ж думаецца пра небяспеку ў такім узросце, асабліва калі хочаш упэўніцца ў пацвярджэнні правільнасці сваіх меркаванняў?! Аднак, як і трэба было чакаць, бомба была самая што ні ёсць сапраўдная. Больш за ўсё расчараваўся Сяргей. У Алеся ж з'явіліся свае думкі: «Я пазіраў на яго і не мог зразумець, чаго больш было ў маёй душы: радасці, што смерць абмінула яго, ці болю ад таго, што не спраўдзілася такая жаданая надзея».

Апошні эпізод апавядання нясе найбольш значную сэнсавую нагрузку. У ім, як у фокусе, бачацца падлеткі саракавых гадоў — з іх непадрыхтаванасцю да вайны. А яшчэ — жаданнем пераканаць найперш саміх сябе: не могуць людзі добрай волі, у тым ліку і ў Германіі, пагадзіцца з насіллем. Калі гэтае перакананне не пацвердзілася, тыя ж падлеткі, не чакаючы прызыўнога ўзросту, па загадзе сэрца і сумлення ўзяліся за зброю.

У красавіку 1943 года А. Капусцін ужо ваяваў у партызанскім атрадзе. Гады партызанства сталі для яго і пачаткам творчай дзейнасці. Летам 1943 года ў падпольнай абласной газеце «Гомельская праўда» была змешчана першая карэспандэнцыя. Паведамлялася ў ёй, як разведчыкі атрада, нечакана трапіўшы ў варожую засаду, не разгубіліся. Дзейнічалі па ўсіх законах армейскага майстэрства. Кожны выбраў найбольш зручнае месца — балазе, мясцовасць дазваляла гэта, — і закідалі фашыстаў гранатамі. Да супрацоўніцтва з газетай А. Капусціна падахвоціў яе галоўны рэдактар Мікалай Пахомаў, які пабываў у атрадзе. Камандаванне і параіла М. Пахомаву пагутарыць з ім, бо ўсе ведалі, што спрабуе сёе-тое пісаць. Дый аўтарытэтам карыстаецца сярод таварышаў па зброі: камандзір аддзялення, хоць і не вайсковец!

Вызваленне Гомельшчыны пачалося ў 1943 годзе. Так скончылася партызанства А. Капусціна. Колішніх народных мсціўцаў, якія падыходзілі па ўзросце, прызывалі ў дзеючую армію. Яму ж прапанавалі службу ў рэчыцкай міліцыі, што аднаўляла сваю дзейнасць, але юнак зрабіў тое, што падказала сэрца: напісаў рапарт аб адпраўцы ў дзеючую армію. Былі баі на 1-м Украінскім фронце ў складзе 140-й стралковай дывізіі. Была кантузія і тры раненні. І працягваліся, працягваліся франтавыя сцяжыны-дарогі…

Шмат што з ягонай баявой біяграфіі знайшло ўвасабленне ў творах, што напісаў ужо ў сталым узросце, але зместам яны звязаны з падзеямі, якія адбываліся, калі савецкія войскі, разграміўшы фашыстаў на роднай зямлі, вызвалялі краіны Усходняй Еўропы. Асабліва вылучаецца апавяданне "Два словы па-польску" — адно з лепшых у ягонай творчасці, пабудаванае на аўтабіяграфічным матэрыяле: «Мы ўжо каторы дзень мясілі салдацкімі кірзачамі расквашаны суглінак нешырокага бальшака — нашу часць перакідвалі пад Жэшуў. Ішлі ў зацятым маўчанні, было толькі чуваць, як ліпка чвякалі падэшвы па раскоўзанай дарозе ды зрэдку сярдзіта бубнеў даўгалыгі сібірак Сцёпка Варламаў, які лаяў і надвор'е, і дарогу, і праклятага бандыта Гітлера».

На вайне многае нечакана, калі не ўсё… Нечаканай была і гэтая сустрэча на кватэры гасціннага паляка з яго дачкой Вандай, якая, як бачна з твора, аднолькава спадабалася і самому сібіраку Сцёпку Варламаву, і апавядальніку (дарэчы, імя яго, як і пісьменніка, — Алесь). Гэткім жа раптоўным было і развітанне: загады не абмяркоўваюцца! А далей…



Фота Віктара Стралкоўскага

Люты 1994 г.

Збег абставін, ужо ракавых. Гіне Сцёпка, прамовіўшы напаследак словы, якія гаварылі ці не ўсе франтавікі, заўчасна адыходзячы з жыцця: «Вось не дайшоў я да іхняга логава… Ты дайдзі…» Аднак у свядомасці Алеся застаюцца таксама два словы, напісаныя Вандай папольску. Такія чужыя, незразумелыя і ў той жа час свае, бо ён здагадваецца, пра што яны. Як і ў сапраўдным мастацкім творы, у апавяданні прысутнічае недагаворанасць, што і вылучае глыбока псіхалагічную прозу з шэрагу літаратурных падробак пад само жыццё, дый пад літаратуру таксама.

Пасля дэмабілізацыі хлопец быў выбраны сакратаром Жлобінскага райкама камсамола, потым працаваў у органах юстыцыі, у перыядычным друку выступаў з нарысамі і апавяданнямі. У 1959 годзе выдаў сваю першую кнігу — зборнік апавяданняў і аповесцей «Суд ідзе». Жыццё падказвала новыя тэмы, але неспадзявана падставіла і падножку. Перажыванні ваенных гадоў, цяжкія раненні, кантузія не прайшлі бяследна — пачало здаваць сэрца. Спачатку не звяртаў на боль асаблівай увагі, не верылася, што ў такім узросце — і сарака няма! — хвароба зваліць. А яна, няўмольная, у канцы 1960-га — пачатку 1961-га ўсё ж паклала ў ложак.

На шчасце, немач хоць не хутка, але адступіла. Прыйшло жаданне зноў узяцца за пяро. Па-ранейшаму выкройваў вольны час, ахвяраваў выхаднымі днямі. Лягчэй стала, калі ў 1965 годзе пачаў працаваць загадчыкам аддзела газеты «Гомельская праўда». Лягчэй у тым сэнсе, што займаўся любімай творчай справай, хоць часу ўсё адно неставала. Пісаць для душы выпадала рэдка і тады, калі перайшоў на працу ў рэдакцыю навукі і культуры Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БелТА).

Новы этап у творчасці пачаўся, калі звязаў свой лёс з «ЛіМам». Кнігі «Размова ў дарозе», «Скажу праўду», «Белыя гусі лета прарочаць» і іншыя засведчылі, што талент уступіў у такую пару, калі пішацца лёгка, з'яўляюцца новыя значныя задумы і хутка знаходзіць сваё адпаведнае мастакоўскае вырашэнне. Прыхільна былі сустрэты чытачамі, крытыкай і такія зборнікі прозы пісьменніка, як «Цвіў бэз, ігрушка скрыпка», «На хвалях Нявы»... Выдаў і некалькі кніг гумару і сатыры, перакладаў з рускай і польскай моў. На жаль, кнігу прозы «Усяму беламу свету» патрымаць у руках так і не паспеў. Дачакаўся толькі яе карэктуры, з якой і зайшоў да мяне ў «ЛіМ» 16 кастрычніка 1996 года. На той час з кнігавыданнем было цяжка… Але паколькі А. Капусцін з'яўляўся ганаровым грамадзянінам горада Жлобіна, фінансамі дапамагло адно з мясцовых прадпрыемстваў. Радаваўся, што яго новая кніга хутка пабачыць свет, але нельга было не заўважыць, што пачуваецца блага. Аказалася, на дачы прыхапіла сэрца. Тры дні правёў у бальніцы… Сабраўся ісці на сход, што меўся адбыцца ў Доме літаратара. Я паспрабаваў адгаварыць яго ад гэтага, але…

«Хуткая» ехала да Дома літаратараў амаль трыццаць хвілін. І гэта ў той час, калі падстанцыя яе знаходзіцца ўсяго за некалькі соцень метраў...

Шмат што з задуманага не паспеў ажыццявіць Аляксандр Пятровіч Капусцін, адзін з прадстаўнікоў слаўнай кагорты лімаўцаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «Шчуплы хлопец, спец па прапагандзе»

**Дасюль не магу паверыць, што ўжо не існуе Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Бібліятэка перажыла дзве вайны, рэпрэсіі, калектывізацыю, сацыялізм і іншыя «ізмы», а цяпер «часоў бурлівы родны мацярык», як пісаў Мікола Арочка, утрымацца не змог. Гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якой надалі імя Янкі Купалы.**

Туды некалькі разоў прыязджала Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Там гасцілі Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Караткевіч, Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька і многія іншыя пісьменнікі.

Чаму я пачаў з гэтай сумнай гісторыі? Ды таму, што ўдзел у яе стварэнні браў паэт Валянцін Таўлай. Ён прывозіў і дасылаў для вясковай бібліятэкі беларускія кнігі і часопісы, што выдаваліся ў Вільні.

У вёску Вялікая Кракотка Валянцін хадзіў у школу — з суседняй Рудаўкі. Вучыўся добра, таму ў чэрвені 1925 года паступіў у Слонімскую польскую дзяржаўную настаўніцкую семінарыю. Пра вучобу ён напісаў у аўтабіяграфіі «Аб сабе», якая ўпершыню была апублікавана ў чэрвеньскім нумары часопіса «Полымя» за 1948 год.

З верасня 1927 года пачалася жаданая вучоба ў Вільні. «На гэтага ціхмянага, шчуплага, крыху сарамлівага хлопца спачатку ніхто са старэйшых вучняў не звяртаў увагі. У яго быў адкрыты, з мангольскімі рысамі твар, яшчэ, здаецца, дзіцячыя, але вельмі ўважлівыя і задумлівыя вочы, шырокі лоб і крыху адвіслыя вушы. Ён трымаўся неяк у баку ад іншых вучняў. У час перапынкаў хадзіў адзін па актавай зале з кнігай або сшыткам у руках і паўтараў урокі. Вучыўся добра, і настаўнікі не раз ставілі яго ў прыклад іншым. Ніхто, вядома, і не думаў, што сарамяжлівы слонімскі хлопец з вёскі Рудаўка неўзабаве заявіць аб сабе поўным голасам», — прыгадваў у кнізе «Маё маўклівае сэрца» Якуб Міско.

В. Таўлай быў добрым спецыялістам па прапагандзе. Як піша Павел Кулак у кнізе «Валянцін Таўлай» (1984), той умеў пагаварыць і са старэйшым, і з малодшым, і з усімі прыходзіў да адной высновы: трэба змагацца за сваё вызваленне.

Слонімцы заўжды сябравалі са сваім паэтам. Вельмі часта згадваў пра яго паэт Анатоль Іверс (Іван Міско). Яны пазнаёміліся ў верасні 1927 года. А. Іверс ужо год вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а В. Таўлай толькі паступіў. Амаль усе прыезджыя жылі ў інтэрнаце, і гэта збліжала, давала магчымасць лепш прыглядзецца адно да аднаго. У інтэрнаце часта праводзіліся калектыўныя чытанні. Пад кіраўніцтвам старшакласнікаў выдаваліся рукапісныя вучнёўскія газеты і часопісы. І тут не абыходзілася без В. Таўлая. Ён пісаў вершы, занатоўкі са школьнага жыцця. «Я гэта помню, бо сам прымаў удзел у выпуску некаторых гэтых выданняў. Крыху зайздросціў свайму земляку, што яго вершы друкавалі нават у грамадзкіх газетах», — распавядаў А. Іверс. Развітаўся ён з В. Таўлаем пад канец 1929 года, калі іх выключылі з гімназіі за ўдзел у вучнёўскай забастоўцы. А. Іверс вярнуўся на Слонімшчыну, а В. Таўлай апынуўся ў БССР. У маі 1931 года Анатоль атрымаў павестку з Касцянёўскага паштовага агенцтва — прыйшла пасылка: Валянцін даслаў з Мінска 7 кніг.

На Слонімшчыне свайго паэта добра памятаюць. Амаль ва ўсіх слонімскіх пісьменнікаў ёсць творы, прысвечаныя яму. Мікола Арочка ў 1969 годзе напісаў і выдаў асобнай кнігай крытыка-літаратурны нарыс «Валянцін Таўлай». Скульптары Іван Міско і Леанід Богдан зрабілі бюсты В. Таўлая. У Слоніме, у вёсках Жыровічы і Ганькі ёсць вуліцы, якія носяць яго імя.

У 1984 годзе дзякуючы настаўніцы Раісе Каласоўскай у Слонімскай сярэдняй школе № 1 (цяпер ліцэй) да 70-годдзя паэта быў адкрыты музей-пакой В. Таўлая. Да Другой сусветнай вайны менавіта тут знаходзілася польская дзяржаўная настаўніцкая семінарыя, дзе вучыўся паэт. Савет музея перапісваўся з многімі беларускімі літаратарамі, сюды прыходзілі лісты ад жонкі пісьменніка Лідзіі Сяргееўны, ад дачкі Галіны Таўлай, ад сястры Ніны Паўлаўны. Яго наведвалі экскурсіі з усёй Беларусі. Многія госці пакідалі аўтографы ў музейнай кнізе. Захаваліся радкі Дануты Бічэль: «Прыемна бываць у такіх музеях, створаных рукамі і стараннямі саміх школьнікаў і энтузіястаў-настаўнікаў. Думаю, што вобраз паэта-змагара Валянціна Таўлая ў многім вызначыць напрамак грамадскага жыцця тых маладых душ, якія дакрануцца да гэтай літаратурнай з'явы. Дзякуй шчыра».

У 1990-х гадах музей ліквідавалі. І толькі нядаўна ў Слонімскім агульнаадукацыйным ліцэі пакой-музей Валянціна Таўлая з'явіўся зноў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Яшчэ раз пра Таўлая



*Валянцін Таўлай (4 гады) з маці Марыяй Антонаўнай у час бежанства з-пад фронту ў Ліпецку. 1918 год.*

У другім класе Валянцін Таўлай упершыню выступіў з уласным вершыкам — на польскай мове. Намнога пазней ён пераклаў верш на беларускую мову пад назвай «Верабейкі».

Падчас навучання ў Слонімскай гімназіі настойліва сцвярджаў у анкетах, што па нацыянальнасці ён беларус і мова яго — беларуская. За гэта і быў адлічаны.

Валянцін уступіў у камсамольскую арганізацыю, браў удзел у забастоўках. Адлічылі зноў — гэтым разам з Віленскай беларускай гімназіі. Ён не спыняў рэвалюцыйную дзейнасць — атрымаў два гады турмы. Пасля выхаду на волю камсамольскае падполле накіроўвае яго ў БССР. Хлопец наведвае вячэрнія курсы літфака БДУ, працуе ў газеце «Звязда», становіцца членам Беларускага аб'яднання пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). Напрыканцы 1932 года накіроўваецца ў Варшаву для падпольнай работы.

Пазней у Вільні В. Таўлай працуе літаратурным рэдактарам «Беларускай газеты», арганізоўвае і праводзіць першую канферэнцыю рэвалюцыйных пісьменнікаў Заходняй Беларусі, выдае часопіс «Літаратурная старонка». Гэтыя дзеянні пагражалі Таўлаю чарговым арыштам. КПЗБ накіроўвае рэвалюцыянера ў СССР. Але па дарозе яго запыняе паліцыя і накіроўвае ў маладзечанскую дэфензіву, якая славілася на ўсё Віленскае ваяводства жорсткім рэжымам. Не даведаўшыся ад Таўлая, хто ён і адкуль (пашпарт ён меў на чужое імя), хлопца пераводзяць у Лукішкі — «заходнебеларускую бастылію». Таўлая як «самага небяспечнага крамольніка» асудзілі да 8 гадоў катаргі.

Па вызваленні вярнуўся ў Ліду, дзе пазнаёміўся з будучай жонкай Кірай (у некаторых звестках — Стэрай) Бранд, адвакатам па прафесіі. У гэты ж час ён сустрэўся і пасябраваў з беларускай паэтэсай Нінай Тарас. Пазней яна згадвала ва ўспамінах, што «Валянцін Таўлай прывёз аднойчы ў Ліду невялікі, акуратна зроблены ад рукі зборнічак вершаў пад назвай «Шляхі і краты», пад псеўданімам Паўлюк Сірата… Гэта ён прынёс мне прыхаваць у выпадку, калі ён загіне. Такіх экзэмпляраў ён зрабіў некалькі і раздаў розным асобам».

Па выкліку В. Таўлая ў Ліду завітаў Янка Купала, выбраны працоўнымі Лідчыны ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Лідскай-Слабадской акрузе № 306.

Інфармацыя пра палітычныя дзеянні паэта хутка распаўсюджвалася. У час Вялікай Айчыннай вайны В. Таўлай скіраваўся ў Навагрудак. Тут ён уладкоўваецца памочнікам пісара воласці і знаёміцца з Лідзіяй Казлоўскай — студэнткай Ленінградскага інстытута кінаінжынераў, з якой праз паўгода аформіў шлюб.

Паэт часта наведваў бацькоў і сястру ў Лідзе. Адно з такіх наведванняў стала лёсавызначальным для Валянціна і яго сям'і. «Паспрыяла» ў гэтым забойства гаўляйтара Кубэ (верасень 1943 г.). У спіс «падазроных» трапіла і сям'я Таўлаяў, якую арыштавалі і пасадзілі ў лідскую турму. За кратамі Валянцін напісаў верш «Лісты з турмы». Пра лёс В. Таўлая паклапаціліся сябры з Вільнюса, якія сабралі хабар...

У 1945 годзе В. Таўлай прызначаны старшым навуковым супрацоўнікам, намеснікам дырэктара літаратурнага музея Янкі Купалы.

У гісторыі Лідчыны ўзгадваецца апошні прыезд (16 верасня 1946 г.) В. Таўлая з дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў і Уладзіславай Луцэвіч, якія адкрылі ў Лідзе бібліятэку імя Я. Купалы. У гэты перыяд Валянцін быў хворы, але стойка трымаўся нават тады, калі ў яго запыталі, ці хутка выйдзе яго кніга. У адказ прамовіў толькі кароткае: «Хутка!»

Трапіўшы ў Мінску ў бальніцу, ён не кідае творчасць і з надзеяй прызнаецца сябру Анатолю Іверсу, што ўрач паабяцаў выпісаць яго да 1 Мая. Але паэт не прычакаў гэтага дня: 27 красавіка 1947 года ён памёр — у 33 гады.

У гарадах, звязаных з жыццём творцы, у яго гонар названы вуліцы. У Лідзе ёсць літаратурны аддзел Лідскага гісторыка-мастацкага музея, вядомы пад назвай «Домік Таўлая». Плануецца адкрыццё мемарыяльнай дошкі і бюста В. Таўлая, таксама — прэзентацыя кнігі «Этапы жыццёвых дарог змагара», якую падрыхтавала спецыяльна да юбілею паэта навуковы супрацоўнік літаратурнага аддзела Анастасія Каладзяжная.

**Алесь ХІТРУН**

*Рэпліка*

# Мова жыве, а не існуе

Гэтыя крыху перайначаныя словы Кузьмы Чорнага згадаліся пасля знаёмства (і вывучэння) у апошнім нумары газеты допісу Наталлі Пераваловай «Па-беларуску правільна». Усцешвае тое, што «ЛіМ» рэгулярна звяртаецца да пытанняў культуры беларускай мовы, відаць, разумеючы, у асобе сваіх супрацоўнікаў, важнасць гэтай праблемы для літаратараў, для ўсёй творчай інтэлігенцыі краіны.

Паколькі допіс закранае пытанні нармавання, г. зн. адпаведнасці ўладкавання тэкстаў замацаваным у лінгвістычных даведніках і слоўніках нормам літаратурнай мовы, нельга не спыніцца на некаторых яго аспектах, якія выклікаюць нязгоду або, прынамсі, наводзяць на роздум.

Неяк спакваля грамадская думка нахілілася да таго, што кожны чалавек з'яўляецца спецыялістам у многіх галінах ведаў і жыццядзейнасці (усе даюць парады па лячэнні, вырошчванні пэўных культур, ганьбяць або ўхваляюць падзеі сівой даўніны і да т. п.). Магчыма, так яно і павінна быць. Але адначасова сфера навуковага пазнання ўсё больш спецыялізуецца, а абсяг даследаванняў кожнага навукоўца звужаецца. Гэта наконт таго, што побытавы ўзровень валодання ведамі і іх прэзентацыі, часта вельмі павярхоўны і эмацыянальны, павінен саступаць месца навукова абгрунтаванаму погляду на з'явы рэчаіснасці.

Дык вось, шаноўная аўтарка, сама не жадаючы гэтага, зазірнула на дзялянку літаратурнага рэдагавання, г. зн. удасканалення аўтарскага твора з мэтай давядзення яго да грамадска неабходнага ўзроўню. Атрымалася так, што даюцца парады аўтарам, у тым ліку і літаратарам, і журналістам, і рэдактарам, і карэктарам, і ўсім, хто працуе з беларускамоўнымі тэкстамі. А для таго, каб штосьці прапанаваць, рэдактар павінен не адзін раз узважыць сваю заўвагу, паставіць яе пад сумненне, тэарэтычна абгрунтаваць. У адваротным выпадку можа быць так, як у пунктах праграмы расійскага пісьменніка Міхаіла Велера па барацьбе з рэдактарам (хто мае жаданне, можа іх знайсці апублікаванымі ў кнігах або ў інтэрнэце).

У першым абзацы размова ідзе пра канструкцыі *з дапамогай* і *пры дапамозе*. «А трэба было б ужыць выраз *пры дапамозе*, натуральны для беларускай мовы», — сцвярджаецца ў допісе. «Гэта з якой жа прычыны?» — зададзім пытанне як аўтары сказаў. Пацвердзіце. Бо мы, напрыклад, ведаем, руска-беларускія слоўнікі падаюць менавіта такі пераклад, але гэтыя дзве канструкцыі сённяшнія набліжаюцца да састаўных прыназоўнікаў, з'яўляюцца сінанімічнымі, маюць толькі семантыка-стылёвую розніцу (*пры дапамозе* мае адценне большай канкрэтнасці) і зафіксаваны ў Слоўніку беларускіх прыназоўнікаў П. П. Шубы, Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы і інш. А прапанаваны варыянт, рэальна выкарыстаны ў пададзеных прыкладах, ператтварае сказы ў стылістычна заганныя: *Пры аплаце паслуг пры дапамозе банкаўскіх пластыкавых картак*... Зразумела, перакладчык першага пададзенага сказа выкарыстаў лепшы варыянт: *Пры аплаце паслуг з дапамогай банкаўскіх пластыкавых картак*... А можна было б прапанаваць і беспрыназоўнікавую канструкцыю: *Пры аплаце паслуг банкаўскімі пластыкавымі карткамі*... У другім сказе: *Пры аплаце паслуг пасродкам банкаўскіх пластыкавых картак*... — выкарыстана калька (*посредством — пасродкам*), пакуль не зафіксаваная слоўнікамі. Хто ведае, што будзе ў далейшым. Бо амаль 90 гадоў таму Беларуска-расійскі слоўнік М. Байкова і С. Некрашэвіча падаваў назоўнік *пасродак* як адпаведнік рускаму *посредник*.

«Другое месца ў нашым «чорным спісе» — за дзеепрыслоўнымі канструкцыямі», — канстатуецца ў допісе. І далей: «Каб пазбегнуць стылёвых хібаў, сказы павінны быць пабудаваны наступным чынам...» «Гэта з якой жа прычыны?» — зноў задае пытанне аўтар сказа. Бо можна згадаць сказ, створаны Якубам Коласам: «Нічога не кажучы, засунуў дзед Талаш за пояс сякеру...» Дык што, *нічога не кажучы* — таксама скалькаваная канструкцыя? Дзеепрыслоўныя звароты — вельмі прадуктыўныя словазлучэнні ў беларускай мове, як і ва ўсіх славянскіх. Яны нават больш пашыраныя, чым у рускай мове (паспрабуйце сканструяваць выказванне з рускімі дзеепрыслоўямі, утворанымі ад дзеясловаў *идти, ехать*; у беларускай мове натуральна гучаць выразы *ідучы дадому, едучы на працу*). Таму ніякай навуковай падставы выпраўляць сказ: *Маючы столькі тэкстаў пра мінулае (штогод у Беларусі выдаецца як мінімум два бліскучыя гістарычныя раманы), мы не засяляем літаратурную сучаснасць* — няма. Іншая рэч, калі сам дзеепрыслоўны зварот не ўпісваецца ў структуру сказа, г. зн. галоўнае дзеянне (дзеяслоў-выказнік) і дадатковае дзеянне (дзеепрыслоўе) выконваюцца рознымі асобамі (класічны прыклад: *Выходзячы з кабінета, у вочы кінулася абвестка*; атрымалася, што з кабінета выходзіла і *абвестка*). Толькі ў гэтым разе праводзяцца замены, якія прапаноўвае аўтар допісу. Возьмем прыклад з тэксту: *Улічваючы крызіс, асабліва актуальным з'яўляецца эканамічны блок*; менавіта тут патрабуецца праўка: *З улікам крызісу*... Як трэба штодзень вучыцца (мяркуем, найперш рэдактару), выдатна выказаўся Янка Брыль: «Закончыць які-небудзь філфак, журфак і лічыць, што ты ўжо адукаваны *на ўсё жыццё*, — як гэта недарэчна і як нярэдка бывае!..»

Аўтарка сцвярджае: «Як вядома, у ж. р. лічэбнік *два* мае форму *дзве*, таму працоўная кніжка, безумоўна, *дзвюхмоўная*». «Гэта з якой жа прычыны?» — чарговы раз пытаецца аўтар сказа. Я ж не кажу *дзвюхногі, дзвюхгаловы, дзвюхсоты*, хаця яны ўтвораны ад словазлучэнняў з назоўнікам ж. р. Ды і спасіба на слоўнік, калі ён не пацвярджае думку Наталлі Пераваловай, не падаецца (акадэмічныя слоўнікі ў складаных прыметніках фіксуюць толькі частку *двух-*). Так што аўтары «Звязды» не дапусцілі памылкі... Але ўсё ж скажам, што ў гэтым выпадку праблема навідавоку: навукоўцы спрачаюцца, пераконваюць, даводзяць, але да агульнай думкі пакуль не прыйшлі.

Здзівілі сказы з допісу: «Слова *дагляд* ужываецца ў значэнні «клопат, нагляд», прычым *дагляд* слоўнікам падаецца з паметай *размоўнае*. Літаратурнае *догляд*...» Па-першае, не літаратурнае, а агульнаўжывальнае (гэта наконт тэрміналогіі; напрыклад, у Тлумачальным слоўніку беларускай *літаратурнай* мовы знаходзім: Электрычка, *разм.*). Па-другое, памета *разм.* у слоўніку не павінна быць перашкодай пісьменніку для выкарыстання слова ў сваім творы. З улікам працяглага перапынку ў пісьмовай традыцыі (XVIII і амаль усё XIX ст.) і станаўлення новай беларускай мовы з народных гаворак размоўны элемент у нашай мове выглядае магутнай плынню, без якой страціцца ўся яе адметнасць. Я калісьці быў да захаплення ўражаны, калі даведаўся, што слоўнікі італьянскай мовы не ўтрымліваюць стылістычных памет. «Вось бы і ў нас так!» — падумаў тады. І па-сапраўднаму ўзрадаваўся, што ў новым акадэмічным Слоўніку беларускай мовы (2012) не знайшоў іх (хаця ў аналагічным слоўніку 1987 г. яны былі). Сапраўды, як вызначыць, што слова *электрычка*, якое функцыянуе ў мове дзясяткі гадоў, павінна мець памету *разм.*? Толькі з-за семантычнай кандэнсацыі і словаўтваральнага сродку — суфікса *-к-*?

І апошняе. *Калі іх пыталіся* Наталля Перавалава прапануе замяніць на *калі ў іх пыталіся* або *калі іх распытвалі*. «Якая падстава для праўкі?» — не разумее аўтар сказа. У тым жа Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы знаходзім варыянты ў кіраванні гэтага дзеяслова, таму дапушчальныя абодва варыянты: *пыталіся іх* і *пыталіся ў іх*.

Неабыякавых да мовы людзей, бадай што, не існуе. І нярэдка атрымліваецца, што рэдактар не адчувае прыхільнасці (як у нашым выпадку) да дзеепрыслоўяў, а аўтар іх любіць і ахвотна выкарыстоўвае ва ўласных творах. Ледзь адхіліўся аўтар ад прыемных рэдактару зваротаў, як у яго абавязкова ўзнікае вострая патрэба, непераадольнае жаданне падагнаць аўтарскае маўленне пад свой густ. І прытым са шчырым адчуваннем: так лепш, так больш выразна, так прасцей і больш зразумела. Колькі такіх прыкладаў сустрэлася пры падрыхтоўцы новага збору твораў У. Караткевіча, ад замены суфіксаў дзеясловаў (было *дрыжэла* — стала *дрыжала*), канчаткаў назоўнікаў (было *вачыма* — стала *вачамі*) да выкасоўвання «нелітаратурных» слоў (*адверты, прыўкрасны, праходжы, нябёсны*...).

Увогуле, мова стварае пісьменніка і ён стварае мову... Паэт-мысляр Алесь Разанаў слушна выказаўся ў адным са сваіх зномаў: «Не толькі паняцце ўцелясняецца ў слова, але і наадварот — слова здабывае паняцце. Слова, назваўшыся, арэчаўляецца сэнсам, значэннем». Так слова шукае свайго творцу, а знайшоўшы, праз яго прыходзіць у свет. Трымайце слова, яшчэ «немаўлятку» (хоць яно ўжо «прамоўлена» на паперы, экране), люляйце яго, дрыжыце над ім, ахоўвайце і даглядайце яго... Мова аддзячыць за кожнае сваё дзіця. За слова!

**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ,**
**дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ**

*Форум-2014*

# «Галоўны бой — у чалавеку»



Фота Наталі Купрэвіч

**На сёлетнім кніжным кірмашы не было традыцыйнай краіны-госця, але госць іншага кшталту, чаканы і чытаны, быў: Святлана Алексіевіч прэзентавала сваю кнігу «Час сэканд-хэнд», якую выдала маскоўскае выдавецтва «Время» ў 2013 годзе. Але падчас сустрэчы з чытачамі спадарыня Святлана не столькі распавядала пра кнігу, колькі адказвала на пытанні чытачоў — пытанні, якія не хваляваць не могуць.**

### ПРА САВЕЦКУЮ СПАДЧЫННАСЦЬ

Кажуць, што ў адмоўных рысах рускіх ці беларусаў вінаватая савецкая ўлада. Я не зусім з гэтым згодная. Думаю, гэта больш глыбокія рэчы. Хоць, канечне, асаблівы чалавек быў выведзены ў лабараторыі марксізму-ленінізму. Гэта таксама трэба браць у разлік. Я ж сумленна хацела выслухаць усіх удзельнікаў сацыялістычнай драмы — катаў і ахвяр, камуністаў і анархістаў, маладых і старых, — хацела ахапіць увесь гэты разрознены, узарваны космас... Можа, гэткая сялянская цвярозасць беражэ нас ад многіх рэчаў.

### КАТ І АХВЯРА

Адзін з любімых кавалкаў маёй кнігі — аповед чалавека, які разважае на тэму ката і ахвяры. Ён кажа, што няма хімічна чыстага зла. Так, каб ты паглядзеў на чалавека і сказаў: ён зло. У гэтага героя пасадзілі бацьку, а данёс на яго сусед, дзядзька Юра. Герой кажа, што з дзяцінства ў яго засталіся ўспаміны пра дзядзьку Юру як пра добрага чалавека, які папраўляў ім плот, браў з сабой на рыбалку. Была яшчэ і цёця Воля. Прыгожая, хораша спявала. А потым высветлілася, што яна данесла на свайго роднага брата, і ён згінуў недзе ў лагерах. Калі яна была старая, герой запытаўся ў яе: навошта ты гэта зрабіла? А яна адказала: «Ну не было сумленнага чалавека ў трыццаць сёмым годзе». Папытаўся: што яна памятае пра той год? Яна кажа, што была шчаслівая, яе кахалі. Разумееце, як усё ў гэтым жыцці намяшана? Таму павінны быць жорсткія крытэрыі для сябе самога. Яны мусяць быць унутры. Галоўны бой адбываецца не на барыкадах, а ў чалавеку.

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Калі мяне не зусім дакладна перадала нямецкая журналістка, пайшлі спрэчкі: маўляў, Алексіевіч супраць беларускай мовы. Не, я не супраць беларускай мовы. Я толькі сказала, што дзвесце гадоў ёй не давалі развівацца. І сёння гэта выяўляецца. Я не лічу, што беларусы — нацыя, якая вымірае. Ні ў якім разе. Мы маем шмат прыкладаў, калі, здавалася, няма ніякіх шанцаў, але застаецца некалькі соцень чалавек, якія адраджаюць мову. І зноў жа, усё залежыць ад кожнага з нас. Калі мы будзем абараняць мову, яна ніколі не загіне і мы ніколі не знікнем. Я бачыла шмат беларускіх сем'яў, якія, менавіта пераехаўшы за мяжу, усведамлялі, якой яны нацыі.

І гэтае вечнае пытанне: чаму я размаўляю па-руску, а не па-беларуску? Ведаеце, мая праца — гэта энцыклапедыя-ўтопія. А ўтопія гаварыла на рускай мове. Калі б я пісала адно пра беларусаў, гэта была б няпраўда. Усё ж нядаўна мы былі агульнай краінай, і гэта трэба ўлічваць.

### КНІГА ПРА КАХАННЕ

Усё, што я хацела сказаць і здолела «злавіць», ёсць у маіх кнігах. А думаць пра працяг... Мне казалі, што кнігу «У вайны не жаночы твар» можна працягваць і працягваць. Але гэта не так. Ёсць яшчэ людзі, але ідэі заканчваюцца. Увесь мой светапогляд уклаўся ў напісанае, і я працягу не бачу. У мяне абсалютна іншыя планы. Я хачу напісаць кнігу пра каханне, кнігу пра старасць і смерць. Цяпер мяне хвалююць экзістэнцыйныя пытанні. Мы сталі жыць на 30 — 40 гадоў больш. З'явіўся цэлы кавалак жыцця, і як з ім быць? Сядзець з унукамі? Ці гэтае жыццё таксама можа быць паўнавартасным? Тое ж з каханнем. У нас заўжды быў чалавек-змагар, чалавек-герой, а ці шчаслівы ён, было не так важна. Сёння ж гэта становіцца адной з галоўных праблем чалавека: я прыйшоў у гэты свет, я хачу быць шчаслівым!

### НОВЫЯ ПАКАЛЕННІ

У 1990-я Алесь Адамовіч лічыў, што праз дваццаць гадоў прыйдзе новае пакаленне і краіна стане зусім іншай. Але ведаеце, я ездзіла і па Расіі, і па Украіне і не магу сказаць, што новае пакаленне іншае. Яно дастаткова сервільнае, дастаткова матэрыяльнае, умее прыстасоўвацца. Так, ёсць студэнты і моладзь вялікіх гарадоў, і яны і ёсць тыя людзі, пра якіх мы марылі. Але я б не перабольшвала так моцна біялагічны фактар, хоць мы на яго і спадзяваліся.

### ПРА ЛІТАРАТУРНЫЯ ПРЭМІІ

У мяне больш як дваццаць прэмій — і даволі вялікіх, і еўрапейскіх, і рускіх, і ўсякіх. Але я што хачу сказаць... Я ніколі пра іх не ведала. Даведвалася толькі ў той дзень, калі іх давалі. Гэта нейкае знешняе жыццё. Канечне, прыемна атрымаць прэмію, ты разумееш, што працуеш не дарма, што кнігі прабіваюцца да людзей, але я пра гэта не думаю. Я ўсё адно рабіла б сваю працу так, як раблю яе, нават калі б у мяне не было ніводнай прэміі.

### ЦІ ЧЫТАЕ ЕЎРОПА?

Пануе нейкае дзіўнае перакананне, што беларусы і руская — нацыі чытачоў, а Еўропа не чытае. Былі б вы на іх міжнародных выстаўках... Неверагодная колькасць кніг! Памятаю свае пачуцці пасля французскага кірмашу: проста жаданне перастаць пісаць! Так многа кніг, і здаецца, ну а што ты яшчэ дадасі да таго, што ўжо ёсць?.. Канечне, інтэрнэт прывучае да кароткай інфармацыі. І ўсё ж мы — цывілізацыя слова. Можа, раней казалі, што людзі чытаюць таму, што ў іх нічога няма, а кніга ўсё замяняе. Цяпер жа радасць можна атрымаць шмат ад чаго. І тым не менш час мінуў, людзі наеліся, апрануліся і цяпер хочуць зразумець, навошта яны жывуць і што вакол іх адбываецца.

Я вельмі, вельмі шмат чытаю. Любімым пісьменнікам заўжды заставаўся Герцэн, таксама — Пруст. А з беларускіх аўтараў люблю Марыю Вайцяшонак, маю сяброўку: надзвычай падабаецца яе мова.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Скідзель: жывая гісторыя

**Ці ведаеце вы, што ў Гродзенскай вобласці, непадалёк ад жывапіснай рэчкі, ёсць невялікі гарадок Скідзель? Беларускі гісторык Сяргей Токць і журналіст, краязнаўца Мікалай Дзелянкоўскі зацікавіліся гэтым мястэчкам і стварылі грунтоўную навукова-папулярную кнігу пад назвай «Скідзель і яго ваколіцы: жывая гісторыя».**

Выданне з'явілася ў 2014 годзе дзякуючы навукова-вытворчай кампаніі «Тэхналогія», якой споўнілася ўжо 25 гадоў. Прэзентацыя кнігі «Скідзель і яго ваколіцы: жывая гісторыя» адбылася на XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.

«Сяргей Токць і Мікалай Дзелянкоўскі не толькі шмат працавалі з архіўнымі і краязнаўчымі матэрыяламі, але і апытвалі жыхароў скідзельскіх мясцін. Таму кніга атрымалася жывой, насычанай успамінамі, эмоцыямі, яркімі вобразамі... Дарэчы, яе, упэўнена, можна ўзяць за ўзор пры стварэнні выдання пра свой родны горад», — заўважыла рэдактар навукова-вытворчай кампаніі «Тэхналогія» Марыя Кавальчук.

Аўтары прасочваюць гісторыю рэгіёна ад першых згадак у старажытных дакументах XV да сярэдзіны XX стагоддзя. Да слова, Мікалай Дзелянкоўскі родам са Скідзеля, таму не дзіўна, што ўсе факты, якія можа знайсці чытач, не прымусяць сумнявацца. У кнізе шмат ілюстрацый, фотаздымкаў, каштоўных дакументаў, ёсць і даведнік, дзе пералічаны імёны тых, хто жыў ці жыве сёння ў Скідзелі..

Гісторыя не ў сухіх лічбах і фактах, а праз людзей — так можна ахарактарызаваць гэтую працу. Мінуўшчына падаецца на прыкладзе ўчынкаў і лёсаў звычайных беларусаў, якія шмат працавалі, змагаліся за лепшую долю і шчаслівую будучыню. Кніга «Скідзель і яго ваколіцы: жывая гісторыя» прызначана не толькі прафесійным гісторыкам, выкладчыкам, краязнаўцам, але і ўсім, хто жадае даведацца пра мінулае Беларусі. А ў выніку — захаваць у зменлівым паўсядзённым свеце часцінку сябе.

**Марыя ВАЛКОВІЧ**

# Хто вандруе па Версалі?

Сустрэча з пісьменніцай Таццянай Мушынскай адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў межах традыцыйнага музейнага праекта «Творчыя сем'і ў доме Коласа». Імпрэза пад назвай «Дарогі, вечныя дарогі…» стала нагодай для прэзентацыі новай кнігі прозы «Джульета и экстрасэнс» ды адкрыцця першай фотавыстаўкі пісьменніцы.

Таццяна Мушынская — беларуская паэтэса, празаік, тэатральны і музычны крытык, журналіст. Яна нарадзілася ў сям'і слыннага беларускага вучонага, даследчыка жыцця і творчасці Якуба Коласа, прафесара Міхася Мушынскага. «У дзяцінстве вельмі хацелася, каб бацька часцей бываў дома, але я разумела, што ён чалавек грамадскі», — прызнаецца пісьменніца. Не любіць, калі пра яе кажуць: «Глядзіце, гэта дачка вядомага дзеяча культуры!» Пісьменніца лічыць, что мае права ганарыцца ўласнымі дасягненнямі і быць вядомай менавіта за свае заслугі. І гэта сапраўды так. Пра яе кажуць: рэдкае спалучэнне розуму, таленту і прыгажосці.

У школьныя гады дзяўчынка шмат чытала, прычым літаратуру ўсяго свету, цікавілася музыкай, кіно, тэатрам. Потым вучылася на факультэце журналістыкі БДУ, працавала ў газетах, друкавала рэцэнзіі, выдала некалькі кніг крытыкі, прысвечаных беларускаму балету. Калі ў яе з'явіліся два сыны, Таццяна Мушынская пачала пісаць казкі. Маленькія, але самыя шчырыя слухачы ўспрынялі іх з задавальненнем і патрабавалі працягу. Так з'явіліся зборнікі апавяданняў і казак «Віця Неслух у краіне мурашоў», «Свята печанай бульбы», «Вожыкі ў футбол гуляюць», вершы «Калі тата — Дзед Мароз». Хутка выйдзе яшчэ адна кніга, ужо адрэдагаваная беларускім паэтам Анатолем Зэкавым, пад працоўнай назвай «Камарыкі мак таўклі».

Прыблізна ў сярэдзіне 1990-х Т. Мушынская звярнулася да прозы, прычым пачынала дарослым: аповесці «Доўгае развітанне», «Апошняе каханне Дон Жуана». Кніга «Джульета і экстрасэнс», якая прэзентавалася на вечарыне, пабачыла свет у 2013 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», але напісаная была даўно. Выданне змяшчае чатыры аповесці (тры з якіх прысвечаны людзям мастацтва), шэраг апавяданняў і мініяцюры. Што кідаецца ў вочы, дык гэта вельмі яркія жаночыя вобразы і драматычныя гісторыі кахання.

«Мне пашанцавала быць рэдактарам тэкстаў, якія рэдагаваць не трэба, бо калі чытаеш Таццяну Мушынскую — атрымліваеш сапраўдную асалоду! Спачатку на вокладцы кнігі было напісана: «Як мы згубіліся ў Версалі». Потым дарожныя нататкі давялося прыбраць з-за вялікага аб'ёму, і назва змянілася»,— паведаміў Анатоль Зэкаў, які працаваў з рукапісам «Джульеты и экстрасэнса».

Літаратурны крытык Ганна Кісліцына ў рэцэнзіі на кнігу Таццяны Мушынскай адзначае, што ў зборніку «Джульета і экстрасэнс» адлюстраваны не звышрэальны багемны свет, а лёсы звычайных беларусаў, зразумелых і блізкіх. Менавіта таму кніга чытаецца вельмі лёгка і можа лічыцца энцыклапедыяй гарадскога жыцця Мінска.

Таццяна Мушынская яшчэ і паэтэса. Больш за тое, шмат яе лірычных твораў пакладзена на музыку. Не дзіўна, што падчас імпрэзы на фартэпіяна іграў знакаміты беларускі кампазітар Дзмітрый Даўгалёў. Музычным падарункам для слухачоў стала і выступленне ўзорнага хору «Ветрык» Дзіцячай музычна-мастацкай школы мастацтваў № 1 г. Мінска пад кіраўніцтвам дырыжора Веры Дабравольскай.

Напрыканцы вечарыны можна было пазнаёміцца з фотавыстаўкай Таццяны Мушынскай — серыямі «Мора, дрэвы, камяні» і «Гарады свету». Праз магію аб'ектыва пісьменніца здолела перадаць эмацыянальны дух сваіх падарожжаў па Крыме, Балгарыі, Празе, Вене, Амстэрдаме, Парыжы ды іншых мясцінах.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Ветошкин, В. Л.** Топотушка: стихи для детей / Валерий Ветошкин. — Минск: Кнігазбор, 2013. — 63 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7057-73-3.

**Калашников, Е. М.** Летала кошка рыжая: стихи для детей / Евгений Калашников; [рисунки В. А. Дриго и его учеников]. — Гомель: Барк, 2013. — 71 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6763-97-0 (в пер.).

**Карнаухова, И. А.** Нужная книжка для девчонок и мальчишек: (стихотворная азбука нравственности) / Ирина Карнаухова; [художники: Анастасия Ситникова, Анна Ситникова]. — Минск: Ковчег, 2013. — 34 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-7055-48-7.

**Любимые игрушки**: книжка-раскраска. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2013. — 16 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-568-4.

**Родченкова, Е. А.** Кто поможет двум шмелям?: [для чтения взрослыми детям] / Елена Родченкова; иллюстрации Елены Карпович. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2013. — 26 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-545-059-8.

**Сказки-безопаски**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / главный редактор Е. А. Полещенкова; художник Ю. С. Кондратьева]. — Минск: Редакция газеты «Юный спасатель», 2013. — 18 с. — Часть текста на белорусском языке. — Содержит авторов: Баталова А., Бренько Е., Гузова Д., Дармідошына А., Кишко Д., Колубако А., Лужинская Д., Сенькевич Д. — 2000 экз.

**Шломан, В.** Боевые перчатки: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Владимир Шломан. — Минск: Букмастер, 2014. — 314 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-621-3 (в пер.).

**Шломан, В.** Спросите у Макса: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Владимир Шломан. — Минск: Букмастер, 2014. — 285 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-619-0 (в пер.).

**Эм, О. О.** Летние каникулы: записки пресс-службы сумасшедшего профессора Леопольда Мозгокрутикова: [для среднего школьного возраста] / Олег Эм; [художник Катя Мартынович]. — Минск: Ковчег, 2013. — 75 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7055-65-4 (в пер.).

### Беларуская літаратура



***Астахновіч, В. М. Чаму кароўка пярэстая: казка і гульня: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / Вера Астахновіч. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 28 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0700-7.***

*Лішнім будзе падкрэсліваць, як важна для малога дзіцяці ў працэсе знаёмства са светам літаратуры не толькі чытаць і слухаць тэксты, але і ўступаць у своеасаблівую «камунікацыю» з кнігай: гартаць, разглядаць малюнкі. Яна ў дадзеным выпадку змяшчае новыя звесткі, а таксама выступае ў ролі цацкі. Новая кніга-гульня Веры Астахновіч, а таксама яе тераіня, кароўка Карнішэта, здольныя стаць сапраўдным сябрам маленькаму чытачу. Тут можна пазнаёміцца з кароўкай, пакарміць яе і нават упрыгожыць зоркамі і вяночкамі з кветак.*

**Баравікова, Р. А.** Рамонкавы бераг. Слухаю сэрца: вершы / Раіса Баравікова. — Мінск: Звязда, 2013. — 174 с. — 30321 экз. — ISBN 978-985-7059-56-0 (у пер.).

**Васючэнка, П.** Дванаццаць подзвігаў Геракла: раман-бурлеск: [для сярэдняга школьнага ўзросту] / Пятро Васючэнка; [мастак Галіна Хінка-Янушкевіч]. — Мінск: Звязда, 2013. — 149 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7059-53-9 (у пер.).

**Залатая яблынька**: казкі, легенды, паданні: хрэстаматыя дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту / [укладальнік Уладзімір Сіўчыкаў; мастак Алена Карповіч]. — Мінск: Сіўчыкаў У. М., 2013. — 287 с. — Выдадзена пры ўдзеле ТАА «Папуры» і ТАА «Харвест» (Мінск). — Змяшчае аўтараў: Баршчэўскі Я., Васючэнка П., Каліна К., Колас Я., Купала Я., Сіўчыкаў У., Танк М., Шушкевіч С. — Змяшчае пераказчыкаў: Лялько К., Сіўчыкаў У., Ягоўдзік У. — Змяшчае апрацоўшчыкаў: Колас Я., Якімовіч А. — 5100 экз. — ISBN 978-985-7030-07-01 (у пер.).

**Куды блінок закаціўся**: казкі: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту / укладальнік Вольга Аляксеева; мастак Марыя Каратаева]. — Мінск: Звязда, 2013. — 158 с. — Змяшчае аўтараў: Аўласенка Г., Бадак А., Баравікова Р., Бензярук А., Бензярук Р., Бутэвіч А., Васючэнка П., Гардзей В., Зэкаў А., Карлюкевіч А., Кастручын В., Мазго У., Пшонік Г. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7059-19-5 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры

**Коновалов, С. М.** Романы Джонатана Коу в контексте английской сатирической прозы / С. М. Коновалов. — Минск: Новое знание, 2013. — 134 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-475-581-6.

### Беларуская літаратура

**Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць (да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага)**: XXI Гарэцкія чытанні: матэрыялы чытанняў, Мінск, 15 лютага 2013 г. / [рэдкалегія: Р. Гарэцкі (адказны рэдактар) і інш.]. — Мінск, 2013. — 241 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз.



***Рогалев, А. Ф. Кто такая Мэри Поппинс?: скрытый смысл сказочных повестей Памелы Трэверс / А. Ф. Рогалев, В. А. Рогалев. — Гомель: Барк, 2013. — 31 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6763-99-4.***

*Як вядома, у любой аўтарскай казцы не проста распавядаецца нейкая гісторыя, але і малюецца цэлая карціна свету — мастацкі аналаг рэчаіснасці. І папулярныя казачныя творы пра Мэры Попінс — не выключэнне. Па меркаванні аўтараў даследавання, вядомыя тэксты Памелы Трэверс — не проста казкі. Насамрэч, усе гісторыі, што ў іх распавядаюцца, створаны на аснове цэлай філасофскай сістэмы, якую пісьменніца не толькі ведала, але і мэтанакіравана прапагандавала. Таму і вобраз самой Мэры Попінс, патрабавальнай і ў той жа час добрай і клапатлівай, такі складаны і шматгранны.*

**Скрозь «Маладосць»**: не самая сумная кніжка пра грошы, чорны шакалад, пісьменнікаў і літаратуру / [укладальнік Святлана Дзянісава]. — Мінск: Звязда, 2013. — 270 с. — Змяшчае аўтараў: Бадак А., Безмацерных К., Бутэвіч А., Васючэнка П., Гардзей В., Гігевіч В., Гніламёдаў У., Дайнека Л., Далідовіч Г., Дамашэвіч У., Дзітлава В., Ждановіч В., Кадзетава В., Казлоў А., Камароўскі А., Камейша К., Карпечанка М., Конеў Я., Кунцэвіч В., Лупасін В., Мальдзіс А., Рагойша В., Сівец Т., Станкевіч Ю., Ткачоў В., Шушко А., Ярац В. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-17-1 (у пер.).

**Талент, непадуладны часу**: Кандрацьеўскія чытанні (Вілейка, май 2013 г.) / пад навуковай рэдакцыяй А. І. Смоліка; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. — Мінск: БДУКМ, 2013. — 87 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-522-078-8.

**Штэйнер, І. Ф.** Bis repetita placent: [літаратуразнаўчыя даследаванні] / І. Ф. Штэйнер; Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Ф. Скарыны. — Гомель: ГДУ, 2013. — 219 с. — Частка тэксту на рускай мове.. — 100 экз. — ISBN 978-985-439-770-2.

### Геаграфія. Біяграфіі. Гісторыя

#### Археалогія

**Соловьев, А. А.** Изразцы и печи полоцкого иезуитского коллегиума (конец XVI – первая треть XIX в.): архитектурно-археологический очерк / А. А. Соловьев. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2013. — 95 с., VIII с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6936-52-7.

#### Краязнаўства

**Клецкий район** / [Клецкий районный исполнительный комитет, Отдел идеологической работы]. — Минск: Сувиг, 2013. — 19 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1500 экз.

**Лыч, Л. М.** Краязнаўства ў кантэксце сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі / Леанід Лыч. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 43 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7057-69-6.

#### Геаграфія

**Витченко, А. Н.** Начальный курс географии: 6-й класс: тетрадь для практических работ и индивидуальных заданий: приложение к учебному пособию «Начальный курс географии» для 6-го класса (авторы: И. П. Галай, Б. Н. Крайко, Е. И. Галай): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / А. Н. Витченко, Г. Г. Обух, Н. Г. Станкевич. — 12-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 80 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-19-0789-8.

**Витченко, А. Н.** Начальный курс географии: 7-й класс: тетрадь для практических работ и индивидуальных заданий: приложение к учебному пособию «Начальный курс географии» для 7-го класса (авторы: З. Я. Андриевская, И. П. Галай): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / А. Н. Витченко, Г. Г. Обух, Н. Г. Станкевич. — 12-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 64 с. — 16000 экз. — ISBN 978-985-19-0790-4.

**Витченко, А. Н.** Общая география: 11-й класс: тетрадь для практических работ и индивидуальных заданий: приложение к учебному пособию «Общая география» для 11-го класса (авторы: В. С. Аношко [и др.]): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / А. Н. Витченко, Г. Г. Обух, Н. Г. Станкевич. — 6-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 78 с. — 12000 экз. — ISBN 978-985-19-0809-3.

**Галкина, И. В.** Экономическая география: учебно-методическое пособие для студентов специальности «Бухгалтерский учет, анализ и аудит» (по направлениям) / И. В. Галкина; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Экономические теории». — Гомель: БГУТ, 2013. — 63 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-554-194-4.

#### Геаграфія старажытнага і сучаснага свету

**Витченко, А. Н.** География материков и стран: 8-й класс: тетрадь для практических работ и индивидуальных заданий: приложение к учебному пособию «География материков и стран» для 8-го класса (авторы: Е. А. Зыль [и др.]): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / А. Н. Витченко, Г. Г. Обух, Н. Г. Станкевич. — 9-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 112 с. — 14000 экз. — ISBN 978-985-19-0791-1.

**Витченко, А. Н.** География материков и стран: 9-й класс: тетрадь для практических работ и индивидуальных заданий: приложение к учебному пособию «География материков и стран» для 9-го класса (авторы: Н. В. Науменко, Н. Л. Стреха): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / А. Н. Витченко, Г. Г. Обух, Н. Г. Станкевич. — 8-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 79 с. — 14000 экз. — ISBN 978-985-19-0807-9.

#### Геаграфія Беларусі

**Витченко, А. Н.** География Беларуси: 10-й класс: тетрадь для практических работ и индивидуальных заданий: приложение к учебному пособию «География Беларуси» для 10-го класса (авторы: М. Н. Брилевский, Г. С. Смоляков): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / А. Н. Витченко, Г. Г. Обух, Н. Г. Станкевич. — 7-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 80 с. — 9100 экз. — ISBN 978-985-19-0808-6.

**Географические аспекты устойчивого развития регионов**: сборник научных трудов / Гомельский областной комитет природных ресурсов и охраны окружающей среды, Гомельский областной отдел общественного объединения «Белорусское географическое общество», Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины; [редколлегия: А. И. Павловский (отв. редактор) и др.]. — Гомель: БГУТ, 2013. — 325 с. — Часть текста на английском языке. — 120 экз.

#### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

#### Гісторыя

**История**: 7-й класс: рабочая тетрадь: приложение к учебным пособиям для 7-го класса: «История Средних веков: XIV–XV вв.» (под редакцией В. А. Федосика), «История Беларуси: вторая половина XIII – первая половина XVI в.» (под редакцией Ю. Н. Бохана): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. А. Федосик [и др.]. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 159 с. — 8100 экз. — ISBN 978-985-19-0849-9.

**История**: 10-й класс: рабочая тетрадь : приложение к учебным пособиям для 10-го класса: «Всемирная история Новейшего времени: 1918–1945 гг.» (под редакцией Г. А. Космача), «История Беларуси: 1917–1945 гг.» (авторы: Е. К. Новик, В. В. Гинчук): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / М. А. Краснова [и др.]. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 157 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-19-0768-3.

**Кошелев, В. С.** История: 8-й класс: рабочая тетрадь: приложение к учебным пособиям для 8-го класса: «Всемирная история Нового времени: XVI–XVIII вв.» (авторы: В. С Кошелев, Н. В. Кошелева, С. Н. Темушев), «История Беларуси: вторая половина XVI – конец XVIII в.» (авторы: В. А. Белозорович, И. П. Крень, Н. Н. Ганущенко): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. С. Кошелев, Н. В. Байдакова, С. В. Панов. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 159 с. — 7100 экз. — ISBN 978-985-19-0850-5.

**Кошелев, В. С.** История: 9-й класс: рабочая тетрадь: приложение к учебным пособиям для 9-го класса: «Всемирная история Нового времени: XIX – начало XX в.» (под редакцией В. С. Кошелева), «История Беларуси: конец XVIII – начало XX в.» (под редакцией В. А. Сосно): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. С. Кошелев, Н. В. Байдакова, С. В. Панов. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 159 с. — 6100 экз. — ISBN 978-985-19-0836-9.

**Секацкая, К. И.** История Средних веков: XIV–XV вв.: 7-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [приложение к учебному пособию «История Средних веков: XIV–XV вв.» для 7-го класса (под редакцией В. А. Федосика)] / К. И. Секацкая. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 127 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-19-0832-1.

#### Гісторыя Беларусі

**Белорусский национальный технический университет (Минск). Кафедра «История, мировая и отечественная культура».** Сборник научных трудов сотрудников кафедры «История, мировая и отечественная культура» / Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет; под редакцией В. А. Божанова, Д. Н. Хромченко. — Минск: БНТУ, 2013. — 234 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-525-988-7.

**Буднік, І. Ф.** Да падзеяў 1863–64 гг. на Гарадзеншчыне / Іван Буднік. — Гродна: ЮрСаПрынт, 2013. — 107 с. — Частка тэксту паралельна на польскай і рускай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — 99 экз. — ISBN 978-985-90264-8-5.

**Быховцев, Н. И.** Волковыск межвоенный / Николай Быховцев. — Гродно: ЮрСаПринт, 2012–

Т. 1. — 2012. — 311 с. — Часть текста на белорусском языке. — 9 экз. — ISBN 978-985-90199-41-01 (ошибоч.).

Т. 2. — 2012. — 251 с. — Часть текста на белорусском языке. — 9 экз. — ISBN 978-985-90199-41-01 (ошибоч.).

**Великая европейская война на Беларуси**: I Международная научно-практическая конференция, [Скоки], 15 декабря 2012 г.: сборник докладов. — Брест: БрГТУ, 2013. — 83 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-493-247-7.

**Геращенко, А. Е.** Очерки по истории Полоцка и Белой Руси / Андрей Геращенко; [научный редактор – Николай Максимович Сергеев]. — Минск: Ковчег, 2013. — 190 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7055-59-3 (в пер.).

**Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць**: зборнік навуковых прац удзельнікаў VIII Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, [Магілёў], 26–27 чэрвеня 2013 г. — Магілёў: МДУХ, 2013. — 435 с. — Частка тэксту на рускай мове. — На авантытуле: Магілёў – культурная сталіца Садружнасці і Рэспублікі Беларусь, 2013.. — 99 экз. — ISBN 978-985-6985-13-6.

**Кузнецова, А. В.** И я отсюда родом...: очерк / А. В. Кузнецова, Л. А. Полыковский, А. Л. Шульман. — Минск: Медисонт, 2013. — 151 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-86-9.

**Людзі і ўлада Навагрудчыны: гісторыя ўзаемадзеяння**: (да 500-годдзя надання Навагрудку прывілея на магдэбургскае права): зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнікі: А. А. Скеп'ян, В. В. Даніловіч, А. Б. Доўнар; рэдкалегія: А. А. Каваленя (старшыня) і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2013. — 357 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1552-1 (у пер.).

**На «панскіх» могілках Плябані** / [укладальнік Сямашка Вольга]. — Мінск: Медысонт, 2013. — 138 с. — 140 экз. — ISBN 978-985-6982-90-6.

**Паноў, С. В.** Мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў установ агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання: дадатак да падручніка «Чалавек і свет. Мая Радзіма – Беларусь» для 4-га класа (аўтары: С. В. Паноў [і інш.]) / С. В. Паноў. — 2-е выд., дапоўненае і выпраўленае. — Мінск: Аверсэв, 2013. — 64 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-19-0774-4.

**Паноў, С. В.** Чалавек і свет: Мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных установ з беларускай і рускай мовамі навучання / С. В. Паноў, Л. А. Ярашэвіч. — Мінск: ЮниПрессМаркет, 2013. — 74 с. — 10200 экз. — ISBN 978-985-560-503-5.

**Саяпин, В. Ю.** История Гродненских площадей / Виктор Саяпин. — Гродно: [ЮрСаПринт], 2011. — 106 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-90197-5-6 (ошибоч.).

**Саяпин, В. Ю.** Пешком по Ожешко и Советской: [о центральных улицах города Гродно] / Виктор Саяпин. — Гродно: ЮрСаПринт, 2011. — 102 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-90199-7-8 (ошибоч.).



***Шаланда, А. І. Сімвалы і гербы зямель Беларусі ў X — XVIII стст.: геральдычна-сфрагістычныя нарысы / Аляксей Шаланда; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. — 2-е выд. — Мінск: Беларуская навука, 2013. — 180 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1549-1.***

*Выданні, прысвечаныя геральдыцы, у нашай краіне набываюць усё большую і большую папулярнасць. Вось і гэтая кніга — глыбокае навуковае даследаванне Аляксея Шаланды, аднаго з самых вядомых айчынных спецыялістаў у гэтай галіне, не так даўно далучылася да шэрагу падобных праектаў. Выданне прысвечана зямельнай сімволіцы і геральдыцы Беларусі на працягу існавання трох яе асноўных дзяржаўных утварэнняў у X — XVIII стст.: Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і Рэчы Паспалітай. Аўтар звяртае ўвагу на сімволіку і геральдыку полацкіх дзяржаўных утварэнняў, вытокі і складаванне герба «Пагоня», гербы на харугвах беларуска-літоўскага войска ў бітве пад Грунвальдам 1410 г., «гербавыя войны» паміж ВКЛ і Польшчай напярэдадні і пасля Люблінскай уніі 1569 г., вялікія пячаткі ВКЛ Стэфана Баторыя і дынастыі Вазаў, а таксама гербы Смаленскага і Навагрудскага ваяводстваў.*

**Станкевич, Я.** Два брата на одной войне / Янка Станкевич, Василь Станкевич; [под общей редакцией А. В. Станкевича]. — Минск: Право и экономика, 2013. — 102 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-552-176-2.

**Стрэнкоўскі, С. П.** Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV – XVIII ст.): [у 2 ч.] / С. П. Стрэнкоўскі; Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Мінскі гарадскі інстытут развіцця адукацыі». — Мінск: МГІРА, 2013. — 100 экз. — ISBN 978-985-6864-12-7.

Ч. 1. — 589 с. — ISBN 978-985-6864-14-1.

Ч. 2. — 545 с. — ISBN 978-985-6864-13-4.

**Тишкин, И. А.** Витебские замки / Игорь Тишкин; [редколлегия: Ю. Вайлунова-Шинкевич и др.; перевод с белорусского языка Игоря Тишкина; Государственное учреждение «Центр культуры «Витебск»]. — Изд. 2-е, дополненное и переработанное. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 19 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-534-033-2 (ошибоч.).

**Хмельницкая, Л. В.** Прогулки со старой картой: очерк истории Витебска начала XX в.: (с приложением карты) / Л. В. Хмельницкая; [предисловие, общая редакция С. В. Рублевского]. — Минск: Четыре четверти, 2013. — 115 с. + 1 л. карт. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7058-25-9 (в пер.).

**Чапліцкі, Ф.** Маскоўская ўлада на Літве = Moskiewskie na Litwie rządy: 1863–1869: далейшы працяг «Чорнай кнігі» аўтара «Аповесці пра Гаражану» / [Фердынанд Чапліцкі]; пераклад з польскай мовы Віктара Хурсіка. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013. — 413 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 99 экз. — ISBN 978-985-7025-03-9 (у пер.).

**Шарков, А. В.** НКВД Беларуси на защите Отечества в годы суровых испытаний (1941–1945) / А. В. Шарков. — Минск: Тесей, 2012. — 257 с. — 4 экз. — ISBN 978-985-463-498-2.

**Шишигина-Потоцкая, К. Я.** Несвиж и Радзивиллы: [перевод с белорусского] / К. Я. Шишигина-Потоцкая; [фото А. В. Клещука, А. П. Дрибаса]. — Минск: Беларусь, 2013. — 221 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-01-1034-3.

**Якутовский, Г. П.** Беларусы: облик, характер, знаменитости / Григорий Якутовский. — Минск: Энциклопедикс, 2013. — 82 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-6958-64-2.

**Якутовский, Г. П.** История Беларуси: величие, трагизм, уникальность / Григорий Якутовский. — Минск: Энциклопедикс, 2013. — 60 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-62-8.

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Бахметева, А. Н.** История Церкви для детей: рассказы из истории Христианской Церкви I–XI вв. / А. Н. Бахметева. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 767 с. — Издано при участии Международного благотворительного фонда «Семья – единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район), ООО «Спутник Христианина» (Москва) и ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-432-2 (в пер.).

**Володько, Е. Н.** Путешествие во Вселенной, или В поисках новой Земли: [для среднего школьного возраста] / Е. Н. Володько, Т. Н. Граборенко. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2013. — 64 с. — 6400 экз. — ISBN 978-985-557-032-6 (в пер.).

**Животные**: [для дошкольного возраста]. — Москва: АСТ, 2013. — 63 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078635-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1949-8 (Харвест) (в пер.).

**Кийосаки, Р. Т.** Богатый папа, бедный папа для подростков = Rich dad, poor dad for teens / Роберт Кийосаки; [перевод с английского выполнила Л. А. Бабук]. — Минск: Попурри, 2013. — 126 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-985-15-1998-5 (в пер.).

**Матарыкин, Д. Н.** Энциклопедия для мальчиков: на земле, на воде, в небе: [для среднего и старшего школьного возраста / автор и художник Денис Матарыкин]. — Москва: АСТ, 2011. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-064305-9 (АСТ). — ISBN 978-985-16-8722-6 (Харвест) (в пер.).

**Мурзина, А. С.** Большой самоучитель рисования для самых маленьких: за штрихом штришок: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / А. С. Мурзина. — Москва: АСТ, 2013. — 239 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078628-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1844-6 (Харвест) (в пер.).

**Трафимова, Г. В.** Букварь Оршанский: [для детей] / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов; [автор идеи и руководитель проекта О. В. Смирновский]. — Минск: Белфакта Медиа, 2013. — 61 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7010-22-6.

**Тэйт, Н.** Насекомые и пауки / Ноэль Тэйт; [перевод с английского А. Ю. Казеевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 64 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078801-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2113-2 (Харвест) (в пер.).

### Агульныя пытанні лінгвістыкі, літаратуры і філалогіі

**Голубев, В. Л.** Риторика: речевой потенциал сотрудника органов внутренних дел: практическое пособие: [для курсантов и студентов] / В. Л. Голубев, О. В. Бурибо; Министерство внутренних дел Республики Беларусь, Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь. — 2-е изд. — Минск: Академия МВД Республики Беларусь, 2013. — 298 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-427-815-5.

**Карповские научные чтения**: сборник научных статей / Белорусский государственный университет, Филологический факультет. — Минск: Белорусский Дом печати, 2007–

Вып. 7: в 2 ч., ч. 1 / [редколлегия: А. И. Головня (отв. ред.) и др.]. — 2013. — 336 с. — Часть текста на белорусском языке. — 120 экз. — ISBN 978-985-6995-50-0. — ISBN 978-985-6995-51-7 (ч. 1).

Вып. 7: в 2 ч., ч. 2 / [редколлегия: А. И. Головня (отв. ред.) и др.]. — 2013. — 298 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 120 экз. — ISBN 978-985-6995-50-0. — ISBN 978-985-6995-52-4 (ч. 2).

**Міхневіч, А. Я.** Выбраныя працы: Мова – Культура – Камунікацыя / Арнольд Міхневіч; [рэдкалегія: С. А. Важнік (навук. рэд.) і інш.]; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Філалагічны факультэт, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, Беларускі камітэт славістаў. — Мінск: РІВШ, 2013. — 376 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 99 экз. — ISBN 978-985-500-673-3.

### Мовазнаўства і мовы. Лінгвістыка

**Контрастивные исследования языков и культур**: материалы международного «круглого стола», Минск, 29–30 октября 2012 г. / [редколлегия: Т. П. Карпилович (отв. редактор) и др.]. — Минск: МГЛУ, 2013. — 155 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-500-5 (ошибоч.)

# Цаніць сваё, ведаць сваіх

Выдатна, што беларусы пачынаюць больш шанаваць сваё: помнікі архітэктуры, мастацтва, танцы, песні, абрады. Актыўна згадваюць і славутых землякоў, якія ў свой час зрабілі шмат дзеля захавання і ўмацавання традыцый, гісторыі і культуры нашага народа. Напэўна, таму ўсё большую папулярнасць атрымліваюць асветніцкія праекты, мэтай якіх з'яўляецца папулярызацыя дасягненняў айчыннай культуры, расповед пра славутых землякоў. Варта прыгадаць хаця б серыю ТАА «Харвест» «100 выдатных дзеячаў», што не так даўно папоўнілася новымі выданнямі. З гэтымі праектамі мы і знаёмім сёння чытачоў «Кніжнага свету».




## ПЕСНЯРЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Сярэдзіна і канец XIX стагоддзя ў гісторыі беларускай літаратуры пазначаныя асаблівымі падзеямі. Актыўная дзейнасць таварыстваў філаматаў і філарэтаў у Віленскім універсітэце, з'яўленне твораў на «сялянскай» беларускай мове, занатаванне фальклору, паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага… З тымі падзеямі і працэсамі айчыннай гісторыі і культуры звязаныя многія славутыя імёны. У іх ліку — Ян Чачот і Уладзіслаў Сыракомля. Таму не выпадкова новыя выданні-брашуры серыі прысвечаныя менавіта гэтым асобам.

Так, кніжачка **Ірыны Шумскай «Ян Чачот: Руплівы філамат»** распавядае пра гісторыю роду Чачотаў, станаўлення творчай індывідуальнасці маладога паэта, а таксама першаасновы яго саматойнага шляху ў паэзіі і фалькларыстыцы. Як апынаецца, у беларускай культуры не толькі Янка Купала атрымаў сваё імя (а потым і псеўданім) у адпаведнасці з датай нараджэння — у час святкавання старажытнага язычніцкага свята Купалля. Менавіта 24 чэрвеня 1796 года прыйшоў на свет і Ян Чачот, які, паводле жартаў крэўных, таксама «абраў сабе імя сам». «Згодна з гіпотэзай даследчыкаў прозвішчаў, слова «Чачот» паходзіць ад назвы невялікай жвавай птушкі чачоткі, яно распаўсюджана сярод беларусаў яшчэ з перыяду паганства, — піша Ірына Шумская. — Сапраўды, шляхетны род Чачотаў існаваў здаўна, на пэўным этапе існавання ён быў нават адзначаны фамільным гербам Астоя».

Але чым для беларусаў адметнае імя Яна Чачота? Няма нічога дзіўнага і надзвычайнага ў тым, што малому Яну часта даводзілася чуць ад маці казачныя расповеды пра дзеда-барадзеда, вядзьмарак ды іншых міфалагічных істот. Прыязнасць да фальклору натуральным чынам вынікала з дзяцінства: заможная шляхецкая сям'я Чачотаў ніколі не адгароджвалася ад простага люду, і Ян неадначасова бавіў час разам з простымі вяскоўцамі, міжволі захоўваў у памяці скарбы вуснай народнай творчасці і традыцыйныя народныя спевы. Таму і апынулася, што Чачот стаў адным з першых «прафесійных» аматараў беларускага фальклору: ён не толькі сам слухаў і атрымліваў задавальненне ад народных песень, але і запісваў гэтыя старажытныя фальклорныя творы, выдаваў іх асобнымі зборнікамі, на аснове законаў іх стварэння пісаў і аўтарскія вершы, рамантычныя балады.

Адметна, што ў гэтай маленькай кніжачцы можна прачытаць не толькі расповед пра жыццё і творчасць сябра Адама Міцкевіча, але і пазнаёміцца з яго выбранымі творамі. Думаецца, асаблівую ўвагу чытачоў прывабіць фрагмент рамантычнай балады «Свіцязь», бо менавіта непадалёк ад Свіцязі паэт нарадзіўся.

Творчасць наступнага аўтара, перакладчыка, фалькларыста і краязнаўцы не змесціцца і ў дзесяці тамах. Кароткае выданне




**Алеся Марціновіча «Уладзіслаў Сыракомля: Лірнік зямлі беларускай»** толькі ў асноўных рысах пазнаёміць з жыццёвым і творчым шляхам нашага земляка. У літаратуры ён працаваў усяго 18 гадоў, але за гэты параўнальна кароткі час Людвік Кандратовіч (сапраўднае імя У. Сыракомлі) шмат зрабіў у галіне вывучэння беларускага фальклору, народных вераванняў, звычаяў і паэзіі беларусаў.

Аматараў літаратуры зацікавіць творчасць Сыракомлі, але ёсць у яго лёсе і рамантычнаінтымны момант, на аснове якога могуць з'явіцца асобныя (у тым ліку жаночыя) раманы. Як піша Алесь Марціновіч, «Сыракомля знаходзіўся ў сяброўскіх адносінах з этнографам, археолагам, публіцыстам і гісторыкам літаратуры Адамам Кіркорам, які быў жанаты з актрысай Геленай Маеўскай. Ён часта бываў у яго дома, неаднаразова сустракаўся і з ягонай жонкай. Але, як гэта бывае нярэдка, сяброўства неўзабаве перарасло ў каханне».

Ёсць розныя тлумачэнні таго, чаму так адбылося. Безумоўна, Сыракомля імпанаваў ёй, бо ў Маеўскай была паэтычная натура, а тут сапраўдны паэт… Справа закончылася тым, што Маеўская разышлася з мужам, каб быць разам з каханым. Да іх адносіны, як часта бывае ў падобных выпадках, — не толькі свята. У Вільні многія з тых, хто ведаў Сыракомлю, па сутнасці адвярнуліся ад яго. Але былі і асобы, да прыкладу, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, якія разумелі творцу і дапамагалі ў выданні новых кніг. Што да самого паэта, то лёс так і не звязаў яго з каханай. Вынікам іх адносін можна лічыць толькі новыя творы Сыракомлі, але сам творца праз некаторы час вярнуўся ў раней пакінутую сям'ю.

Ды не гэтым адметная асоба Кандратовіча-Сыракомлі ў літаратуры, а тым, што ён стварыў сапраўды значныя творы беларускага рамантызму, у тым ліку вядомую баладу «Паштальён» (дарэчы, яна была пакладзеная ў аснову вядомай рускай песні «Ямщик»), многія гутаркі-гавэнды, а таксама стаў сапраўдным прадвеснікам нацыянальнага адраджэння нашай краіны пачатку XX стагоддзя.

## ДАСЛЕДАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ

Калі для дзеячаў культуры і літаратуры сярэдзіны і канца XIX стагоддзя важна было захаваць і з рамантычнага пункту гледжання асэнсаваць нашу мінуўшчыну, паспрабаваць ужыць беларускую мову ў літаратурна-мастацкіх творах (хаця б часткова), занатаваць легенды і паданні, то для паэтаў, пісьменнікаў, гісторыкаў і філосафаў пачатку XX стагоддзя важна было зусім іншае. Праз даследаванне мінуўшчыны амаль наноў стварыць Беларусь: распрацаваць яе мову, апісаць культуру, напісаць гісторыю, скласці нацыянальную філасофію і адметны светапогляд. Менавіта такая задача ў ліку іншых дзеячаў беларускай культуры і літаратуры стаяла ў свой час перад пісьменнікам, гісторыкам, палітыкам і філосафам **Вацлавам Ластоўскім**, а таксама




філосафам **Ігнатам Канчэўскім**, больш вядомым пад псеўданімам **Ігнат Абдзіраловіч**.

Таму не дзіўна, што чарговыя выданні серыі «100 выдатных дзеячаў» прысвечаныя менавіта гэтым асобам.

У нашым родзе ёсць сваякі з прозвішчам Ластоўскі, усе яны паходзяць з Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Таму мы з сястрой рамантычна мяркуем, што і самі з'яўляемся далёкімі-далёкімі сваякамі славутага Власта (ён жа таксама ўраджэнец блізкіх зямель, маёнтка Калеснікава, што цяпер адносіцца да Глыбоцкага раёна). Прыемна быць часткай роду гэтага выдатнага беларуса, які, па сутнасці, навукова распрацаваў гісторыю краю, быў супрацоўнікам легендарнай «Нашай Нівы», дзе зладзіў літаратурную дыскусію пра мэты і сутнасць мастацкай творчасці, напісаў грунтоўную працу па гісторыі беларускай кнігі, а таксама на працягу некалькіх гадоў выдаваў уласны часопіс «Крывіч». Яго паэтычныя і празаічныя творы па сённяшні дзень захапляюць сваёй глыбінёй, загадкавасцю, нейкай таемнасцю і чароўнасцю. Таму, думаю, новая кніжачка «**Вацлаў Ластоўскі: Вяшчун крывіцкай культуры**» знойдзе свайго чытача.




Не застанецца без увагі і выданне **Алеся Мінскага «Ігнат Канчэўскі: Шукальнік беларускага шляху»**. Асоба гэтага пісьменніка і філосафа — адна з самых загадкавых у беларускай культуры пачатку XX ст. але тым не менш ён напісаў філасофскі твор, які па сваёй глыбіні можа паспаборнічаць нават з сучаснымі трактатамі. Работа «Адвечным шляхам: Даследзіны беларускага светагляду» мае на мэце вызначэнне адметнасцей беларускай ідэнтычнасці: на мяжы паміж Усходам і Захадам, ва ўмовах падзеленасці беларускай душы па прыкметах нацыянальнасці, рэлігіі, сацыяльнай прыналежнасці.

## ЛІДА ЦІ СЛОНІМ?

Фільм беларускага рэжысёра Міхаіла Пташука «У жніўні 44-га» здымалі ў Слоніме, але па сюжэце некаторыя яго падзеі адбываліся ў Лідзе. У час здымак слонімскі чыгуначны вакзал яшчэ не быў адрамантаваны і меў такі выгляд, які звычайная беларуская станцыя магла б мець у час вайны. Таму, відаць, прадзюсары фільма і вырашылі слонімскі вакзал на некаторы часператварыць у лідскі. Для кіно ўсё было вельмі проста: варта толькі галоўную шыльду станцыі «Слонім» замяніць на адпаведны надпіс «Ліда». Аднак для пасажыраў, якія ў гэты ж час выходзілі з цягніка ў Слоніме, але бачылі на шыльдзе іншы надпіс, усё было не так весела і шарагова. І нават знаёмыя краявіды не выступалі важкім доказам таму, што цягнік усё ж такі прыехаў правільна, у Слонім.

Ды гэта прыватнасці.

Імя выдатнага кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхаіла Пташука вядомае многім суайчыннікам. Ён пражыў параўнальна нядоўгае жыццё, фільмаграфія ўключае ўсяго 12 стужак, але, думаецца, многія гледачы назавуць Міхаіла Мікалаевіча сапраўдным беларускім рэжысёрам. І не толькі тыя, хто ў 2002-м памылкова памкнуўся назад у цягнік, пабачыўшы замест надпісу «Слонім» шыльду «Ліда». З іменем Пташука звязаная цэлая эпоха ў беларускім кіно. Ён экранізаваў «Знак бяды» Васіля Быкава, «Чорны замак Альшанскі» Уладзіміра Караткевіча, «Вазьму твой боль» Івана Шамякіна.

Выданне **Алеся Тамковіча «Міхаіл Пташук. Зорка беларускага кіно»** стане сапраўдным падарункам для кінаманаў. Тут распавядаецца пра шлях рэжысёра ў




прафесію, першыя спробы ўласных фільмаў, здзейсненыя і нездзейсненыя творчыя мары. Асабліва карысным для спецыялістаў у галіне кіно будзе раздзел «Фільмаграфія» з падрабязнай інфармацыяй пра кожны фільм майстра.

Серыя «100 выдатных дзеячаў» працягваецца. Яшчэ чакаюць сваіх выданняў асобы скульптара Заіра Азгура, паэта Уладзіміра Жылкі, мастака Івана Хруцкага, краязнаўца Еўдакіма Раманава, мастака, пісьменніка Язэпа Драздовіча ды іншых славутых землякоў. Упэўнена, кніжачкі гэтага асветніцкага праекта стануць выдатным падарункам для многіх суайчыннікаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# У чым крыўда класікі?

Прыкладна гадоў 7 таму я працавала ў адной навуковай установе. Аднойчы ў шахце ліфта штосьці загарэлася, паверхі зацягнула дымам, пачуўся вэрхал. Калі ўсіх эвакуіравалі ў бяспечнае месца, паступова маіх калег ахапіў прыступ нястрымнага смеху. І вось чаму. Выбягаючы з кабінетаў, людзі хапалі з сабой усё самае каштоўнае. Схапіла і я. Глобус і партрэт Чэхава, які стаяў на стале.

Узгадала пра гэта таму, што зусім нядаўна быў дзень народзін вялікага Антона Паўлавіча. Перачытваючы яго апавяданні, злавіла сябе на думцы: класіка, на шчасце, несмяротная. Яе чыталі раней, чытаюць і цяпер. І не кажыце, што гэтыя творы не будуць чытаць потым. А вось што стане класікай з напісанага сёння?

Не так даўно, чытаючы артыкул, я адзначыла вельмі цікавы факт. У сучасных расійскіх крытыкаў пыталіся, што яны чытаюць у «непрацоўны» час, калі ў іх няма патрэбы вывучаць пэўны твор, каб потым правесці яго аналіз і напісаць рэцэнзію. Усе як адзін назвалі творы класічнай літаратуры.

Здавалася б, выдатны аргумент на карысць класікі. Але, думаецца, знойдуцца і скептыкі. Дык вось, папярэджваючы іх рэмаркі, прапаноўваю спачатку сфармуляваць прычыны незадаволенасці раманамі, што «састарэлі». Мне чамусьці падаецца, што прычына будзе адна: школьныя ўрокі літаратуры. Не хацелася б даваць ацэнкі пытанням педагогікі і методыкі выкладання, цалкам верагодна, што доля ісціны ў менавіта такім падборы твораў ёсць. Але тут няма віны самой класічнай літаратуры!

Лінгвісты і пісьменнікі дагэтуль не прыйшлі да адзінага меркавання наконт таго, колькі сюжэтаў існуе ў сусветнай літаратуры. Лічбы адрозніваюцца часам вельмі істотна: чатыры (Хорхе Луіс Борхес), сем (англійскі пісьменнік і журналіст Хрыстафер Букер), трыццаць шэсць (французскі пісьменнік, літаратуразнаўца, тэатразнаўца Жорж Польці). Але, думаецца, гэта не так істотна. Важна іншае. Цягам многіх стагоддзяў у кнігах акумуляваўся досвед. Дадайце той факт, што ўся гісторыя цывілізацыі развіваецца па спіралі. У выніку атрымліваецца: класічная літаратура — не што іншае, як падручнік жыцця, напісаны не сухой навуковай мовай, а цалкам складзены з прыкладаў. Гэты факт, дарэчы, адзначаў яшчэ Чарнышэўскі.

З цягам часу нас усё больш паглынаюць клопаты, расчараванні, страты. Большасці чытачоў ужо не хочацца душараздзіральных драм і філасофскіх пошукаў. Магчыма, менавіта па гэтай прычыне роля класічнай літаратуры як ніколі значная ў перыяд выхавання дзяцей. Задача зводзіцца да таго, каб знайсці правільны педагагічны падыход: без непатрэбнага маралізатарства там, дзе яго няма, і прыпісвання аўтару тых ідэй, пра якія ён нават не думаў.

Цікавымі бачацца вынікі даследаванняў, праведзеных амерыканскімі вучонымі. Яны паказалі, што да эмпатыі, суперажывання, больш схільныя людзі, што аддаюць перавагу класічнай літаратуры. І калі прыйшоў такі час, што і кроку нельга ступіць без паняццяў «паспяховасць» і «выгада», то чытайце Талстога, Фейхтвангера, Сервантэса, Шэкспіра, Гётэ, Бамаршэ. Будзеце не толькі развівацца як асобы, але станеце паспяховымі кіраўнікамі, што немагчыма без чалавечнасці і разумення матываў людскіх дзеянняў. У адваротным выпадку ёсць усе шанцы скапіраваць сюжэт рамана Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейту», дзе апісана грамадства, у якім спальваюць кнігі, што прымушаюць задумвацца пра жыццё.

Дарэчы, слова «класіка» перакладаецца з латыні як «узорны». Ці патрэбны іншыя аргументы? Рабіце правільны выбар кніг для чытання, і тады нікому не будзе сорамна: ні вам за дзяцей, ні дзецям за вас.

# Эстэтыка. Атмасфера. Інтэлект

### ВЫБАРКА 1. САМЫ ЗАПАТРАБАВАНЫ

Люблю «вешаць ярлыкі» рэйтынгавага характару: «самы значны», «самы вытанчаны» сённяшні празаік, паэт і г. д. Суб'ектыўна? Так! Але ці не складаюцца абсалютна ўсе з'явы рэчаіснасці (і таму — іх ацэнкі) з сугучча аб'ектыўнага і суб'ектыўнага пачаткаў? У выпадку з літаратурнымі «рэйтынгамі» ва ўспрыманне ўключаны не толькі асабістыя густ, але і пэўны досвед — набытая за гады планка патрабаванняў да ўзроўню ў самым шырокім сэнсе.

Назіраючы за XXI ММКВК на працягу ўсіх пяці дзён яе працы, я звярнула ўвагу на некалькі стэндаў, з якіх у свядомасці намаляваўся маленькі, але, здаецца, досыць цікавы «рэйтынг».

Вы думаеце, самы запатрабаваны, самы раскупляемы стэнд стракаціць шыльдамі «Кожная кніга — 10 (15, 20, 30) тыс. бел. руб.»? Не! А можа — той, дзе сядзіць знакаміты пісьменнік і падпісвае свае кнігі? Такая рэч, сапраўды, адбылася, калі аўтограф-сесію мела Святлана Алексіевіч і чарга стаяла амаль «як у Маўзалей». Але тое было некалькі гадзін, і размова можа ісці пра самую раскупляемую кнігу, а не стэнд — вялікі шраг выданняў рознай тэматыкі, абагуленых пэўнай «звышзадачай». І кнігі гэтыя (далёка не танныя) часцяком раскупляліся стосамі.

Дзівіся, чытач: самы запатрабаваны стэнд быў адначасова і самы інтэлектуальны. Стэнд Выдавецкага дома «Гнозіс» са спецыялізацыяй на гуманітарных выданнях (лінгвістыка, паліталогія, гісторыя, культуралогія, філасофія). «Узор сацыятэалагічнай, палітычнай медыявістыкі», — ахарактызавалі прадаўцы свой «фірменны» бестселер, кнігу Якава Кантаровіча «Сярэднявечныя працэсы пра ведзьмаў», але, на жаль, прадэманстраваць не змаглі, бо на раніцу трэцяга дня выстаўкі яе запас быў раскуплены. «А ўвогуле, «фаварытаў» няма: купляюць усё. Вельмі добра разыходзіцца Хайдэгер, сёння купілі цэлы камплект, папулярныя Эрнст Юнгер, Ралан Барт, постструктуралісты Дэлёз і Фуко». На маю нерашучую заўвагу (маўляў, Юнгера актыўна прапагандавалі нацысты) прадавец, малады стыльны хлопец, прачытаў цэлую лекцыю адносна таго, што лёс Юнгера падобны да лёсу Ніцшэ: іх абралі ідэолагамі Рэйха без аніякай на тое іх прэтэнзіі і, што датычыць Юнгера, згоды — адно дзякуючы выпадковым вытрымкам з твораў. Універсальныя («касмічныя») па змесце, яны пасавалі, як кажуць, і нашым, і вашым. Э. Юнгер, дарэчы, з тых аўтараў, чые ўспаміны і творы пра Першую сусветную вайну прыцягваюць увагу самага шырокага кола чытачоў — невыпадкова яго аўтабіяграфічная аповесць «У сталёвых навальніцах» таксама была раскупленая.

— У Беларусі продаж нашых кніг штогод павялічваецца. Усё больш арганізацый супрацоўнічае з намі. Здавалася б, электронная кніга выцісне папяровую, але не: хаця б таму, што кошт «электронкі» ніколі не акупіць высілкаў, звязаных з перакладам, каментатарскай і даведачнай працай, — кажа Павел Касцюшын, дырэктар Выдавецкага дома «Гнозіс» (ён, дарэчы, ядвае каля 10 асобных выдавецтваў). — Супольнымі намаганнямі выдаўцоў, перакладчыкаў, спецыялістаў-кансультантаў мы ахопліваем увесь спектр гуманітарных ведаў і ганарымся гэтым.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Свет тэатра і моды

**Няўжо замест машыны часу кніга можа перанесці куды заўгодна? Напрыклад, дакрануцца да гісторыі тэатра і моды. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» прапаноўвае два новыя праекты — «Вялікую энцыклапедыю Вялікага тэатра Беларусі» і «Энцыклапедыю моды, адзення і аксесуараў». Прэзентацыя кніг, якія сталі цікавай з'явай у культуры Беларусі, адбылася ў межах XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.**

### ДЭМАГРАФІЯ СПЕКТАКЛЯЎ




«Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі» — юбілейнае выданне, падрыхтаванае да 80-годдзя галоўнай сцэны краіны. Навінка павінна з'явіцца ў крамах у канцы бягучага года, яе тыраж складзе 2 — 2,5 тыс. асобнікаў. Задуму стварэння ўласнага кніжнага брэнда тэатр выношваў некалькі гадоў, пакуль яе нарэшце не здзейсніла выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Кніга нагадвае каралеўскі фаліянт, якому не хапае толькі залатога цiснення і скураной вокладкі. Але галоўнае, што змест адпавядае аблічу. На старонках адлюстраваны творчы шлях Вялікага тэатра Беларусі з моманту яго заснавання ў 1933 годзе і па сёння. Алфавітная частка энцыклапедыі ўключае больш як 2000 артыкулаў, што распавядаюць пра справы сучаснага тэатральнага мастацтва, спектаклі, структуру тэатра, яго гастрольныя праграмы. Чытачы змогуць даведацца пра людзей, для якіх Вялікі тэатр стаў амаль родным домам — вядучых артыстаў, кампазітараў, рэжысёраў, дырыжораў, хормайстраў, балетмайстраў, мастакоў і кіраўнікоў тэатра. Артыкулы пра тэатральныя пастаноўкі пачынаюцца з першай оперы «Кармэн» і завяршаюцца «свежай» прэм'ерай «Лятучага Галандца». Між іншым, аўтары кнігі імкнуліся паказаць адметную традыцыю тэатра — імкненне да нацыянальнага рэпертуару.

Кніга багата ілюстраваная, змяшчае велізарную колькасць архіўных фотаздымкаў, многія з якіх публікуюцца ўпершыню. Здымкі ўмомант уводзяць чытачоў у тэатральную атмасферу, распавядаючы пра тое, як нараджаюцца і праходзяць спектаклі, што адбываецца за кулісамі, як выглядаюць артысты. Каларыт выдання і адчуванне свята (усё ж такі юбілейны праект!) падкрэсліваюць высакародныя, светлыя адценні.

Энцыклапедыя адрозніваецца арыгінальным дызайнам і якасным паліграфічным выкананнем. Шматлікія графічныя элементы прамаляваныя ўручную. Спецыяльна для кнігі быў распрацаваны лагатып.




Энцыклапедыя мае экслібрыс, кніжны знак, які прыйшоў са старажытнай традыцыі кнігадрукавання. Побач з вытанчаным малюнкам — некалькі радкоў, куды можна ўпісаць прозвішча. Такім чынам, кніга можа мець свайго гаспадара і быць каштоўным падарункам.

«Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі» рэцэнзавалася Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі і па праве лічыцца глыбокім і ўсёбаковым даследаваннем гісторыі тэатра і яго творчага ўнёску ў беларускае мастацтва.

### АКУЛЯРЫ ЛАГЕРФЕЛЬДА ДЫ ШЛЯХЕТНЫ КУНТУШ

Што такое мода? Штодзённасць, з якой кожны чалавек сутыкаецца пастаянна, нават не заўважаючы, ці вытанчанае мастацтва? Знайсці адказ дапаможа «Энцыклапедыя моды, адзення і аксесуараў», якая выйшла ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Кніга ўтрымлівае каля 4500 артыкулаў і 660 малюнкаў, ахапліваюць ўсе перыяды сусветнай гісторыі моды — ад вынаходніцтва тканіны і ткацкага станка да...

У энцыклапедыі распавядаецца пра шматлікія тонкасці, звязаныя з адзеннем і аксесуарамі. Чытач навучацца разбірацца ў папулярных fashion-стылях, даведаюцца пра паходжанне дэталяў свайго гардэробу, пазнаёмяцца з народнымі касцюмамі. Выданне ўключае інфармацыю пра ювелірныя вырабы, арнамент, знаёміць з матэрыяламі і тэхналогіямі вырабу адзення, прычым не толькі сучаснымі, але і старадаўнімі, практычна забытымі.

Значная частка энцыклапедыі раскрывае каларыт беларускай моды, такім чынам упісваючы яе ў сусветны кантэкст. Адны з самых цікавых артыкулаў прысвечаны слуцкім паясам і касцюмам шляхты.

Аўтарам кнігі з'яўляецца Таццяна Царашковіч — беларускі эксперт моды, аўтар больш як 30 падручнікаў і кніг, якая сама займаецца дызайнам касцюма. «Шматлікімі рэчамі мы карыстаемся, нават не ведаючы аб іх паходжанні. Напэўна, толькі людзі, якія вучаць нямецкую мову, здолеюць перавесці слова *гальштук* даслоўна: шыйная хустка. Энцыклапедыя вучыць разумець моду, фарміруе ў людзей добры густ. Мы кожны дзень апранаемся, дый, можа быць, варта рабіць гэта прыгожа?» — прапануе Таццяна Царашковіч.

Энцыклапедыя чытаецца лёгка, нягледзячы на вялікую колькасць прафесійных тэрмінаў. Сакрэт у добрым слоўніку, дзе даступнай мовай расшыфроўваюцца ўсе незразумелыя выразы, апісваецца паходжанне рэчаў і іх сучасны модны статус. Асобнымі артыкуламі выдзелены персаналіі: знакамітыя куцюр'е, мадэлі — словам, іконы стылю.

Артыкулы ў кнізе праілюстраваны арыгінальнымі аўтарскімі малюнкамі мастака Святланы-Катарыны Зябкінай, якая займалася таксама мастацкім афармленнем і дызайнам. У энцыклапедыі шмат пазнавальных фатаграфій. Напрыклад, відаў гадзіннікаў. Не ўсе ведаюць, што некаторыя з іх умеюць вызначаць фазы месяца ці быць спадарожнікамі для людзей, якія счытваюць інфармацыю пальцамі са спецыяльных пласцінак.

«Энцыклапедыя моды» будзе цікавая ўсім — ад студэнтаў да аматараў гісторыі. Але галоўную каштоўнасць яна ўяўляе для тых, чыя прафесія шчыльна звязана са стварэннем адзення — мадэльераў, мастакоў тэатра і кіно, рэканструктараў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Недзіцячыя жарсці ў дзіцячым тэатры

Ужо не першы тыдзень Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача «сядзіць на парахавой бочцы». Зацягнуты рамонт будынка тэатра, вотум недаверу дырэктару Мікалаю Казюліну, пытанне ліквідацыі пасады мастацкага кіраўніка, кардынальная змена рэпертуару — шэраг хвалюючых пытанняў для кожнага тюгаўца.

### ХТО КАГО?

Адно за адным пасяджэнні мастацкага савета фіксавалі ды ўдакладнялі становішча ў тэатры. Для канчатковага вырашэння праблем у ТЮГ — а дакладней, у будынак кінатэатра «Электрон», дзе часова (на чатыры гады) размясціўся дзіцячы тэатр — на сустрэчу з калектывам прыехаў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Карпенка.

— Падчас чарговай сустрэчы з членамі мастацкага савета мы дамовіліся, што на працягу месяца вызначымся з кадравымі пытаннямі, — патлумачыў калектыву Тэатра юнага гледача Ігар Васільевіч. — Пасаду мастацкага кіраўніка ніхто не скарачае. Спектакль «Сіняя птушка» застаецца, фінансаванне яго забяспечана. І, галоўнае, завяршаецца рэканструкцыя будынка ТЮГа па вуліцы Энгельса, 26. Ужо падводзена цяпло, ідуць апрацоўчыя работы. План уводу аб'екта — чэрвень бягучага года. Вызначаны таксама і прэм'ерны спектакль — «Сіняя птушка» Марыса Метэрлінка, пастаноўка, якая зможа паказаць усе тэхнічныя магчымасці новай сцэны.

Калектыву такога адказу было недастаткова: пытанне з дырэктарам не вырашана! У тэатры патрэбны гаспадар, які змог бы разабрацца ва ўсіх надзённых праблемах, а ніяк не новы скандал.

Слова ўзяў Мікалай Казюлін: «Я гатовы хоць цяпер напісаць заяву аб сыходзе з пасады дырэктара Тэатра юнага гледача. Але не агульны сход прызначае дырэктараў і не ён іх здымае. Да таго патрэбен тыдзень-другі для перадачы ўсіх спраў новаму чалавеку. Зразумела, што ў нежаданні калектыву ўзаемадзейнічаць ёсць і мая віна. Але ў ТЮГу праблемы былі і чатыры гады таму. У вас існуюць усталяваныя традыцыі і правілы, але ўдзельнічаць у гульнях я не збіраюся. Жадаю вам згуртаванага ўзаемадзеяння на доўгія гады, а таксама дабрыні, што важна для тэатра, які працуе ў імя дзяцей».

### УСЁ ЛЕПШАЕ — ДЗЕЦЯМ!

Размаўляючы з супрацоўнікамі тэатра пасля сходу, разумееш, што гэты «вір падзей» ім не патрэбен: «У нас процьма працы, не кажучы нават пра прэм'ерны спектакль «Сіняя птушка»! Чатыры гады запар тэатр не можа працаваць у такіх умовах, але ж працуе. І працуе добра! А нам гавораць пра арганізацыю маркетынгавага праекта і г. д.».

У 2008 годзе ТЮГ выехаў са свайго будынка. Спектаклі ідуць на арандаванай сцэне Дома літаратараў, а тэхнічныя службы знаходзяцца ў будынку кінатэатра «Электрон», што ў раёне плошчы Казінца. Супрацоўнікі тэатра прапанавалі паглядзець, у якіх умовах на працягу чатырох гадоў працуюць тэхнікі: у фае «Электрона» — склад дэкарацый, бутафорскі цэх — пыльная камора з цьмяным святлом, дзе майстры прызвычаіліся ствараць «высокае мастацтва», а ў сталярнай майстэрні ўвогуле працуюць у ватоўках: градуснік паказвае нулявую тэмпературу. За чатыры гады людзі не пакінулі свой дом — за мізэрную зарплату працягваюць працаваць у спартанскіх умовах. Амаль тэатр... абсурду!



*Бутафорскі цэх Тэатра юнага гледача.*

### ПІРАЖОК З НАЧЫНКАЙ

Напрыканцы сустрэчы намесніка старшыні Мінгарвыканкама з тюгаўцамі апошнія выказалі адзіную просьбу: «Новы дырэктар павінен займацца эканамічнымі і гаспадарчымі пытаннямі тэатра. А ўзровень і кампетэнцыю ўсяго калектыву, яго аблічча перад усім горадам вызначае мастацкі кіраўнік. Як толькі непрафесіяналы сутыкаецца з мастацтвам — узнікае канфлікт. Нам не патрэбен дырэктар з "творчай начынкай", як ён сам пра сябе казаў», — падкрэслілі тюгаўцы.

Па апошніх звестках з тэатра, М. В. Казюліна вярнулі на папярэдняе месца працы — у ДКАУ «Палац культуры "Лошыцкі"», а выконваючым абавязкі дырэктара прызначылі М. Ф. Якімкова.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Наш Анры Русо

Сусветна вядомы мастак Анры Русо да пенсіі працаваў на парыжскай мытні і толькі пасля пачаў актыўна займацца жывапісам у так званым «наіўным стылі».

Гэтым ён заслужыў усеагульнае прызнанне на выстаўках дэмакратычнага Салона незалежных мастакоў. Яго прыклад адкрыў дарогу шматлікім таленавітым мастакам «чыстага сэрца». Непасрэднае і светлае ўспрыманне свету — тое, што іх аб'ядноўвае. З ліку такіх творцаў і Віктар Берасневіч.

Паважаны педагог і мастак з багатым творчым набыткам. Асоба, якой багаты жыццёвы досвед замяніў акадэмічную адукацыю. Працуючы ў школе, В. Берасневіч дапамагаў вучням праяўляць лепшыя здольнасці і далучаў да агульначалавечых каштоўнасцей. Займацца жывапісам пачаў толькі ў сталым узросце.

Творчаму погляду Віктара Берасневіча на свет уласціва асаблівая ўважлівае стаўленне да родных мясцін. Ціхія вуліцы Узды на гарадскіх пейзажах творцы становяцца гарманічным асяроддзем, дзе чалавек забываецца на ўсе трывогі і праблемы. Як ідэальны ўклад жыцця адлюстроўваюцца мастаком вясковыя матывы Уздзеншчыны.

Віктара Вікенцьевіча можна назваць сонечным жывапісцам. Яго пейзажы патанаюць у прамяністай квецені. Дзякуючы жыццесцвярджальнаму бачанню мастака карціны пераконваюць гледачоў у тым, што беларуская прырода — канцэнтрацыя духоўнай сілы Радзімы.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# Вясковы мінор

Кажуць, што кожнага чалавека Бог надзяляе адметным талентам. І толькі ад нас залежыць, як яго развіваць. Уздзенскі творца Сцяпан Андруховіч шчодра выявіў свой мастакоўскі дар...

У студзені Уздзеншчына адзначыла 105-гадовы юбілей жывапісца. Партрэты рукі Андруховіча, нягледзячы на знешні спакой і гармонію аблічча, выдаюць унутраны жаль. Гэтым пачуццём прасякнуты літаральна ўсе карціны: ці то знакаміты партрэт беларускага песняра Янкі Купалы, ці то пейзажныя замалёўкі, ці то сюжэтныя палотны пра жыццё калгаснай вёскі.

Галоўная тэма творчасці С. Андруховіча — лёс селяніна-беларуса. Зрэшты, мастаку даводзілася пісаць карціны і для таго, каб дагадзіць тагачаснай ідэалагічнай сістэме. Прыклад таму — «Пасля працы. Гутарка агітатара».

Лета — гэта вір фарбаў, блакіт неба, энергія жыцця. Але на карціне Сцяпана Андруховіча «Летні дзень» неба спрэс зацягнута шэра-блакітнымі хмарамі, па-восеньску нерухомая вада, стомленыя коні... І толькі асобныя блікі заходзячага сонца ажыўляюць пейзаж. Дамінуе мінор і ў карціне «Мінскае мора». Адкуль ён? Чаму мастак выбраў менавіта такі стыль?

«У творчасці Сцяпана Адамавіча не ўсё аднолькава-раўнацэнна. Здараецца, работу нішчыць нічым не апраўданая стракатасць ці занадта заглушае ўсё мінор», — пісаў крытык Уладзімір Мiсун.

Можна і не пагадзіцца з меркаваннем крытыка. Якраз непасрэднасцю, разнастайнасцю пачуццяў, праўдзівасцю манеры і прываблівае творчасць Сцяпана Андруховіча. Ён не парушыў адзін з самых важных законаў выяўленчага мастацтва: форма абавязкова падпарадкоўваецца ідэі твора. І тое, што падалося крытыку стракатасцю, апынаецца праяўленнем стыхійнага парыву імкнення да праўды, свабоды творчасці... Відавочна: бунтоўнасць творчай манеры мастака характарызуе яго як асобу, здольную на неардынарныя ўчынкі.

**Зоя КАЛКОЎСКАЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея**

# Са Светлагорска — у Сочы!

Папулярны расійскі горад-курорт стаў сёлета не толькі спартыўнай сталіцай свету. У сакавіку, падчас правядзення ў Сочы Паралімпійскіх гульняў, тут разгорнецца маштабная культурная акцыя «Хары Расіі — спорту свету». Ажыццяўляецца яна пры падтрымцы Усерасійскага харавога таварыства, Міжнароднай арганізацыі *Interkultur*, якая ладзіць Сусветныя харавыя гульні, ды Аргкамітэта «Сочы 2014». Арганізатары харавога сочынскага праекта запрасілі для ўдзелу ў ім гасцей з Беларусі.

Хто ж яны, прадстаўнікі нашай краіны на грандыёзным форуме, які паяднае тры тысячы юных спеўных галасоў? Гэта Узорны хор хлопчыкаў і юнакоў ды вакальны ансамбль юнакоў Светлагорскай дзіцячай школы мастацтваў (кіраўнік Г. Ур'еўская-Еўсюкова). Хору 10 гадоў, створанаму на яго аснове ансамблю — 9. Невялікі ўзрост для творчага калектыву, а колькі сур'ёзных набыткаў, адзначаных фестывальнымі дыпломамі, конкурснымі ўзнагародамі на радзіме і далёка за яе межамі! Галасістым светлагорцам апладзіравалі ў Польшчы, Расіі, Швейцарыі. Яны сталі лаўрэатамі III прэміі міжнароднага харавога фестывалю-конкурсу «Песни над Невой» у Санкт-Пецярбургу, атрымалі дыплом II ступені на XXVIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, дыплом X Мінскага міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў, прывезлі дыплом I катэгорыі з міжнароднага фэсту «Юнацтва планеты» ў Цюрыху. А ў родным горадзе па выніках I міжнароднага фестывалю дзіцячых і юнацкіх хароў «Спеўны Светлагорск» ім уручылі ўзнагароду «За музычнасць, складанасць рэпертуару і самае яркае выступленне». Хор заахвочваўся Гранд-прэміяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. З мастацтвам светлагорскіх вакалістаў знаёмяць запісаныя імі тры кампакт-кружэлкі, два DVD-дыскі... Ды ўсяго не пералічыць.

Выступаюць хлопцы і з дабрачыннымі канцэртамі: у Свята-Елісавецінскім манастыры, у Валожынскім доме-інтэрнаце для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, у Івянецкім доме-інтэрнаце для людзей з асаблівасцямі фізічнага развіцця, перад выхаванцамі Мінскага Суворускага вучылішча (маюць грамату Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь «За развіццё творчых кантактаў, далучэнне суворацаў да нацыянальных, культурных і маральных каштоўнасцей») ды інш.

А своеасаблівай пуцёўкай на закрыццё «культурнай алімпіяды» ў Сочы стаў паспяховы ўдзел гасцей са Светлагорска ў леташняй Асамблеі хароў Расіі «Співаем для свету», праведзенай у чарнаморскім Туапсэ. Там пасланцы нашай краіны заваявалі дыпломы лаўрэатаў I ступені ў намінацыях «Хор хлопчыкаў» і «Вакальныя ансамблі». Цяпер таленавітыя беларусы пад кіраўніцтвам Г. Ур'еўскай-Еўсюковай з натхненнем і адказнасцю рыхтуюць падтрымаць традыцыю творчай садружнасці дзяцей і моладзі, скіраваную на стварэнне міру ў сэрцах і розуме людзей, на развіццё мастацкіх здольнасцей, умацаванне рознабаковых сяброўскіх і культурных сувязей.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Аляксандра БЕЗМЕН, дырэктар народнага гісторыка-краязнаўчага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі» 25-й мінскай гімназіі, распавядае пра сваё знаходжанне ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Зубронак»:**

— Мне пашчасціла наведаць гэтае дзіўнае месца двойчы. У 2012 годзе я брала ўдзел у конкурсе «Таямніцы малой Радзімы» ў намінацыі «Паданні». Праца «З паданняў і казак былых пакаленняў Бярэзіншчыны» дапамагла мне прайсці на рэспубліканскі этап, які праводзіўся ў НДЦ «Зубронак». Маё даследаванне заняло другое месца, і я правяла незабыўныя дні на беразе возера Нарач.

Летась зноў наведала «Зубронак» — пасля ўдзелу ў конкурсе «Мясціны майго дзяцінства». Гэтым разам у краіне дзяцінства пабывалі таксама мае аднакласнікі Сюзанна Каравянская, Яна Канаплёва, Паліна Жураўлёва, Генадзь Павіч, якія дапамаглі мне абараніць працу «Тут шчыра працуюць і цікава жывуць». У ёй я распавяла пра славутыя мясціны горада Беразіно. На рэспубліканскім этапе мы сталі лаўрэатамі.

Паколькі наша змена насіла назву «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся», амаль усе мерапрыемствы, якія ладзіліся ў цэнтры, былі звязаны з краязнаўствам і беларускімі народнымі традыцыямі. Падчас шматлікіх конкурсаў, спецыяльных «акадэмій» нас знаёмілі з паняццем краязнаўства, распавядалі пра розныя даследаванні, якія праводзіліся ў музеях, тлумачылі, як правільна правесці экскурсію і падрыхтаваць лекцыі, цікавыя для людзей усіх узростаў. Заняткі праходзілі ў форме дыскусій, гульняў. Кожны атрад ператвараўся ў музей, у кожнага «супрацоўніка» якога былі свае абавязкі.

Мяне, напрыклад, прызначылі дырэктарам музея. Наш музейны калектыў атрымліваў адмысловыя заданні — ад конкурсаў малюнкаў да калектыўнага выступлення з творчым нумарам. За перамогі ўзнагароджвалі «зубрыкамі».

Такім жа чынам праводзіліся гульні паміж насельнікамі карпусоў. У канцы змены падвялі вынікі. Атрад, у якога аказалася больш зубрыкаў, лічыўся пераможцам, а яго каманда ўзнагароджвалася смачным пірагом.

*Музейны ўнікат*

# Выбітны шэдэўр мясцовай школы

У межах урачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню 75-годдзя з дня заснавання Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, падрыхтаваны праект «10 шэдэўраў. Мастацкія творы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь».

На працягу юбілейнага года будзе экспанавацца дзесяць самых адметных помнікаў мастацтва з асабістых фондаў, якія прадстаўляюць музейныя калекцыі з унікальнага збору Нацыянальнага мастацкага. Гэта найлепшыя работы вядомых мастакоў. Адкрыў праект выдатны алтарны абраз «Маці божая Адзігітрыя (Мінская?)» сярэдзіны XVIII стагоддзя, які экспануецца па 23 лютага.

— Ікона паходзіць з вёскі Хоўхлава Маладзечанскага раёна, — распавяла загадчык аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея, куратар выстаўкі Алена Карпенка. — Абраз беларускай школы выканаы, бачна па ўсім, таленавітым мастаком, магчыма, віленскім.

Залатую карону над галавой Марыі падтрымліваюць вялікія анёлы з сімвалічнымі кветкамі лілеі і ружы ў руках. Кампазіцыя крыху нагадвае «Каранаванне Багародзіцы». У самым версе абраза лунае голуб (Святы Дух). Фон характэрны для беларускіх абразоў: гравіраваны раслінным арнаментам і пазалочаны.

— Абраз, як было прынята ў той час, аздоблены сярэбранай шатай і каронамі, згадваецца ў інвентарах касцёла Дзевы Марыі вёскі Хоўхлава за 1789 і 1830 гады, — адзначыла Алена Карпенка. — Пад нагамі Марыі знаходзіўся маладзік са срэбра на ўсю шырыню іконы. Алтар, дзе знаходзілася гэтая ікона, асвечаны ў 1760 годзе. Брацтва Імя Марыі пры касцёле было зацверджана папам Бенядзіктам XIV у 1740-м. Абраз, верагодна, выкананы ў 1740 — 1760-х гадах. Дарэчы, інфармацыю па іконе сабраў наш вядучы навуковы супрацоўнік, кандыдат мастацтвазнаўства Аляксандр Ярашэвіч, які падрыхтаваў грунтоўны артыкул для выдання «Алтарны жывапіс Беларусі XVIII — XIX стст.».



**Раіса МАРЧУК**

# Памяць — катэгорыя вечная

У дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, 15 лютага, былы намеснік камандзіра па выхаваўчай рабоце 5-й спецыяльнай асобнай брыгады Сяргей Князь заўсёды прыходзіць на Востраў Мужнасці і Смутку ля Траецкага прадмесця ў Мінску на сустрэчу з пабрацімамі, якія прайшлі праз полымя вайны ў Афганістане.

Сяргей Князь — выпускнік Ваенна-палітычнай акадэміі імя У. І. Леніна (г. Масква), падпалкоўнік запасу, член дабрачыннага фонду «Памяць Афгана», узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі і «За службу Радзіме ва Узброеных сілах СССР». Не раз выступаў у якасці кансультанта для супрацоўнікаў музея баявой славы спецыялізаванай брыгады № 5 у горадзе Мар'іна Горка.

Сёння былы баявы афіцэр піша кнігу «Мой Афганістан». Да прыходу савецкіх салдат гэтая ўсходняя краіна знаходзілася ў стане грамадзянскай вайны, зазначае аўтар. Не ўсе прынялі красавіцкую рэвалюцыю. Заявіў пра сябе і ісламскі фундаменталізм. Афганістан у 80-я гады мінулага стагоддзя ператвараўся ў цэнтр міжнароднага тэрарызму.

Савецкія войскі прыйшлі не заваёўваць гэтую краіну, падкрэслівае Сяргей Князь. Важна было дапамагчы афганцам ажыццявіць Урадавую майскую Праграму сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў: ліквідаваць непісьменнасць, прыгнёт, феадальныя адносіны. Абмежаванаму кантынгенту савецкіх войск у ДРА даводзілася нялёгка. Жылі ў палатках, пакутавалі ад спякоты: летам 50 градусаў цяпла, а ў гарах вельмі сцюдзёна. Каб наталіць смагу, салдаты рабілі адвар з вярблюжай калючкі. Гэты напой-антысептык ратаваў і ад некаторых хвароб.

Аўтар будучай кнігі падчас знаходжання ў Афганістане не развітваўся з фотаапаратам. На адным здымку — Аляксандр Разенбаум у ваеннай вопратцы, на другім салдаты раздаюць афганцам харчаванне прама з грузавіка.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

# Далёкая блізкая вайна

Выстаўка «Дзікая краіна Харасана», прымеркаваная да 25-х угодкаў выводу савецкіх войск з Афганістана, працуе ў Мемарыяльным музеі Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава. Экспанаты прадаставіў Віцебскі музей воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Сёння па-рознаму ацэньваюцца падзеі, якія разгортваліся на афганскай зямлі. Па-рознаму глядзяць на гэтую вайну тыя, хто аддаваў загады, і тыя, хто іх выконваў. Але для абодвух бакоў усё, што адбывалася, укладваецца ў адно ёмістае і страшнае слова — вайна.

Частка экспанатаў адлюстроўвае трагічны лёс нашых землякоў. Ёсць тут і форма воінаў-інтэрнацыяналістаў, і адзенне жыхароў Афганістана. Экспануецца, напрыклад, раскрыты парашут з ранцам, які можна прымерыць. Акрамя гэтага ўвазе наведвальнікаў прадстаўлены элементы абмундзіравання і амуніцыі савецкіх салдат, дакументы і фотаздымкі, прадметы рэлігійнага прызначэння, узнагароды, паліграфічная прадукцыя, якую спецыяльна выпускалі для непісьменнага афганскага насельніцтва.

Можна тут пазнаёміцца са звычаямі і абрадамі афганскага народа, а таксама арабскімі пісьмёнамі. Выстаўку суправаджае дакументальны відэаролік «Вайна дзесяці побач», у якім распавядаецца пра падзеі тых гадоў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Суайчыннікі*

# Біяграфія для росшукаў

## ЯК СЛУЧАНІН ВЫРАТОЎВАЎ АД СЛЕПАТЫ НАСЕЛЬНІКАЎ ПАЎНОЧНАГА КАЎКАЗА

Так часта здараецца… Хтосьці з землякоў пакіне свой след у іншай старонцы, а дома пра яго нічога не ведаюць. З'ява распаўсюджаная. І, здавалася б, нічога не паробіш… Шкада, што так склалася і са Станіславам Ачапоўскім, які нарадзіўся ў вёсцы Ёдчыцы Слуцкага раёна 1 лютага 1878 года. Тады гэта быў яшчэ Слуцкі павет. Медык, дакладней, афтальмолаг, Станіслаў Уладзіміравіч ужо ў 1904 годзе меў навуковую ступень доктара медыцыны. Па тым часе высокая навуковая кар'ера!

У 1896 годзе Станіслаў Ачапоўскі закончыў з залатым медалём Слуцкую гімназію. У 1901 годзе — Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Санкт-Пецярбургу.

У 1901 — 1904 гг. С. Ачапоўскі — асістэнт адной з кафедр Ваенна-медыцынскай акадэміі. За паспяховую абарону работы «Флегмона арбіты» ён і атрымлівае званне доктара медыцынскіх навук. З 1904 г. — галоўны ўрач афтальмалагічнай бальніцы Чырвонага Крыжа ў Пяцігорску. З 1909-га — загадчык аддзялення ў бальніцы Кубанскага казачага войска. Шмат працуе ў палявых умовах, выязджае ў аддаленыя паселішчы краю. Становіцца легендарным доктарам Паўночнага Каўказа, які выратоўвае ад слепаты тысячы жыхароў.

Першая Сусветная вайна, Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, Грамадзянская вайна. Ва ўсіх перыпетыях Станіслаў Уладзіміравіч сваім галоўным клопатам лічыў лячэнне людзей, за што ў 1926 годзе быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Удзячныя насельнікі Паўночнага Каўказа прысвойваюць Ачапоўскаму званне Грамадзяніна аула Учкулан і ганаровага члена Учкуланскага аульнага Савета. Станіслаў Уладзіміравіч піша навуковыя працы, брашуры.

Працуе С. Ачапоўскі і ў галіне краязнаўства Паўночнага Каўказа. Вядома, друкуе шэраг нарысаў прыродазнаўчага характару. У 1941 —1943 гг. наш зямляк разам з Кубанскім медыцынскім інстытутам знаходзіўся ў эвакуацыі ў Ерэване. У 1945 г. яго абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Сын Станіслава Уладзіміравіча — Уладзімір (1934 — 1973) — вучоны-арнітолаг, кандыдат біялагічных навук, аўтар фенальгічных публікацый у мясцовым друку.

Памёр Станіслаў Ачапоўскі 17 красавіка 1945 года ў Краснадары. Хацелася б спадзявацца, што імя нашага земляка будзе ўшанавана і ў Беларусі: назвай вуліцы ў Слуцку альбо мемарыяльнай дошкай. Ці хаця б згадкай у адным з энцыклапедычных выданняў. А слуцкія краязнаўцы, магчыма, прадоўжаць пошук дэталей з жыцця, навуковай і краязнаўчай дзейнасці Станіслава Ачапоўскага. Яго біяграфія гэтага вартая.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Украінскі след на Берасцейшчыне

Падарожжа па ўкраінскіх літаратурных адрасах у Беларусі ў адзін-два экскурсійныя дні не ўкласці. Па-першае, судакрананне пісьменнікаў, якія прарочылі свету «изменчивость в безумном беге времени» на мове Тараса Шаўчэнкі і Івана Франка, з радзімай Янкі Купалы і Якуба Коласа вымяраецца ўжо стагоддзямі. Па-другое, свая творчая повязь з Украінай ёсць, пэўна, у кожнага рэгіёна Берасцейшчыны.

Калі, азіраючыся на вядомыя факты беларуска-ўкраінскага літаратурнага пабрацімства, пісаў гэтыя радкі, з падмаскоўнага горада Мыцішчы пазваніла Вера Ляшук, вядомы брэсцкі літаратуразнаўца і краязнаўца. Чаму адтуль? Узрост прымусіў перабрацца бліжэй да сына. Вера Якаўлеўна расказала, што піша рэцэнзію на кнігу вершаў і перакладаў Ніны Мацяш «У далонях ветру», якая пабачыла свет ужо пасля смерці паэтэсы. А на мае роспыты пра ўкраінскія літаратурныя адрасы заўважыла, што іх на Берасцейшчыне нямала.

Пагаварылі мы з ёю і пра Аляксандра Гаўрылюка. Гэты ўкраінскі паэт і празаік родам з Бяла-Падляскага павета (тэрыторыя сучаснай Польшчы). Яго бацька быў адным з удзельнікаў штурму Зімняга палаца ў Петраградзе. Вярнуўшыся дадому, узначаліў рэвалюцыйны камітэт. Далучыўся да рэвалюцыйнай дзейнасці і сын. Стаў сакратаром Дамачаўскага райкама Кампартыі Заходняй Беларусі. За 10 гадоў яго 14(!) разоў арыштоўвалі польскія ўлады. Двойчы трапляў у Бяроза-Картузскі лагер. Пра свае перажыванні і нягоды таварышаў расказаў у паэме «Песня з Бярозы». А верш «Голова ж ти моя нелегальна…», які стаў затым песняй падпольшчыкаў у Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі, Аляксандр Гаўрылюк напісаў у Брэсцкім астрозе.

— Дарэчы, паэму «Песня з Бярозы» пераклалі на беларускую мову Міхась Рудкоўскі і Ніна Мацяш, — удакладніла Вера Ляшук. — А ў Мацяш, якая доўгія гады жыла ў Белаазёрску, была яшчэ і велізарнейшая паяднанасць з Украінай праз дружбу з Лінай Кастэнка, паэзію якой таленавіта перакладала на беларускую мову. Невыпадкова нашу зямлячку адзначылі міжнароднай украінскай прэміяй імя Рыгора Скаварады. Ніна Мацяш пісала пра тое, што лічыць Ліну Кастэнка паэтам з выразнай грамадзянскай пазіцыяй.




Бяроза. Казармы, дзе ў 1920 — 1930-я гады размяшчаўся канцлагер.

А яшчэ як «заданне на заўтра» адзначыў бы важкасць клопату па выданні асобнай беларускай кнігай твораў украінскага паэта Аляксандра Гаўрылюка. Лепшага помніка барацьбіту за волю ўкраінскага і беларускага народаў і не трэба. Але будзем спадзявацца, што вязня канцлагера ў Бярозе-Картузскай яшчэ ўспомняць і ў Бярозе, і ў Брэсце. Тым болей што ў абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі наладжаны цесныя стасункі з украінскімі калегамі. І беларусы нярэдка бываюць у Луцку, на Валыні.

Ізноў далучуся да памяці незабыўнай Ніны Мацяш, якая, расказваючы пра сяброўства з валынскім паэтам Міколам Чарняком, успамінала і сумесныя, у агульнай групе ўкраінскіх і беларускіх пісьменнікаў, паездкі па Валыні і Берасцейшчыне для ўзаемнага знаёмства з літаратурай і творцамі «нашых суседскіх земляў».

Але вернемся ў пачатак мінулага стагоддзя. У 1898 годзе на Кобрыншчыне нарадзіўся ўкраінскі паэт Дзмітрый Фалькоўскі (сапраўднае прозвішча — Ляўчук). Вучыўся ў Кобрынскім рэальным вучылішчы. Затым — у Брэсцкай гімназіі. Падчас грамадзянскай вайны ўваходзіў у падпольную групу Расійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў). У 1923 годзе пераехаў у Кіеў. Паспеў выдаць паэму «Чабан», тры паэтычныя зборнікі. У 1934 годзе яго арыштавалі і ў хуткім часе расстралялі. У 1989-м у Кіеве пабачыла свет кніга з яго творчай спадчыны — «Паэзія». У зборніку нямала лірычных вершаў і пра родныя мясціны паэта.

У вёсцы Столпы (Жабінкаўскі раён) у сям'і унтэр-афіцэра нарадзіўся ўкраінскі паэт Уладзімір Кітаеўскі (1896 — 1940). «Большасць яго вершаў напісаны на ўкраінскай мове, — зазначае брэсцкі літаратуразнаўца Галіна Снітко. — Іх змяшчаў часопіс «Вікна», які выходзіў у Львове. У час Першай Сусветнай вайны Кітаеўскія аказаліся ў шэрагу бежанцаў. Вяртанне ў родныя мясціны асаблівай радасці не прынесла. Ад былой сядзібы засталося толькі папялішча. Даваялося адбудоўвацца наноў. У Столпах Кітаеўскія жылі да 1938 года. Затым сям'я пераехала ў Цяўлі, дзе Уладзімір служыў старастай. Хутка ён, праўда, быў звольнены з гэтай пасады за дазвол адкрыць украінскую школу для сялянскіх дзетак.

Іванаўшчына, вёска Сухое, — радзіма чалавека, якога «век-волкодав» прымусіў пражыць два пісьменніцкія жыцці. Ці магчыма такое? Мяркуйце самі. З 1929 года Змітро Віталін працаваў адказным сакратаром мінскага часопіса «Шляхі калектывізацыі». Выдаў першую паэтычную кнігу «Будзем жыць». У 1933-м яго выслалі ў Сібір. На шчасце, арыштавалі раней, чым махавік рэпрэсій набраў максімальную хуткасць. Здарылася б бяда ў 1937-м — не мінуць Дзмітрыю Сергіевічу (сапраўдныя імя і прозвішча паэта) расстрэлу. А так, можна сказаць, «пашчасціла»: адбыў тэрмін пакарання ў Томску і вярнуўся ў Беларусь, жыў на Гомельшчыне.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, — пайшоў на фронт, стаў ваенным журналістам. Пра сябе як пра беларускага пісьменніка нікому не згадваў. Так і праслужыў у войску да 1961 года. Звольніўся ў званні маёра. Апынуўшыся ў Адэсе, захаваў у душы даўнюю цягу да творчасці. У Адэсе ды Кіеве і быў выдадзены добры тузін раманаў і апавесцей нашага земляка, члена Саюза пісьменнікаў Украіны Дзмітрыя Сергіевіча, якога беларускія даведнікі і энцыклапедыі даўно пахавалі як паэта Змітро Віталіна. Аб'явіўся зямляк толькі ў гады перабудовы.

Украінская літаратурная Берасцейшчына — гэта і Столін, пазначаны лёсам паэта-франтавіка Платона Варанько, і былая берасцейская сядзіба ўкраінскага пісьменніка і дзеючага стацкага саветніка, аўтара драмы пра паўстанца Сямёна Гаркушу Аляксея Ста达жэнку (1805 — 1874). Нямала і іншых памяток літаратурнага пабрацімства. Таму і з'явілася ідэя, якая, магчыма, дазволіла б нагадаць пра многія слаўныя імёны. У Гродне традыцыйна праводзіцца фестываль нацыянальных культур Беларусі. Чаму б сярод музыкі і спеваў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва не знайсці пляцоўку для прадстаўлення ўкраінскіх паэтаў, якія жылі і тварылі ў Беларусі? Іх вершы, грамадзянскія і лірычныя, чытаюцца і сёння, успрымаюцца не толькі як асабістыя прызнанні, але і як сапраўдныя адкрыцці таямніц чалавечага існавання.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Беларусь была бацькоўскім домам…

І ў час электроннай манаполіі на інфармацыю, калі, здавалася б, усё і ўсім адразу становіцца вядомым, здараюцца падзеі, якія аказваюцца па-за нашай увагай. Не, інтэрнэт пра гэта паведаміў. А вось дома, у Беларусі…

Пайшоў з жыцця (22 мая 2013 года) вядомы расійскі вучоны — Сігурд Отавіч Шміт. Яркая і шматаблічная асоба! Хто з ім упоравень з блізкіх нам па часе расіян? Мо хіба Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў — такі ж апантаны збіральнік памяці пра рускую зямлю і рускую культуру, пра славянскі свет.

Сын нашага земляка — ураджэнца Магілёва, Героя Савецкага Саюза Ота Шміта, Сігурд Отавіч, з'яўляўся аўтарам больш як 20 кніг, соцень артыкулаў па праблемах палітычнай гісторыі Расіі XVI ст., гісторыі, культуры, археаграфіі, крыніцазнаўстве. Акадэмік Расійскай акадэміі адукацыі, дарадца Расійскай Акадэміі навук, старшыня Археаграфічнай камісіі Расійскай акадэміі навук (з 2002 года — ганаровы), ён неверагодна шмат зрабіў для выхавання цэлай школы дасведчаных спецыялістаў у археаграфіі, гістарычным крыніцазнаўстве. Яго вучні працуюць у навуковых установах, архівах, музеях Расіі, Беларусі, Украіны, іншых краін.

Менавіта дзякуючы ініцыятыве Сігурда Отавіча, яго аўтарытэту ў 1996 годзе ў Расійскім дзяржаўным гуманітарным універсітэце быў адкрыты вучэбна-навуковы цэнтр гістарычнага краязнаўства і масквазнаўства. А яшчэ праз год — кафедра рэгіянальнай гісторыі і краязнаўства, якую ўзначаліў яго вучань, Уладзімір Казлоў — між іншым, наш зямляк, ураджэнец Магілёўшчыны. С. Шміт змяніў бацьку і на пасадзе старшыні Саюза краязнаўцаў Расіі, які ўзначальваў з 1990 па 2007 гг., а ў апошні час (да самай смерці), быў ганаровым старшынёю грамадскага краязнаўчага аб'яднання Расіі.

З асаблівай цеплынёй ставіўся Сігурд Отавіч да Беларусі. Неаднаразова бываў на радзіме бацькі ў Магілёве, удзельнічаў у навуковых канферэнцыях, якія праводзіліся ў Мінску, Гродне. Шміт заўсёды падтрымліваў ініцыятывы беларускіх гісторыкаў, краязнаўцаў у напрамку развіцця крыніцазнаўства, археаграфіі, архівазнаўства, краязнаўства.

У адным з нядаўніх інтэрв'ю — у сувязі з 90-годдзем з дня нараджэння — Сігурд Отавіч сказаў чытачам «Российской газеты»: «Вялікая бяда ў тым, што ў школе паслядоўна змяншаецца колькасць выхаваўчых прадметаў. Прычына мне зразумелая: людзі сталі вельмі практычныя, ім падаецца, што ні літаратура, ні гісторыя не маюць практычнага значэння. Мауляў, якая розніца: Іван Грозны забіў сына ці сын забіў Івана Грознага, гэта ж было ў даўнія часіны…» І яшчэ — з таго ж інтэрв'ю: «Мы недаацэньваем і цалкам не разумеем подзвіг людзей сорак першага года. Гэта быў парыў, які вам цяжка ўявіць. Нічога падобнага я болей ніколі не бачыў і не ўбачу. Прычым гэты масавы подзвіг самаахвяравання адбываўся пасля страшнага, нічым не апраўданага перыяду тэрору…»

За свае выдатныя навуковыя і навукова-грамадскія заслугі Сігурд Шміт узнагароджаны прэміяй Урада Расійскай Федэрацыі ў галіне адукацыі (2007), прэміяй мітрапаліта Макарыя «За выдатны ўклад у развіццё айчыннай гістарычнай навукі» (2003), прэміяй імя Д. С. Ліхачова «За захаванне культурнай спадчыны», прэміяй «Трыумф» — «За значны ўклад у развіццё айчыннай і сусветнай навукі» і інш. У 2007 г. быў узнагароджаны Знакам «За заслугі перад Масквой».

Развітанне з вучоным прайшло 24 мая ў жалобнай зале Цэнтральнага Крамлёўскага шпіталя. 8 чэрвеня 2013 г. на Увядзенскіх могілках Масквы адбылося пахаванне праху С. О. Шміта, на якім прысутнічалі шматлікія калегі, вучні, сваякі нябожчыка. На гэтых жа Увядзенскіх могілках пахаваны гісторык, археолаг Леанід Аляксееў (у 1940-я гг. працаваў у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, пазней выкладаў археалогію ў Магілёўскім педінстытуце), а таксама ўраджэнцы Беларусі: кампазітар Эдуард Калманоўскі, адзін з першых рускіх ваенных лётчыкаў Сцяпан Наздроўскі (нарадзіўся ў Крычаве ў 1888 г., узнагароджаны чатырма салдацкімі Георгіеўскімі крыжамі), пачынальнік сусветнай акварыумістыкі, аўтар многіх прыродазнаўчых кніг Мікалай Залатніцкі, славуты генетык і прэзідэнт Акадэміі навук БССР Антон Жэбрак, вучоны ў галіне тэорыі стральбы артылерыі генерал-маёр артылерыі Пётр Гельвіх.

**Міхась ШУМЕЙКА, Мікола БЕРЛЕЖ**

*Год гасціннасці*

# Конкурс запрашае адпачыцц!

Беларускае грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы» сумесна з Міністэрствам спорту і турызму Беларусі, Гродзенскім і Брэсцкім аблвыканкамамі аб'явіла пачатак конкурсу дзіцячага малюнка «Адпачынак у вёсцы», які праводзіцца ў межах інфармацыйна-адукацыйнай кампаніі «Простыя рэчы».

У Год гасціннасці такое спаборніцтва становіцца асабліва актуальным, бо дзе, як не ў вёсцы, можна адчуць сапраўдную беларускую гасціннасць! Да ўдзелу запрашаюцца ўсе жадаючыя ва ўзросце ад 6 да 12 гадоў.

Прымаюцца малюнкі на тэмы, звязаныя з аграэкатурызмам, адпачынкам на ўлонні прыроды і ў вёсцы. Работы (не больш як адна ад кожнага аўтара) прымаюцца па адрасе: БГА «Адпачынак у вёсцы», г. Мінск, вул. Дуніна-Марцінкевіча, 6. Не забудзьцеся прыкласці да малюнка сваю анкету! Тэрмін правядзення конкурсу — з 10 лютага па 7 сакавіка 2014 г. Падвядзенне вынікаў — з 24 па 31 сакавіка.

Работы пераможцаў будуць выкарыстаны на плакатах, постарах і іншай інфармацыйнай прадукцыі ў межах інфармацыйна-адукацыйнай кампаніі «Простыя рэчы». Удзельнікаў чакаюць і прызы ад БГА «Адпачынак у вёсцы».

**Раіса МАРЧУК**

# Лінія Кашкурэвіча

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

У далейшым праца А. Кашкурэвіча над стварэннем ілюстрацый да кніг «Тры паэмы» Янкі Купалы, «Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага, «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага, «Снежныя зімы» і «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна, «Авадзень» Этэль Ліліян Войніч, «Фаўст» Іагана Вольфганга Гётэ, «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, «Казкі» Ганса Хрысціяна Андэрсена, «Карнікі» і «Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча, «Буранны паўстанак» Чынгіза Айтматава неаднойчы адзначалася ганаровымі дыпломамі і прэміямі на ўсесаюзных і міжнародных конкурсах. Значным дасягненнем мастака-графіка з'яўляецца серыя ілюстрацый да паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» (1973) — выдатнага помніка нацыянальнай культуры.

Падчас ілюстравання кніг у Арлена Міхайлавіча склаліся прыязныя стасункі з многімі пісьменнікамі: плённа працавалі з Іванам Шамякіным, Васілём Быкавым, але найбольш сябравалі з Уладзімірам Караткевічам. У адным з інтэрв'ю мастак адзначыў: «Караткевіч быў вельмі адукаваны. Добра ведаў мастацтва. Але з ім было цяжка працаваць: хацеў, каб ілюстрацыі былі рыхтык такія, як ён выдумаў сабе, апісаў… А я яму казаў: навошта ж мне маляваць тое, пра што ты гэтак добра напісаў? Сябравалі і з Алесем Адамовічам. Часта сустракаліся, абмяркоўвалі, што робіцца ў свеце. Я ілюстраваў яго кнігі, а ён усё прымаў з захапленнем».

Дарэчы, Уладзімір Караткевіч некалі даў трапную характарыстыку стылю мастака: «Даўно, яшчэ з самага пачатку, калі ён зрабіў ілюстрацыі да Хальдара Лакснеса, я зразумеў, што перад намі мастак суровы, паўночны. І адначасова беларускі, мяккі, — калі можна гаварыць пра мяккасць нашага народа, — добры, наш».



Фота Кастуся Дробава

Сярод сваіх калег-мастакоў А. Кашкурэвіч, мастак-мысляр, чалавек надзвычай адукаваны, вызначаўся глыбокім спасціжэннем традыцый заходнееўрапейскага мастацтва. Найбольш важнай і дарагой работай Арлен Кашкурэвіч лічыў «Варыяцыі на тэму «Фаўста» Іагана Вольфганга Гётэ» (1975). Распачаць такую працу мастаку прапанаваў перакладчык Васіль Сёмуха. Творца разглядзеў вобраз галоўнага героя як філасофскую ідэю, шмат разоў перачытваў і пераканаўся: «Фаўст» — твор на ўсе часы. Значным было і супрацоўніцтва з Алесем Адамовічам над «Карнікамі» (1981 — 1982) — спроба зазірнуць у бездань.

Працуючы ў станковай графіцы, мастак надаваў асаблівую ўвагу стварэнню вялікіх графічных цыклаў. Метад серыйнасці дазваляў яму найбольш поўна і разнастайна раскрыць сваю задуму: серыі афортаў «Майстры», «Партызаны», «Блакада» і інш. Менавіта за серыю «Партызаны» і цыкл гравюр па матывах паэзіі Янкі Купалы ў 1972 годзе А. Кашкурэвічу была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР, а праз год прысвоена званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.



*Арлен Кашкурэвіч «Апошні ліст».*

На выстаўцы твораў Арлена Кашкурэвіча ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прадстаўлена каля 80 палотнаў розных перыядаў творчасці мастака. Акрамя добра вядомых гледачу малюнкаў і эстампаў экспануюцца работы ранняга этапу творчасці (у тым ліку яго дыпломная работа па заканчэнні Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута) і творы апошніх гадоў. У вялікай серыі малюнкаў «Concerto Grosso» метафарычна ўвасоблена трагічнае супрацьстаянне паміж чалавекам-творцам і яго мастацтвам, немагчымасць дасягнення ідэалу. Грандыёзны цыкл «Мілае гарадское жыццё» (1987 — 2004) прысвечаны праблеме пачатку стагоддзя — адзінота чалавека ў сучасным мегаполісе, існаванне асобы ў няпростым сучасным свеце.

— Арлен Кашкурэвіч — сапраўдная заваёва ў беларускай культуры, рэальны факт — без пафасу. Гэта фігура павінна замацавацца ў свядомасці і прафесійных мастакоў, і народа. Арлен Міхайлавіч сваімі палотнамі стварыў сапраўдную энцыклапедыю беларускага жыцця. Такога ўзроўню мастакі нараджаюцца не кожны год. Сёння мы павінны гэта асэнсаваць і прыпаднесці іншым рэгіёнам і краінам, — адзначыў падчас адкрыцця выстаўкі намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Усходняя магія



*«Шырын і Фархад», 2013. Папера, скура, змешаная тэхніка.*

Выстаўка вядомага іранскага мастака Бехзада Базаргі, арганізаваная Пасольствам Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь, прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі. Экспазіцыю склалі 24 карціны майстра, створаныя ў акварэльнай тэхніцы.

Бехзад Базаргі нарадзіўся ў артыстычнай сям'і і з дзяцінства захапляўся жывапісам і літаратурай. На фарміраванне яго мастацкага густу вялікі ўплыў аказала творчасць персідскіх паэтаў Хафіза і Саадзі, а таксама выдатных мастакоў-мініяцюрыстаў Камаледзіна Бехзада і Рэзы Абасі.

Выстаўка Бехзада Базаргі — трэці выпадак узаемадзеяння з Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі. «Наша краіна мае тысячагадовую культурную гісторыю, таму нам вельмі прыемна паказаць невялікую частку сучаснага і адначасова старажытнага мастацтва Усходу», — адзначыў падчас адкрыцця выстаўкі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь Махамад Рэза Сабураў.

Творы, прадстаўленыя на выстаўцы, прывабліваюць тонкімі лініямі, яркай палітрай і багаццем дробных дэталяў. Паводле самога жывапісца, адметнасцю работ з'яўляецца пераважнае выкарыстанне бірузовага колеру, які падкрэслівае ўнікальнасць іранскага мастацтва.

Падчас адкрыцця выстаўкі словы ўзяў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца: «Іран захоўвае нацыянальнае аблічча, рэлігію, традыцыі. Адначасова задача кожнай нацыі — пазнаёміць свет са сваёй культурай, і выстаўка Бехзада Базаргі — выдатнае таму пацвярджэнне. Упэўнены, што нашы кантакты будуць развівацца».



*«Танцы дэрвішаў», 2011. Папера, акварэль, гуаш.*

Бехзада Базаргі працуе на грунце шматвяковай мастацкай культуры Усходу. Яго карціны, з аднаго боку, працягваюць лінію развіцця архаічнага іранскага мастацтва, з другога — пераплятаюцца з авангарднымі тэндэнцыямі, адпавядаюць сучасным патрэбам эстэтыкі.

Падчас прагляду выстаўкі беларускія аматары мастацтва змаглі наведаць майстар-клас Бехзада Базаргі.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2548.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк
13.02.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 629.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686